29 мая 2015 | № 21 (438)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Беражыце працу!

стар. 3

4 БЕЛАРУСКАЯ СТОП-МАДЭЛЬ

Дэкрэт №5 — наш адказ на не наш эканамічны крызіс. Ён дазваляе «нахіляць» работнікаў любога рангу: ад кіраўнікоў да шараговых выканаўцаў

29 АМАЗОНСКІ БАМ

Яшчэ не скончыўшы альтэрнатыўны Панамскаму канал у Нікарагуа, Кітай анансаваў новы мегапраект — будаўніцтва чыгункі праз джунглі Амазоніі

9–24

Літаратурная Беларусь

30 ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН: «КАЛІ ЖЫЦЦЁ ЎЖО ПРАЖЫТАЕ...»

Слова на развітанне самабытнага паэта, аднаго з выбітных прадстаўнікоў славутага «філалагічнага пакалення»



# Пайсці да канца

## Чым бліжэй выбары, тым больш прэтэндэнтаў на прэзідэнта



Сяргей ПУЛЬША

Усе прэтэндэнты на кандыдата ў прэзідэнты кажуць, што перамагчы дзейснага кіраўніка дзяржавы электаральным шляхам у той час, калі галасы выбаршчыкаў не лічацца, немагчыма. Але ёсць парачка асобаў, якія заявілі, што пойдуць «да канца».

У нас ужо «сем з паловай» прэтэндэнтаў на вышэйшую службовую пасаду. Пра паход на выбары заявілі сам Аляксандр Лукашэнка, ягоны вядомы спарынг-партнёр на выбарах, кіраўнік ЛДПБ Сяргей Гайдукевіч, дзве жанчыны — Таццяна Караткевіч ад «Гавары праўду» і Алена Анісім ад Таварыства беларускай мовы. Два лідары палітычных партый — Анатоль Лябедзька ад Аб'яднанай грамадзянскай і Сяргей Калякін ад «Справядлівага свету» і «дармаед у дэкрэце» Юрый Шульган. Самы рэйтынгавы, паводле сацапытанняў, апазіцыйны палітык Уладзімір Някляеў заняты стварэннем свайго руху «За дзяржаўнасць і незалежнасць Беларусі», але таксама не выключыў магчымасці балатавацца ў прэзідэнты. Гэта тая самая «палова» прэтэндэнта.

Амаль усе прэтэндэнты на мінулым тыдні актыўна выказваліся ў дачыненні да прэзідэнцкай кампаніі. З іхніх развагаў ужо можна вынесці пэўныя высновы, хто на што разлічвае.

Першае: ніхто з кандыдатаў-апазіцыянераў не будзе заклікаць народ у дзень выбараў выйсці на вуліцы «адзначыць перамогу альбо пратэставаць супраць фальсіфікацыі выбараў». Ніхто не заклікае на плошчу. За выключэннем дзвюх альтэрнатыўных пазіцый. Таццяна Караткевіч падчас анлайну ў інтэрнэт-выданні Naviny.by зазначыла, што калі народ выйдзе на гэтую плошчу, то яна будзе з народам. А «дармаед у дэкрэце» Юрый Шульган будзе «заклікаць народ не на плошчу, а ў буфет». Улічваючы нашае заканадаўства «больш трох не збірацца», калі міліцыянты пад несанкцыянаванай масавай акцыяй разумеюць нават заклік праз сацыяльныя сеткі разам пакатацца з горкі на санках (быў такі прэцэдэнт), заклік «у буфет» таксама можа быць прыроўнены да масавай акцыі.

Другое: вядома, для чаго прэтэндэнты прэтэндуюць на вышэйшую пасаду. Трое з пяці згаданых кандыдатаў будуць займацца піярам, а не выбарамі. Алена Анісім будзе папулярызаваць родную мову. Анатоль Лябедзька і Сяргей Калякін скарыстаюць выбарчую кампанію для раскруткі сваіх ідэяў і структураў у грамадстве.

Больш амбіцыйныя мэты ставяць перад сабою Караткевіч і Шульган. Калі Шульган проста заявіў, што «пойдзе да канца, якім бы гэты канец не быў», то мэта Караткевіч — змусіць уладу сесці за стол перамоваў і пачаць дыялог з тымі, хто прагне пераменаў, абапіраючыся на рэальныя лічбы галасавання. Гэтая размова, па яе меркаванні, павінная прывесці да пачатку рэформаў, на што і скіраваная ініцыятыва «Народны рэферэндум».

Дзіўна, але ў некаторых экспертаў менавіта гэты «шлях да канца», у прынцыпе, натуральны для тых, хто ідзе на выбары, выклікаў недавер і скепсіс. Напрыклад, палітолаг Павел Усаў назваў Караткевіч «фэйкавым кандыдатам», бо, па ягоным меркаванні, «яна не ўяўляе, наколькі сур'ёзнай з'яўляецца барацьба з аўтарытарнай уладай у Беларусі». Прыводзячы прыклад зніклых Ганчара і Захаранкі, Усаў заўважае, што ў Караткевіч ёсць дзіця, а значыць, яна дзеля 11-гадовага сына «да канца» не пойдзе, і прапанаваў Таццяне альбо вывезці сям'ю за мяжу, альбо перастаць крывадушнічаць.




**Ніхто з кандыдатаў-апазіцыянераў не будзе заклікаць народ выйсці на вуліцы**

Дарэчы, у Караткевіч у актыве не толькі праца ў штабе Някляева на выбарах 2010 года, але і дзве асабістыя кампаніі — парламенцкіх выбараў 2012 года і мясцовых 2014-га. І ў абедзвюх гэтых кампаніях, нягледзячы на ўсе адміністрацыйныя рэсурсы, кандыдаты ад улады павінны былі вырываць перамогу ў Караткевіч з боем. І калі яна падчас той жа канферэнцыі казала, што падтрымка выбаршчыкаў мацней за адміністрацыйны рэсурс — яна ведала, пра што кажа.

Ну а што тычыцца дзіцяці... Можна падумаць, што дзяцей няма ні ў Калякіна, ні ў Лябедзькі, ні ў іншых прэтэндэнтаў на прэзідэнта. І што, на гэтай падставе абвяшчаць усіх іх «фэйкавымі»? Нават «дармаед у дэкрэце» Юрый Шульган мае дзіця, хоць і ў разводзе з жонкай.

І тое, што тычыцца магчымасцяў. З'езд партыі «Справядлівы свет», на якім было прынятае рашэнне вылучыць кандыдатам у прэзідэнты Сяргея Калякіна, дыскутаваў адно пытанне: ці здолее партыя, высунуўшы свайго кандыдата, сабраць 100 тысяч подпісаў выбаршчыкаў для ягонай рэгістрацыі? Бо, калі не здолее, гэта можа лічыцца паразай партыі. Былыя камуністы вырашылі рызыкнуць.

У Караткевіч такой праблемы няма. У яе актыве — 120 тысячаў подпісаў грамадзян за «Народны рэферэндум». Яе ініцыятыўнай групе проста прыйдзецца яшчэ раз прайсціся па згаданых у «рэферэндумных» спісах адрасах і па другім разе сабраць тыя ж подпісы тых жа людзей, толькі ўжо пад іншай паперкай.

Такім чынам пакуль што з пункту гледжання рашучасці, жаданняў і магчымасцяў Тацяна Караткевіч апярэджвае ўсіх астатніх прэтэндэнтаў на пасаду кіраўніка дзяржавы. За выключэннем, канешне, нашага ўжо 20 год як правадыра.

# Працэс над Рубцовым паказаў супярэчнасці сістэмы

Арцём ЛЯВА

**Палітвязню Юрыю Рубцову прысудзілі два гады калоніі агульнага рэжыму за «ўхіленне ад адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі».**

Абсурднасць прад'яўленых Рубцову абвінавачванняў яшчэ перад пачаткам слуханняў у Пружанскім раённым судзе 27 мая акрэсліў у сваім каментары сын палітвязня Віктар: «Гэта проста цырк. Мой бацька выказаў сваю грамадзянскую пазіцыю, апрануў цішотку з надпісам. На гэта мае права кожны. Зараз ён адбывае пакаранне невядома дзе, невядома за што. Нават каментаваць гэтую сітуацыю немагчыма. Такое адчуванне, што мы жывём у перагорнутым свеце. Абвінавачванне ва ўхіленні ад адбыцця пакарання лічу проста абсурдным. Як можна быць пакараным пазбаўленнем свабоды і пры гэтым ухіляцца ад адбыцця пакарання?»

Судовы працэс над Рубцовым вёў суддзя Мікалай Рэпіха. Падчас разгляду справы было заслухана каля 15 сведак: у асноўным прадстаўнікоў адміністрацыі папраўчай установы адкрытага тыпу №7 у Купліне і тых, хто адбывае там пакаранне.

Юры Рубцоў пасля дастаўкі ў суд у знак пратэсту супраць судовага бязмежжа агаліўся па пояс. На грудзях у яго нанесеная татуіроўка «Лукашэнка сыходзь». Падсуднага змясцілі за спецыяльную шкляную агароджу з закратаваным верхам і прыставілі да яго міліцыянтаў.

Супрацоўнікі спекамендатуры сцвярджалі, што Рубцоў адмаўляўся ад працы, хаця, як асуджаны, абавязаны працаваць. У гэтым і заключаецца, паводле іх слоў, «ухіленне ад адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі». Пры гэтым супрацоўнікі папраўчай установы адзначалі, што Рубцоў адмаўляўся падпісваць дакументы аб атрыманні накіравання, а таксама тыя, паводле якіх яму выносіліся спагнанні, паколькі лічыць сябе незаконна асуджаным.

Цікавая юрыдычная калізія выявілася ў тым, што адміністрацыя не можа выдаваць загад на працу (прымусовая праца забаронена артыкулам 41 Канстытуцыі), яна толькі прапануе асуджанаму ўладкавацца ў пэўныя месцы (выдае накіраванне на працу). Працоўная дамова, якая заключаная пад прымусам, паводле працоўнага заканадаўства, не мае юрыдычнай моцы. У той жа час міліцыянты кіруюцца артыкулам 47 Крымінальна-выканаўчага кодэксу, які нібыта абавязвае асуджаных працаваць, і выносяць на яго падставе спагнанне.

У сувязі з гэтым узнікае заканамернае пытанне: як можна караць чалавека за тое, што ён адмовіўся ад прапановы добраахвотнага працаўладкавання?

Рубцоў таксама заявіў, што ніколі не адмаўляўся працаваць прынцыпова. Адмовы ад працы звязаныя з тым, што яго не задавальняў прапанаваны заробак. Непасрэдна перад падпісаннем працоўнай дамовы заробак аказваўся істотна меншы за абяцаны раней. Практычна ўсе сведкі з боку асуджаных пацвердзілі словы палітвязня. Такім чынам, атрымліваецца, што палітвязня няма за што караць, бо ён не адмаўляецца працаваць, а толькі патрабуе годную аплату сваёй працы (права на годны ўзровень жыцця прапісана ў артыкуле 21 Канстытуцыі).

Пры разглядзе справы Рубцова таксама выявілася, што значная частка асуджаных папраўчай установы адкрытага тыпу ў Купліне па некалькі месяцаў не працуюць, бо вакантных працоўных месцаў на Пружаншчыне вельмі мала. Тым не менш, такіх беспрацоўных насельнікаў установы ніхто не прыцягвае да адказнасці за ўхіленне ад адбыцця пакарання. Такім чынам, пры ўжыванні артыкула 47 КВК супрацоўнікамі спецкамендатуры відавочны выбарачны падыход да асуджаных.

У сваім выступе Рубцоў адзначыў, што правілы ўнутранага распарадку папраўчай установы складзеныя такім чынам, што іх практычна немагчыма бездакорна выконваць. За вызначаны час для прыгатавання ежы ў паўгадзіны насельнікі ўстановы фізічна не могуць паспець прыгатаваць сабе вячэру на маленькай кухні, чалавек, які пасля адбою захоча пайсці ў прыбіральню, — таксама патэнцыйны парушальнік. Атрымліваецца, што ўсе асуджаныя знаходзяцца на кручку ў адміністрацыі, якая па свайму жаданню можа распачаць афармляць спагнанні практычна на любога асуджанага, з якім пажадае звесці рахункі.

Пракурор звярнула ўвагу, што падсуднаму тры разы абвяшчалі спагнанне за адмову ад працы, што з'яўляецца, на яе думку, «ухіленнем ад адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі» (артыкул 415 Крымінальнага кодэкса), і прасіла пакараць Юрыя Рубцова тэрміна гадамі калоніі.

Адвакат адзначыла, што ў дзеяннях Рубцова няма складу злачынства і папрасіла суд апраўдаць падабароннага, альбо, у выпадку прызнання віны, даць мінімальнае пакаранне.

Юры Рубцоў у сваім заключным слове падкрэсліў, што права на працу — гэта менавіта права, а не абавязак. «Я не хачу жыць па паняццях. Я хачу жыць па законе. Канстытуцыя — вышэйшы закон. Яе ніхто не можа парушаць!» — дадаў Юры Рубцоў.

# Нашаму Каралю — 70!

**Рэдакцыя «Новага часу» шчыра і з радасцю віншуе нашага любага галоўнага рэдактара Аляксея Караля.**

70 гадоў — гэта не ўзрост для такога чалавека, як наш шэф. Таму зычым яму яшчэ шмат мараў і іх здзяйснення, безліч мэтаў і іх выканання. А таксама жаданняў, здзяйсненняў, кахання, натхнення і ўдачы. Ну і, традыцыйна, — здароўя!

Дзякуй, што вы ёсць у нас, а мы — у вас!

**Ваша каманда-мара!**



# Правы Мікалая Дзядка парушаюцца

**За два тыдні ў калоніі Мікалай Дзядок атрымаў чатыры спагнанні і двойчы патрапіў у ШІЗА.**

Як паведаміла праваабаронцам «Вясны» жонка палітзняволенага Валерыя Хоціна, Мікалая Дзядка 12 мая перавялі ў новае месца адбыцця пакарання — у калонію ПК-9 у Горках. А ўжо на другі дзень, 13 мая, ён быў змешчаны ў штрафны ізалятар, дзе правёў 5 сутак. Літаральна праз дзень, 19 мая, яго зноў адправілі ў адзіночку штрафнога ізалятара. З-за вельмі нізкай тэмпературы Дзядок вельмі пакутаваў усю ноч, прасіўся ад пераводзе ў іншае памяшканне.

Каб звярнуць увагу дзяжурных па ШІЗА, раніцай 20 мая Дзядок нанёс сабе рэзаныя раны жывата і рук, пасля чаго быў змешчаны ў медсанчастку. Пасля аказання першай медычнай дапамогі Дзядка зноў накіравалі ў тое ж халоднае памяшканне ШІЗА, дзе ён знаходзіўся да 26 мая. Па словах Валерыі Хоцінай, агулам Дзядок атрымаў за гэты непрацяглы час 4 спагнанні.

Намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч паведаміў «Хартыі 97»: «Гэты метад зняволеных часта выкарыстоўваюць для прыцягнення ўвагі адміністрацыі або органаў пракурорскага нагляду да фактаў парушэння сваіх правоў. Тут мы маем справу з тыповым выпадкам парушэння правоў зняволенага. Гэта сведчыць, па-першае, аб тым, што на Мікалая Дзядка, як на палітвязня, ажыццяўляецца ціск — у кантэксце апошніх падзей, калі мы назіраем узмацненне ціску на ўсіх палітвязняў: і на Юрыя Рубцова, і на Мікалая Статкевіча, і на ўсіх астатніх. Па-другое, гэта сведчыць аб тым, што наша пенітэнцыярная сістэма не зжыла гэтых элементаў таталітарнага мінулага. Умовы ўтрымання ў ШІЗА практычна невыносныя для людзей».

Юрыст Павел Сапелка раней паведамляў, што Папраўчая калонія №9 у Горках прызначаная для зняволеных, якія раней адбывалі пакаранне ў выглядзе пазбаўленне волі. Парадкі ў ПК №9 яскрава адлюстроўвае артыкул «Зняволеныя распавялі пра радыкальныя падыходы да выпраўлення ў ПК-9 у Горках».

Мікалай Дзядок адбыў 4,5 гады зняволення за нібыта хуліганскія дзеянні ў дачыненні да афіцыйных будынкаў і павінен быў выйсці на волю 3 сакавіка 2015 года. Аднак 26 лютага суд Ленінскага раёна Магілёва асудзіў палітвязня за «злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі» да 1 года зняволення ў калоніі строгага рэжыму. 30 красавіка суд касацыйнай інстанцыі пакінуў гэты прысуд у сіле.

**spring96.org**

# Курапаты: важна абазначыць месцы пахаванняў

Арцём ЛЯВА

**Чарговую штоаўторкавую талаку ва ўрочышчы Курапаты наведалі кандыдаты гістарычных навук Мікола Крывальцэвіч і Вадзім Кошман.**

Актывісты ініцыятывы «За ўратаванне Курапатаў» паразмаўлялі з навукоўцамі пра шляхі даследавання пахаванняў і спосабы ўвекавечвання памяці ахвяраў таталітарнага рэжыму.

Паводле Міколы Крывальцэвіча, дакладна даследавана каля трыццаці пахаванняў, якія раскопваліся. Пра іх можна казаць пэўна, што там ляжаць парэшткі расстраляных. Большая іх частка вакол гары з вялізнымі крыжамі і валуном. Каля кожнага такога пахавання крыж з шыльдай, дзе напісаная колькасць пахаваных ахвяраў.

Пры гэтым сотні пахаванняў засталіся недаследаванымі, таму няма поўнай упэўненасці, што там ёсць парэшткі. Хаця з высокай доляй верагоднасці пахаванні вызначыць можна.

Ёсць пэўныя заканамернасці прасядання глебы над пахаваннямі, якія дазваляюць зрабіць высновы нават пасля візуальнага агляду. Больш-менш надзейны і адносна хуткі спосаб вызначыць, ці ёсць пад зямлёй чалавечыя парэшткі — бурэнне глебы і аналіз яе ўзораў. Паводле навукоўцаў, традыцыйная эксгумацыя ўсіх курапацкіх пахаванняў зойме дзясяткі гадоў.

«Калі зрабіць свідраванне верхняга пласта, праз метр-паўтара можна знайсці парэшткі. Бачныя таксама змены ў стратаграфіі. Гэта вельмі працаёмкая працэдура. Прыкладна месяц. Безумоўна, трэба дазвол. Бо мы шкодзім магілы», — адзначае Мікола Крывальцэвіч.

«Пры разлажэнні парэштак вылучаецца кальцый. Пры раскладанні касцей пад зямлёй падвышаецца канцэнтрацыя фосфару. Гэта дае магчымасць вызначаць месцы пахаванняў з дапамогай адмысловых хімічных аналізаў. Такую методыку можна выкарыстоўваць на любых месцах масавых пахаванняў», — дадае Вадзім Кошман.

Максімальная тэрыторыя патэнцыйных магіл абазначана навукоўцамі на адмысловых мапах. На сённяшні дзень стаіць задача максімальна пазначыць самі магілы, а таксама ўсталяваць мемарыяльныя знакі для так званай «дарогі смерці» па якой НКУСаўцы везлі людзей на расстрэл у Курапацкі лес.

Нагадаем, талака ў Курапатах праводзіцца кожны аўторак з 17 да 20 гадзін і кожную суботу з 12 да 15 гадзін ажно да 29 кастрычніка.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Беражыце працу!

Сяргей САЛАЎЁЎ




**Ёсць людзі з зайздроснай памяццю. Вось вы, паважаны чытач, памятаеце, пра што была дырэктыва кіраўніка дзяржавы №1? А дырэктыва №3? А вось нашы ўрадаўцы памятаюць!**

Падавалася б, у краіне — крызіс, спад вытворчасці, Нацбанк адзін за адным прыпыняе дзейнасць банкаў, расце беспрацоўе, спыняюцца прадпрыемствы. Трэба нешта рабіць, і рабіць тэрмінова, каб мы не скаціліся ў «пачатак 90-х». Але ўрад заняты іншым. Зусім нечакана там узнікла ідэя дапоўніць і скарэктаваць дырэктыву №3, прынятую яшчэ ў чэрвені 2007 года.

Аказваецца, гэтая дырэктыва — аб эканоміі і беражлівасці. Урад сцвярджае, што дакумент спрацаваў. «Дакумент быў накіраваны, у першую чаргу, на эканомію паліўных рэсурсаў і энергазберажэнне. І ён спрацаваў вельмі няблага. З 2007 года энергаёмістасць ВУП у нафтавым эквіваленце на $1 тыс. знізілася да 290 кг. Знос асноўных фондаў у энергетыцы складае 39% супраць 65% у 2005–2006 гадах. Знізілася выкарыстанне прыроднага газу практычна на 2 млрд куб.м.», — паведаміў намеснік міністра эканомікі Дзмітрый Круты.

Змены і дапаўненні ў дырэктыву №3, згодна паведамленню ўрада, будуць тычыцца не толькі энергетычнай палітыкі, але і цэлага шэрагу іншых напрамкаў, такіх, як дыверсіфікацыя экспарту, развіццё новых галін і новых вытворчасцей.

Падаецца, праце — не кранай, бо сапсуеш. Не, ўсё роўна нам трэба нешта «палепшыць». Якім чынам дырэктыва аб беражлівасці можа тычыцца той жа дыверсіфікацыі экспарту — невядома. І, дарэчы, чаму гэта робіць урад? Дырэктыва ж — кіраўніка дзяржавы!

Напэўна, нашы людзі ўжо залішне беражлівыя. І гэтая залішняя беражлівасць часам прыводзіць да наўпроставых фінансавых стратаў. Вось, напрыклад, у Гомелі ўрач, бачна па ўсім, прымаў традыцыйныя «падзякі» пацыентаў у выглядзе алкагольных напояў, а сам быў аматарам здаровага ладу жыцця. Гэты здаровы лад жыцця і згуляў з ім злы жарт.

Пільныя грамадзяне паведамілі падатковай інспекцыі, што ён захоўвае дома каля 200 бутэлек дарагіх алкагольных напояў. Захоўваў і захоўваў, але, аказваецца, па Адміністрацыйным кодэксе ў нас у краіне дапускаецца захоўванне толькі 15 літраў алкаголю з беларускімі акцызнымі маркамі без дакументаў, якія пацвярджаюць набыццё тавару, і не больш за 5 літраў імпартнага алкаголю.

«Алкаголю, набытага ў Беларусі, можна захоўваць дома колькі заўгодна, але калі ёсць чэкі. У калекцыянера іх не было, алкаголь яму быў падораны, а аб ліміце мужчына не ведаў. Таму дапушчальныя 15 літраў у яго засталіся, а 178 бутэлек гарэлкі, віскі, рому, віна, бальзаму і каньяку мы канфіскавалі, акрамя таго калекцыянер аштрафаваны на 2 мільёны рублёў», — распавяла намеснік начальніка Інспекцыі МПЗ па Савецкім раёне Гомеля Таццяна Гюнтэр.

Як пяе «Сплін», «Лепш бы ён піў і паліў». Праўда, спіўся б выдатны прафесіянал (інакш бы людзі яму не «дзячылі»), але пасля такіх навінаў міжволі задумаешся: што лепш? Спіцца ці патрапіць у кіпцюры падатковай?

Адваротная навіна прыйшла з-пад Оршы, дзе прадавец сельскай крамы за паўгады раздала жыхарам вёскі прадуктаў і іншых тавараў на 107 мільёнаў рублёў. «Прадавец раздавала тавары направа і налева нават без якіх-небудзь гарантый. Паводле яе зацемкаў у сшытку атрымалася вывявіць усяго 19 пакупнікоў, якія запазычылі ў агульнай складанасці каля 29 мільёнаў рублёў. Куды падзеліся астатнія матэрыяльныя каштоўнасці — незразумела», — распавяла памочнік пракурора Аршанскага раёна Дыяна Рыбакова.

> **15**
> **літраў алкаголю з беларускімі акцызнымі маркамі без дакументаў можна захоўваць дома**

Падвяла прадавачку мяккасардэчнасць. Але што рабіць, калі людзі губляюць працу, і ім банальна няма чаго есці? Паводле афіцыйных звестак Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, на канец красавіка колькасць зарэгістраваных у Беларусі беспрацоўных у параўнанні з канцом красавіка 2014-га года павялічылася ў 1,9 разы. Узровень зарэгістраванага беспрацоўя склаў 1% ад эканамічна актыўнага насельніцтва.

Дадзеныя дзяржаўнай службы занятасці сведчаць аб тым, што каэфіцыент сацыяльнай напружанасці на рынку працы Беларусі вырас у чатыры разы ў параўнанні з мінулым годам: з 0,4 беспрацоўнага на адну вакансію на 1 мая 2014 года да 1,7 — на 1 мая гэтага года. Прычым, пераважная большасць вакансій у службе занятасці — нізкааплатная праца для некваліфікаваных работнікаў.

Эксперты прагназуюць, што да канца года ў Беларусі шукаць працу будуць 280 тысяч чалавек, альбо 6% працаздольнага насельніцтва.

Гэтыя лічбы экспертаў я б назваў занадта аптымістычнымі. Па-першае, па тых жа падліках, ужо зараз з афіцыйна занятых у эканоміцы на 1 сакавіка 216 тысяч былі ў адпачынку, прастоі ці працавалі няпоўны працоўны тыдзень. Па-другое, у Расіі таксама зацікавіліся «дармаедскім» досведам Беларусі. Прынамсі, Федэральная служба па працы і занятасці Расіі ўжо «спіянерыла» беларускую ідэю і прапанавала спаганяць «падатак на дармаедства» з усіх грамадзян, якія дасягнулі 18-гадовага ўзросту, за выключэннем афіцыйна працаўладкаваных, зарэгістраваных беспрацоўных, студэнтаў, пенсіянераў і іншых ільготных катэгорый. Такі платеж, па меркаванні Распрацы, закліканы перашкаджаць нелегальнай занятасці. Па звестках ведамства, ценявы сектар рынку працы Расіі можа дасягаць 15 мільёнаў чалавек.

Зразумела, што большасць беларусаў, якія працуюць у Расіі, — тыя самыя «нелегальныя працоўныя мігранты», на якіх будзе распаўсюджвацца расійскі «дармаедскі» падатак. Наўрад ці расійскі працадаўца будзе яго плаціць за беларусаў. А значыць, сотні тысяч беларусаў, якія ўсё яшчэ працуюць у Расіі, рынуцца на радзіму, дзе перад імі таксама выбар: плаціць падатак на дармаедства альбо ісці ў службу занятасці.

Такім чынам, экспертную лічбу беспрацоўя можна смела павялічваць удвая. А людзей жа трэба карміць! Баюся, што адной міласэрнай прадавачкі з Аршанскага раёна на ўсіх будзе яўна замала.

Так што галоўнай карэкцыяй дырэктывы аб беражлівасці павінна быць адна парада: зберагайце не алкаголь і не грошы. Галоўнай каштоўнасцю ў час крызісу з'яўляецца і застаецца добра аплачваемая праца. Беражыце яе і людзей, якія вам дапамогуць у складаны час.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### Мікалай Статкевіч



**Нямецкі дэпутат Франц Тэнэсі запатрабаваў неадкладна вызваліць беларускага палітвязня і выказаў салідарнасць з яго сям'ёй.**

У распаўсюджанай ім заяве ў гадавіну вынясення прысуду экс-кандыдату ў прэзідэнты Мікалаю Статкевічу намеснік старшыні Камітэта па замежных справах у нямецкім Бундэстагу, Франц Тэнэсі адзначыў, што ён «хросны бацька» асуджанага на шэсць гадоў беларуса, паведамляе ПЦ «Вясна».

Кампанія «хросных бацькоў» палітычных вязняў у Беларусі была ініцыяваная швейцарска-нямецкай асацыяцыяй Libereco — «Партнёрства за правы чалавека» — з мэтай падтрымкі зняволеных і іх сваякоў. Беларускія і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі лічаць Мікалая Статкевіча вязнем сумлення і заклікаюць да яго неадкладнага і безумоўнага вызвалення.

Франц Тэнэсі таксама падзяляе трывогу беларускіх праваабаронцаў у сувязі з няпростай сітуацыяй вакол Мікалая Статкевіча — у пачатку мая палітвязень рашэннем закрытага суда быў пераведзены са Шклоўскай калоніі назад у Магілёўскую турму.

«З пункту гледжання Германіі і ЕС такія дзеянні абсалютна не прымальныя і выклікаюць асуджэнне. Вызваленне ўсіх палітычных зняволеных у Беларусі, іх рэабілітацыя і спыненне палітычных рэпрэсій неабходныя для нармалізацыі адносін паміж еўрапейскай супольнасцю і Беларуссю. На жаль, рашэнне суда перакрэслівае гэтую ідэю», — адзначыў Тэнэсі.

### Лідзія Ярмошына



**Старшыні ЦВК усё больш падабаецца ідэя вылучэння жанчын у прэзідэнты Беларусі.**

З'яўленне жанчын сярод кандыдатаў падчас будучай кампаніі па выбарах прэзідэнта Беларусі будзе казаць пра больш высокі ўзровень развіцця нацыі, заявіла Ярмошына журналістам.

«Калі ў нас на пасяджэнні камісіі вы (прадстаўнікі СМІ) можаце зняць, паказаць у эфіры дзвюх сімпатычных жанчын, якія заяўляюць пра свае прэтэнзіі на вышэйшую палітычную пасаду, то гэта ўжо добра. Гэта цывілізаванасць нацыі, калі на выбары ідуць тыя, хто раней не меў выбарчага права. Гэта сведчыць аб тым, што нацыя дасягнула вельмі высокага ўзроўню развіцця, у тым ліку і ў гендэрным пытанні», — лічыць Ярмошына.

Раней яна ж заяўляла, што «абсалютна пазітыўна» ставіцца да намеру жанчын вылучацца кандыдатамі ў прэзідэнты. «У перспектыве веру, што прэзідэнтам Беларусі будзе жанчына. Я не кажу пра блізкія выбары. Выбаршчыка яшчэ трэба прывучыць да таго, што прэзідэнтам стане жанчына», — сказала кіраўнік ЦВК журналістам 14 мая.

На ўдакладняючае пытанне, калі ж жанчына-прэзідэнт будзе паспяваць варыць баршчы, Ярмошына адзначыла: «А баршчы можна вечарам варыць, як я».

### Сяргей Міхалок




**Дзяржаўная міграцыйная служба Украіны ўручыла Сяргею Міхалку і ягонаму прадзюсару Антону Азізбекяну від на жыхарства.**

Від на пастаяннае жыхарства дае замежнікам права стала пражываць ва Украіне і карыстацца тымі ж правамі і свабодамі, а таксама несці такія ж абавязкі, як і грамадзяне Украіны, за выключэннямі, усталяванымі Канстытуцыяй, законамі або міжнароднымі дамовамі Украіны (права абіраць і быць абраным у органы ўлады, працаваць на дзяржаўнай службе і г.д.).

У міграцыйнай службе заявілі, што наданне віду на жыхарства Міхалку «адпавядае інтарэсам Украіны, каб падтрымаць імідж Украіны як дзяржавы, у якой гарантаваныя магчымасці для свабоднага выказвання ўласных поглядаў і пераканання, у тым ліку праз творчую дзейнасць, а таксама ўлічвае ў гэтым рашэнні пазіцыю групы па падтрымцы ўкраінскай Рэвалюцыі Годнасці і іх унёсак у развіццё ўкраінскай музыкі».

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Беларуская мадэль і прадметна-тэхналагічнае мноства

**Дэкрэт №5 — наш адказ на не наш эканамічны крызіс. Ён дазваляе «нахіляць» работнікаў любога рангу: ад кіраўнікоў да шараговых выканаўцаў.**

Пачну з вызначэння прадметна-тэхналагічнага мноства (ПТМ), якое я запазычыў у эканаміста Алега Грыгор'ева. Гэта мноства складаецца з прадметаў (вырабаў, дэталяў, відаў сыравіны), што актуальна існуюць на рынку. Другую частку мноства складаюць тэхналогіі, г. зн. спосабы вытворчасці, якія прадаюцца на рынку тавараў.

А зараз пяройдзем да часткі практычнай. Праблема ўкаранення інавацый заўсёды была ахілесавай пяткай савецкай эканамічнай мадэлі. Яна рэгулярна абмяркоўвалася на ўзроўні пленумаў ЦК і з'ездаў партыі. Вынікі не радавалі. Без пастаянных штуршкоў зверху савецкая мадэль на інавацыі адгукалася вельмі стрымана.

Адзін прыклад. У 1960-х гадах па прапанове Міністэрства гандлю было прынята рашэнне наладзіць вытворчасць кухонных гарнітураў. Да гэтага ў краіне пераможнага сацыялізму яны не рабіліся, а закупляліся ў ГДР. Знайшліся энтузіясты. Праекту быў дадзены ход і… праз 10 гадоў першы савецкі кухонны гарнітур паступіў у гандлёвую сетку.

## Справа не ў бюракратыі

З савецкага мінулага перанясемся ў постсавецкую сучаснасць. Я жыву ў стандартнай трохпакаёвай кватэры. Абстаўленая яна без асаблівых вынаходніцтваў. Тым не менш у калідоры і двух пакоях убудаваная мэбля, што выраблена на індывідуальную замову.

Як гэта ажыццяўлялася на практыцы? Я распрацоўваў эскіз. Узгадняў яго з галоўнай інстанцыяй (жонкай). Па абвестках газеце знаходзіў фірму, якая спецыялізуецца на вырабе мэблі. Тэлефанаваў. Прыязджаў спецыяліст — і праз тыдзень брыгада з двух чалавек з гатовых элементаў за дзень збірала камплект убудаванай мэблі.

Такім чынам, я не проста выступаў у ролі заказчыка, але адначасова і ў ролі канструктара (вынаходніка). Пры гэтым ад зацвярджэння эскіза да здачы «аб'екта пад ключ» сыходзіла не больш за тыдзень.

Але за кошт чаго дасягалася фантастычная (паводле савецкіх мерак) хуткасць укаранення маіх вынаходак? Для адказу на гэта пытанне мне спатрэбіцца звярнуцца да абрэвіятуры ПТМ.

Убудаваная шафа ў калідоры складаецца з трох блокаў, з якіх два — шафы-купэ з стандартнымі рассоўнымі дзвярыма. Вынаходзіць дзверы мне не давялося. Я іх запазычыў з таго, што мелася ў наяўнасці ў ПТМ. Але так робіць любы канструктар, у тым ліку і распрацоўшчык найскладаных электронных мікрачыпаў. У яго кампутарнай бібліятэцы маюцца ўжо гатовыя блокі. Гэта яго «дзверы». Імя вынаходніка транзістара амерыканца Уільяма Шоклі памятаць пры гэтым не абавязкова, як не абавязкова разумець фізіку p-n пераходу.

Але рушым далей. Маюцца дзве краіны, якія істотна адрозніваюцца па багацці ПТМ. Назавем адну з іх «Амерыкай», другую — «Вялікабрытаніяй». Выкажам здагадку, што ў першай жыве вынаходнік Эдысан, у другой — Суон. Яны практычна адначасова вынаходзяць лямпачкі напальвання. А зараз — увага! — пытанне. У каго з іх будзе больш шанцаў давесці сваё вынаходніцтва да масавай вытворчасці? Адказ на гэта пытанне ведае нават мой кампутар. Прозвішча Соун ён падкрэсліве. Яно адсутнічае ў яго слоўніку.

Цяпер мы можам зразумець галоўную праблему савецкіх вынаходнікаў. Вось як яе выкладае Грыгор'еў на прыкладзе вытворчасці кухонных гарнітураў: «І справа тут не толькі ў бюракратыі. Прыйшлося ствараць дзве новыя падгаліны, г. зн. вылучыць інвестыцыі, пабудаваць заводы, вырабіць, закупіць і наладзіць абсталяванне. Яшчэ некалькі новых вытворчасцяў было запушчана на ўжо існуючых заводах — а ў тых план, недахоп рэсурсаў і працоўных рук».

Усё разам гэта называецца «беднае ПТМ». У краіны, што адгарадзілася ад свету «жалезнай заслонай», яно і не магло быць іншым. Пра гэта неабходна памятаць чыноўнікам, што ўскладаюць надзеі на імпартазамяшчэнне.

## Вертыкаль як сума нахіленых работнікаў

22 мая адзіны палітык (АП) на VII з'ездзе Федэрацыі прафсаюзаў у чарговы раз патлумачыў наяўнасць пэўных цяжкасцяў у беларускай эканоміцы моцным уплывам знешніх фактараў (*«кризисом, возникшим у наших внешних партнеров»*).

Але не ўсё так безнадзейна. У нас ёсць досвед працы ў такіх умовах, і ён нам падказвае, што крызісы прыходзяць і сыходзяць. *«Я уже об этом говорил не единожды. Ключевым моментом проблемных периодов развития нашей истории было сохранение производств и трудовых коллективов. Белорусский опыт преодоления экономического спада, по сути, был уникальным. В США, Западной Европе отмечались массовые сокращения. Сотни тысяч людей в одночасье лишились работы. Но мы выстояли тогда, справимся и сейчас!»*

Крызісы прыходзяць і сыходзяць. Але поспех у выніку спадарожнічае тым, хто ўмее чакаць, не робячы пры гэтым рэзкіх рухаў. Адсюль тэзіс дня: *«Чего бы нам ни стоило, сохранить трудовые коллективы»*.

Для далейшага раскрыцця тэмы мне спатрэбіцца міжнародная статыстыка. У 1990 годзе ў ЗША самай буйной па капіталізацыі кампаніяй была General Motors, а ў дзясятцы былі таксама Ford, Exxon, Mobil, Chrysler, DuPont і Texaco. Сёння на першым месцы — Apple, а ў дзясятцы — Google, Microsoft, Berkshire Hathaway, WellsFargo і WalMart. З першых дзесяці не выпалі толькі ExxonMobil (збольшага — таму, што аб'ядналіся) і GeneralElectric. Сярод 30 карпарацый, якія цяпер уваходзяць у індэкс DowJones, 14 не былі ў ім на момант яго апошняга перагляду ў «савецкія часы» (май 1991 года).

Што з гэтага вынікае? Пакуль МЫ перажываем пэўныя цяжкасці, заклікаючы работнікаў дзяржпрадпрыемстваў трымацца за працоўныя месцы, ЯНЫ ва ўмовах крызісу актыўна ўзбагачаюць сваё ПТМ.

У галінах, што не існавалі ў Амерыцы 25 гадоў таму, было створана да 15 мільёнаў працоўных месцаў. Адбыўся зрух з галінаў, у якіх цанілася праца і рэсурсы, да галінаў, дзе галоўную ролю адыгрывае творчасць.

Але што мы можам супрацьпаставіць творчасці? Зноў вернемся на з'езд Федэрацыі прафсаюзаў. Не, мы не сядзелі склаўшы рукі. Мы распрацавалі і ўкаранілі *«средство подстегивания — Декрет №5»*. Яго асноўная ідэя — прымусіць кіраўнікоў працаваць. Яны занадта расслабіліся.

Дэкрэт №5 дазваляе не толькі «нахіляць» кіраўнікоў, але і дае ім (нахіленым кіраўнікам) неабмежаваныя правы «нахіляць» сваіх падначаленых. У выніку ўпершыню ў найноўшай гісторыі беларускай дзяржавы з'явілася магчымасць выбудаваць уладную «вертыкаль» з нахіленых работнікаў усіх узроўняў.

Першыя вынікі адміністрацыйных намаганняў гэтай арыгінальнай уладнай канструкцыі ўжо фіксуе Белстат. У прыватнасці, у сакавіку было выраблена 162 грузавых аўтамабілі, што дазволіла давесці колькасць гатовых машын на складах да 2100 штук.

У рамках нашай праблемы нельга не звярнуць увагу на поспехі Парку высокіх тэхналогій. Невялікая даведка, якую я запазычыў на афіцыйным сайце парку: «Аб'ём вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі і паслуг рэзідэнтамі Парку высокіх тэхналогій за 2014 год склаў 6,96 трыльёна рублёў. Тэмп росту ў параўнанні з 2013 годам склаў 147% (з улікам змянення курсу долара ЗША і дэфлятара ВУП — 126%)».

Адна з прычын поспеху парку, як няцяжка здагадацца, заключаецца ў тым, што ён не замкнуты на беларускае ПТМ. Такім чынам, яго праца ў мінімальнай ступені залежыць ад дзяржаўных чыноўнікаў, чыю адміністрацыйную стараннасць заклікаць стымуляваць Дэкрэт №5.

## Своечасовая смерць правадыра

Прырода міждысцыплінарная. Гэта мы праз свае абмежаваныя разумовыя здольнасці вымушаныя штучна дзяліць яе на асобныя галіны: эканоміку, палітыку і г. д.

Адным з крытэраў развіцця, як вядома, з'яўляецца ўскладненне (дыферэнцыяцыя). Вышэй гэта было паказана на прыкладзе ПТМ. Калі прадметна-тэхналагічнае мноства паслядоўна множыцца, хай даруюць мне чытачы таўталогію, гэта з'яўляецца дакладнай прыкметай здаровай эканомікі. Але працэс гэты павінен суправаджацца паралельным узбагачэннем палітыка-сацыяльнага мноства (ПСМ). Да чаго здольна прывесці неадпаведнасць тэмпаў развіцця двух мностваў, наглядна прадэманстравала «найвялікшая катастрофа XX стагоддзя».

Здзейснім невялікі экскурс у гісторыю. Савецкая планавая эканоміка была выбудаваная пры Сталіне. Яна апынулася здольнай вырашаць задачы, якія стаялі ў той час перад краінай і галоўнай з якіх было стварэнне канкурэнтнага ваенна-прамысловага комплексу. Багацтва ПТМ для гэтага не патрабавалася. Дзяржплан і Дзяржснаб дастаткова эфектыўна канцэнтравалі рэсурсы на абмежаванай колькасці прыярытэтных напрамкаў. Што тычыцца тавараў народнага спажывання, дык для іх вытворчасці рэсурсы размяркоўваліся па рэшткавым прынцыпе.

Аднак падтрыманне ваеннага парытэту з Захадам было немагчыма без развіцця новых галін прамысловасці (электроніка, хімія палімераў і г.д.). Узятыя разам, яны ўтварылі новае тэхналагічнае ядро грамадскай вытворчасці. І тут аказалася, што планавым чынам размяркоўваць рэсурсы, як гэта рабілася ў дачыненні да старога тэхналагічнага ядра, практычна немагчыма.

«Сталін, верагодна, памёр не толькі ад старасці, — справядліва заўважыў эканаміст Віталь Найшуль, — але і ад таго, што скончыўся час «ідэі яго жыцця». Усё, што яму было наканавана разбурыць, было ўжо знішчана або знявечана. Тое, што яму было наканавана стварыць, ужо нарадзілася на свет». Усе тыя фактары, якія раней працавалі на кансалідацыю сталінскай гаспадарчай машыны, пачалі дзейнічаць у іншым, часам прама процілеглым кірунку.

Постсталінскаму ПТМ стала цесна ў рамках сталінскага ПСМ. Пераемнікі «бацькі народаў» гэта выдатна разумелі. Яны спрабавалі рэфармаваць ПСМ, не змяняючы пры гэтым яго прыроды. Аднак тэхналагічнае адставанне ад загніўшага Захаду скарачаць не змаглі. Наадварот, яно беспярапынна павялічвалася. Сістэма рухалася да чарговай смуты, і яна надышла пасля падзення коштаў на нафту ў 1985 годзе.

Сёння сцэнар перабудовы можа паўтарыцца, але ўжо на новым вітку гісторыі.



# Змаганне за садок ці за годнае жыццё?

Ганна МЫЗЕНКА

**Ці даводзілася вам калі жыць ля будоўлі? Калі не, спытайце як гэта, у мінчукоў з вуліцы Славінскага. У зялёнай зоне, сярод жылых дамоў, тут распачалі рэканструяваць будынак і пракладаць да яго дарогу.**



Але не дарога сабрала ў працоўны дзень дзясяткі разгубленых жыхароў на сход, які арганізавала мясцовая актывістка Валянціна Шалейнікава. Справа ў тым, што раней на гэтым месцы па адрасе Славінскага, 11 месціўся дзіцячы садок. Вось ужо 13 гадоў, як мясцовыя жыхары спрабуюць пераканаць улады, што ён па-ранейшаму патрэбны. Замест гэтага адміністрацыя Першамайскага раёна дала прадстаўнікам ТАА «ТАПАС» дазвол на перабудову былога садка пад бізнес-цэнтр. Паводле афіцыйных звестак, апроч уласна офісных памяшканняў, тут плануецца цэнтр побытавых паслугаў, більярдны клуб, салон прыгажосці, фітнэс-цэнтр ды бары. А каб аўтамабілістам было зручней, з'явіцца яшчэ і паркоўка на 100 аўто.

«Калі тут пілавалі дрэвы, большасць пенсіянераў у доме ляжала з гіпертаніяй», — кажа жанчына на лаве. Сорак гадоў таму гэтыя дрэвы садзілі самі жыхары. Рэдкія саджанцы прывозілі ажно з Белавежскай пушчы. Але дрэвы перашкаджалі будаўнікам, якія цяпер пашыраюць дарогу каля аднаго з дамоў. Раней тут быў тупік, а далей — зялёная зона без аўтамабіляў. Цяпер па дваровай тэрыторыі ўшчыльную з жылым домам пройдзе паўнавартасная дарога, якая захопіць і пешаходную зону, дзе, дарэчы, заўсёды шмат дзяцей з бліжэйшых школ ды садкоў. Ці знойдуцца цяпер бацькі, якія са спакойнай душою дазволяць малым гуляць ды ўвогуле хадзіць тут самастойна?

«Не пажаданая тут дарога, — кажа спадарыня Тамара, — тут будзе «капцілаўка».

— Яна тут абсалютна не патрэбная! — падтрымлівае яе былы педагог Сяргей Аляксандравіч, — тут могуць быць траўмаваныя не толькі дзеці, але і пажылыя людзі. Гэта зялёная зона, калі яе заняць машынамі, стане менш кіслароду.

Да мяне падыходзіць раз'юшаная спадарыня Аксана і кажа: «А давайце я вам растлумачу! Вось бачыце вяроўкі? Ва ўсіх дамах першы паверх без балконаў! Адгадайце, дзе мне бялізну сушыць, калі тут пабудуюць дарогу?» — голас спадарыні Аксаны на некаторы час заглушае бульдозер, які праязджае на будаўнічую пляцоўку. «Я сама асабіста некалькі разоў падыходзіла, пытала: што тут будзе будавацца? — працягвае жанчына. — Пашпарту будынка не было! Яго літаральна тыдзень таму павесілі. Я штодзень вяртаюся з працы дадому а 12-й гадзіны ўначы. Гадоў 20 ужо прашу зрабіць святло ў двары. Святла як не было, так і няма, затое ў нас вельмі хутка робяць дарогу, якая мне не патрэбная, а нехта на ёй будзе грэць рукі! Мяне цікавіць пытанне, што буду мець з гэтага я?

**Калі мы патрабавалі азнаёміцца з пратаколам грамадскага абмеркавання, нам адмовілі, са спасылкаю, што гэта, маўляў, ёсць у інтэрнэце**

— І самае галоўнае, што яны кажуць, нібы трымалі дазвол на будаўніцтва гэтага аб'екту… — падхоплівае яшчэ адна жыхарка — спадарыня Галіна.

— Іх ніхто не бачыў і не чуў…

— І яны казалі пра добраўпарадкаванне! А пра дарогу ўвогуле гаворкі не ішло! Тут жа будзе двухбаковы рух, дык што светлафоры каля кожнага пад'езду ставіць? Такое адчуванне, што недзе ў кабінеце пастанавілі: тут будзе дарога, а прыехалі на месца — стаяць дамы. Ніякай праўды. Хаця кажуць пра правы грамадзяніна. Дзе наша права? Ніхто да нас не прыслухваецца, нас проста падманваюць. Пра дарогу ніхто не казаў, казалі пра добраўпарадкаванне. Пад гэта і подпісы збіралі».

## Садок

Людзі дагэтуль не разумеюць, чаму закрылі адну з лепшых дашкольных установаў Мінска. У 1997 годзе — то бок акурат за 5 гадоў да закрыцця, там яшчэ і рэканструкцыю зрабілі. Паводле чыноўнікаў, у садку №70 было замала дзяцей. Аднак мясцовыя жыхары сцвярджаюць, што гэта далёка не так. Людзі актыўна пратэставалі супраць рашэння зачыніць садок.

«Нават АМАП выклікалі на бацькоў, — прыгадвае Валянціна Шалейнікава, — нічога не атрымалася. Потым пасля нашага звароту, пры ўмяшанні Камітэту дзяржаўнага кантролю, пракуратуры Першамайскага раёну была праведзеная праверка ды выяўлена, што садок закрыты не абаснавана, бо ён быў цалкам укамплектаваны дзецьмі, паводле праектнай моцнасці — на 120 месцаў. Аднак, цягам года будынак заставаўся без гаспадара. Мы звярталіся ў розныя інстанцыі. Бо ў будынку з'явіліся бамжы, там адбыліся тры забойствы. У 2003 годзе дзіцячы садок вывелі з сеткі дашкольных установаў і перадалі на баланс ГУУС Мінгарвыканкаму. Пасля чарговага ўмяшання КДК будынак перадалі для рэканструкцыі пад першамайскі фізкультурна-аздараўляльны цэнтр. Пад гэта выдаткавалі 500 мільёнаў. І тут зноўку з'яўляецца рашэнне Мінгарвыканкаму — перадаць будынак ужо пад рэканструкцыю школы Алімпійскага рэзерву па боксу. Але раптам літаральна праз год участак выдзяляюць ТАА «ТАПАС» пад будаўніцтва двух 18-павярховых дамоў.

Будаўніцтва не адбылося праз шматлікія пратэсты жыхароў. Падобным жа чынам адмянілі спробу пабудаваць на месцы дзіцячага садка 9-павярховік. І толькі пасля з'явіўся праект рэканструкцыі, які ажыццяўляецца зараз на Славінскага.

Жыхары ж дагэтуль хочуць аднаўлення працы садка ў шматпакутным будынку.

«Гэта быў самы лепшы садок, там заўсёды было шмат дзяцей. Я сама туды хадзіла, я вырасла ў гэтым раёне, — распавядае Аксана, маці гадавалага Яраслава. Цяпер жанчына заклапочаная ўладкаваннем у садок свайго сына: «Нам сказалі: месцаў няма, хаця мы стаім у чарзе з нараджэння».

Пра перапоўненыя садкі кажуць і іншыя жыхары раёну. «Мы ў 286-ы садок уладкаваліся з вялікай цяжкасцю, хаця планавалі ў 291-ы, але нас туды не ўзялі таму, што ён перапоўнены: у адной групе 28 чалавек, у другой — 30, ложачкаў не хапае, шафікаў таксама, выхавальнікаў таксама на ўсіх нестае, — распавядае Наталля, маці двух сыноў — Пятра ды Уладзіміра. — Ды на гэтым месцы працей за ўсё было б зрабіць прыватны дзіцячы садок. Басейн зрабіць. Бо нам, напрыклад, артапед прапісаў дзіцячы садок з басейнам. Вось мне трэба вазіць дзіця на вуліцу Цікоцкага, а тут пад носам мог быць садок з басейнам ды санаторнымі ўмовамі. Хочацца, каб той, ад каго нешта залежыць, усё ж такі пачуў наш крык...»

Спадар Іван, калі пераехаў жыць на Славінскага, таксама ледзь уладкаваў свайго сына Іллю ў садок. «Прапаноўвалі спачатку садкі альбо на пачатку вуліцы Каліноўскага, альбо ўвогуле ў іншым раёне — на Мірашнічэнкі. Навошта офісныя будынкі ва дварах? А дрэвы калі высякалі, тут увогуле жах быў!

— Ці згадзіліся б вы сюды пераехаць, каб ведалі, што будзе будоўля?

— Мы пераязджалі ў ціхі спакойны раён, мой дзіцёнак вельмі ўзрадаваўся, калі ўбачыў, што тут вавёрачкі скачуць па вуліцах. Я б хацеў, каб гэта ўсё засталося. І каб дзіцячы садок зрабілі.

## Неабыякавая Валянціна



Валянціна Шалейнікава — адна з самых актыўных жыхарак мікрараёну. Каб не яна, магчыма, тут ужо даўно пабудавалі б шматпавярховікі. Валянціна Палікарпаўна мяркуе, што цяперашні варыянт рэканструкцыі — недапушчальны.

«З 14 па 28 кастрычніка 2012 года было праведзенае грамадскае абмеркаванне, дзе жыхары выказаліся супраць рэканструкцыі, з патрабаваннем аднаўлення дзіцячага садка — кажа яна, — было сабрана 516 подпісаў супраць праекту. Але ў выніку пратакол грамадскага абмеркавання заменены іншым, на падставе спісаў 145 грамадзянаў, прадстаўленых ТАА «ТАПАС», з розных раёнаў гораду, якія, маўляў, выступілі за рэканструкцыю. Гэтыя спісы былі незаконнымі. Нашы 516 подпісаў зніклі. Праект зацвердзілі».

Жыхары неаднаразова звярталіся па дапамогу ў розныя інстанцыі. У тым ліку пракуратуру, хадзілі на прыём да старшыні адміністрацыі Першамайскага раёна Ігара Кудрэвіча. Аднак ён запэўніў, што ўсё зроблена паводле закону.

«Калі мы патрабавалі азнаёміцца з пратаколам грамадскага абмеркавання, нам адмовілі, — працягвае спадарыня Валянціна, — са спасылкаю, што гэта, маўляў, ёсць у інтэрнэце. Аднак, паводле 34 артыкула Канстытуцыі, грамадзяне маюць права знаёміцца з матэрыяламі праверак, а за прадастаўленне ілжывай інфармацыі вінаваты прыцягваецца да адказнасці».

Абвінавачванні жыхароў у бок забудоўніка ды мясцовых уладаў сапраўды сур'ёзныя і, безумоўна, патрабуюць дэталёвай праверкі. Высновы рабіць пакуль што рана. Здаецца, гісторыя будзе мець працяг.

## Усе дазволы атрыманыя

Зразумела, што група кампаній «ТАПАС» не разумее, што не падабаецца жыхарам:

— Праект рэканструкцыі закінутага дзіцячага садка па вуліцы Славінскага, 11 прайшоў праз грамадскія абмеркаванні. Камісія пры адміністрацыі Першамайскага раёна палічыла мэтазгодным рэканструяваць пустуючы больш за 10 гадоў садок пад адміністратыўныя памяшканні, — пракаментаваў прэс-сакратар групы кампаній «ТАПАС» Аляксандр Ванковіч. — Перад тым, як распачаць рэканструкцыю, мы ў першую чаргу вывучалі сацыяльны аспект: ці стае месцаў у дашкольных установах у дадзеным раёне. Нягледзячы на тое, што садок на Славінскага пуставаў цягам 10 гадоў і ніяк не ўплываў на статыстыку, станоўчае рашэнне аб рэканструкцыі было прынятае толькі пасля таго, як раённая адміністрацыя запэўніла нас, што сем'і з сумежных дамоў не маюць патрэбы ў месцах у дзіцячых садках.

Калі казаць пра будучы выгляд і прызначэнне аб'екту, неабходна падкрэсліць, што гэта не бізнес-цэнтр у класічным разуменні, а адміністратыўны будынак сацыяльнай накіраванасці. Нашая кампанія разглядае магчымасць арганізацыі там адукацыйнай установы для дзяцей: цэнтру дашкольнай падрыхтоўкі, мастацкай студыі, музычнай ды харэаграфічнай студыі. Апроч таго мы акультурым ды азелянім прылеглыя да адміністратыўнага будынку тэрыторыі, а таксама адвядзем частку парковачных месцаў жыхарам бліжэйшых дамоў.

Што тычыцца аўтамабільнага праезду, то дзеля здзяйснення ўказанай працы паводле усталяванага парадку атрыманыя ўсе неабходныя дазвольныя дакументы.

# Клайпеда. Вяртанне ў родны горад



Ганна МЫЗЕНКА

**Прызнаюся шчыра — мне цяжка было вяртацца ў родны горад. І нават да свайго былога дому я рызыкнула падыйсці толькі на трэці дзень свайго знаходжання ў Клайпедзе. Самае цяжкое — бачыць тое, што засталося нязменным праз 20 гадоў.**




Былая рускамоўная школа — цяпер нямецкая гімназія

Дарэчы, агулам пасля атрымання Літвою незалежнасці адсюль з'ехала амаль 50 тысяч чалавек. У 1990-х гадах з'язджалі рускамоўныя. Пасля ўваходжання ў ЕС за лепшай доляй у Заходнюю Еўропу паехалі і літоўцы. Нацыянальны склад насельніцтва памяняўся. Калі за савецкім часам этнічных літоўцаў было тут каля 63 працэнтаў, то цяпер амаль на 10 працэнтаў болей. Але Клайпеда разам з Вільняй ды Вісагінасам паранейшаму — сярод лідараў па колькасці рускамоўных. Уласна рускіх тут амаль 20 працэнтаў.

## Аднакласнікі

Значная частка маіх аднакласнікаў з'ехала. Па жыцці ўсе ўладкаваныя няблага: хто працуе ў Чэхіі, хто ў Амерыцы, хто на Кіпры. Эла — адна з нямногіх, хто вярнуўся ў Клайпеду пасля працы за мяжой:

— Ты пытаеш, як жывуць тут рускія? А хто як. У каго муж зарабляе ў афшоры (нафтавыя платформы — Г.М.), тыя жывуць добра, астатнія — выжываюць.

Эла з тых шчаслівых жанчын, у каго муж працуе за мяжой. Месяц — дома, месяц — на працы. Грошы перасталі быць праблемаю для сям'і. За савецкім часам клайпедскае грамадства гэтаксама ж падзялялася на маракоў ды іх сем'і і, адпаведна, тых, хто працаваў на сушы. Апошнія нярэдка зайздросцілі тым, хто меў магчымасць бываць за мяжою ды набываць тавары за валюту. Бо толькі маракі мелі магчымасць купляць тавары ды прадукты ў валютных крамах.

Эла мае харэаграфічную ды турыстычную адукацыю, апроч літоўскай, добра ведае англійскую ды турэцкую мовы, аднак працаўладкоўвацца не спяшаецца. «Я выдаткую на лайба ды ежу тыя ж самыя трыста еўра, якія зараблю на любой мясцовай працы. Таму муж сказаў: навошта нервы псаваць? Займайся домам ды сынам, — распавядае Эла. — Ведаеш, а прыходзь сёння на адкрыццё крамы маёй сяброўкі, паглядзіш, як жывуць іншыя рускія».

Як высветлілася, краму па продажу ды пракату адзення адчынілі дзве сяброўкі — Марына і Вольга. Прыгожыя дагледжаныя жанчыны «за трыццаць», абедзве развяліся з мужамі, і цяпер заняліся бізнесам. Уся рэклама іх новай крамы і прамоцыя тавару ды паслугаў ідзе толькі па-літоўску. Каментары рускамоўных кліентаў на фэйсбук-старонцы крамы — таксама.



Усё, што засталося ад валютнай крамы «Альбатрос»

— Ці лёгка было вам адаптавацца да жыцця тут пасля 1991 года? — пытаю я Марыну

— Раней было лёгка, зараз — цяжка.

— Чаму?

— Апошнім часам нацыяналізм з'явіўся зноўку, і, канешне ж, гэта моцна звязана з Украінай. Нам кажуць: рускія з'язджайце да сябе ў Расію.

— Вы ж без акцэнту размаўляеце па-літоўску. Адкуль праблемы?

— Нават, паводле статыстыкі, мы ведаем літоўскую граматыку лепей за саміх літоўцаў, бо нас муштруюць у школах. Але я — руская, і ў мяне рускае прозвішча. Ведаеце, у мяне бацька, браты, усе сваякі па бацькоўскай лініі жывуць у Маскве. Я прыязджаю, а яны мне кажуць: ты — не руская! У выніку я і там — чужая, і тут — не свая. Мы — незразумела хто. У тым жа Вільнюсе прасцей — гэта еўрапейскі горад, а тут — правінцыя. Але ў любым выпадку, я хацела б і далей жыць у Літве, хаця маю магчымасць з'ехаць у тую ж Маскву. Мы — мясцовыя рускія – ужо іншыя, не такія, як яны. Мяне не разумеюць у Расіі.

## Пенсіянер

Са спадаром Анатолем я пазнаёмілася выпадкова — падышла спытаць нешта пра правілы паркоўкі ў горадзе. Яму хутка споўніцца 80. За савецкім часам ён быў кіроўцам. У тыя часы літоўскую мову на побытавым узроўні ведаў. Але зараз забыўся, няма практыкі. А вось жонка працавала ў лабараторыі рыбпарта, а там увесь калектыў быў літоўскі, таму мову ведае лепей.

Дачка спадара Анатоля даўно жыве ў Канадзе, дасылае бацькам грошы штомесяц ды кліча да сябе жыць. Але старыя ніяк не прымуць рашэнне. Бо пражылі ў Клайпедзе амаль усё жыццё. Толькі цяпер, па словах пенсіянера, рускім у Літве стала горш: «Прэзідэнт вядзе такую палітыку, што Літва мусіць быць літоўскай, размаўляць трэба толькі па-літоўску. Вось у крамах — усе людзі такога ўзросту, як вы, ужо не будуць з вамі гаварыць па-руску. Так што жыць я вам тут не раю».

Спадар Анатоль чуў, што ў Беларусі людзі жывуць як за савецкім часам, Лукашэнку ён лічыць добрым і шчырым палітыкам. Пуціна таксама ўхваляе, але кажа, што «для расіянаў патрэбны яшчэ стражэйшы кіраўнік».

— Ці хочаце вы вяртання Савецкага Саюзу?

— Ну, вось мне 79 гадоў, ну, прыйдзе сюды Савецкі Саюз... і што? Тут у нас усе кажуць, што хутка вайна будзе з Расіяй, і я веру, што такое можа быць. Незадаволеных тут шмат, адзін другому плюне, вось і вайна! Я не хачу такога, я тую вайну яшчэ заспеў, бачыў шмат. Мы з маці прайшлі пешшу ад Адэсы да Нікалаева....




На вечарыне ў гонар адкрыцця моднай крамы

## Настаўніца

Калі я пабачыла будынак, у якім навучалася амаль 10 гадоў, у душы анічога нават не варухнулася. Магчыма, таму, што цяпер гэта не рускамоўная школа нумар №20, а нямецкая гімназія. І ўсе мае планы знайсці кагосьці з былых настаўнікаў — кату пад хвост.

Таму, калі я раптам убачыла, як адна з былых настаўніц выходзіць са сталоўкі з назвай «Усё па-літоўску», куды мы выпадкова зайшлі падсілкавацца, я ляцела за ёй на скрут галавы. Па дарозе я ўсвядоміла, што не магу ўзгадаць, як яе завуць. Але, падобна, што і настаўніца памятала мяне хіба толькі ў твар.

Высветлілася, што мая былая настаўніца па біялогіі працуе ў іншай рускамоўнай школе. Але з большага размова не атрымалася. А вось яе сяброўка аказалася значна больш гаваркая. Яна распавяла мне, што палова настаўнікаў цяпер без працы, а пенсія малая — усяго 188 еўра. Больш за ўсё настаўніцы абураныя засiллём расійскіх тэлеканалаў. А яшчэ кажуць, што цяпер на 9 траўня георгіеўскую стужку немагчыма надзець.

— А ў нас у Беларусі таксама гэтую стужку ўлады не надта ўхваляюць, цяпер на Дзень Перамогі чапляюць чырвона-зялёныя стужкі з кветкай яблыні, — кажу, — бо георгіеўская асацыюецца з сепаратыстамі паўднёвага ўсходу...

— Ды якія ж яны сепаратысты? Гэта ж Кіеў да іх прыйшоў, — мая настаўніца перастае ўсміхацца ды пераводзіць размову на іншую тэму, а потым хутка развітваецца. Выглядае яна расчараванай і збянтэжанай.

Я таксама задумваюся. І раптам чую, як літоўскамоўная афіцыянтка на імя Лідзія пачынае размаўляць з кліентамі па-руску.

— Чаму? — пытаю я.

— А чаму не, калі яны размаўляюць са мною па-руску? — усміхаецца Лідзія.

— А мне казалі, што ў вас тут усё толькі па-літоўску...

— Не слухайце вы нікога! — умешваецца ў размову адзін з кліентаў. — Калі і кажа хто на рускіх кепска, дык у сям'і не без вырадка!

## Там, дзе радзіма

Напачатку года сярод рускіх Літвы, дый не толькі, даволі папулярным зрабіўся відэазварот https://www.youtube.com/watch?v=480qpJRi1oE літоўца на імя Мадэстас. Клайпедскія знаёмыя параілі яго паглядзець, каб нешта зразумець. На відэа Мадэстас Лукаўскас выбачаецца перад «рускімі братамі» за сучасную антырасійскую рыторыку літоўскіх уладаў.

Мне цяжка аддзяліць, што першаснае ў поглядах маіх старых і новых рускамоўных знаёмых: туга па агульнаму з Расіяй савецкаму мінуламу або жаданне памятаць пра свае рускія карані? У любым выпадку сваіх дзяцей яны імкнуцца адправіць у і так перапоўненыя рускамоўныя школы. Дарэчы, у Клайпедзе такіх засталося дзве.

Аднакласніца Эла тлумачыць свае жаданне вучыць дзіця па-руску жаданнем свайго мужа, каб «сын жыў у Пецярбурзе».

Мая школьная сяброўка Таццяна старэйшых дачок таксама адправіла ў свой час у рускамоўную школу.

— Чаму не ў літоўскую? Хіба не прасцей дзецям потым адаптавацца ў Літве?

— Зараз такія методыкі выкладання літоўскай мовы, што яны будуць добра ведаць яе ў любым выпадку, а вось рускую ў літоўскіх школах амаль не выкладаюць. Я хачу, каб мае дзеці ведалі і рускую мову і рускую літаратуру.

Сама Таня добра размаўляе па-літоўску. Сусед па дому, паспяховы лекар-уролаг Гедрыюс, даволі часта прыходзіць да іх у госці. Калі трэба, ён гаворыць па-руску. Затое жонка Гедрыюса прынцыпова размаўляе толькі па-літоўску. «Да мяне стрыечная сястра з Ліепаі прыязджала. Натуральна, яна літоўскую не ведае, дык уяві, я сядзела як дурніца і перакладала», — смяецца Таня.

З Гедрыюсам іх аб'ядноўваюць агульныя палітычныя погляды. Абедзве сям'і супраць палітыкі Далі Грыбаўскайтэ. На прэзідэнцкіх выбарах уся вуліца галасавала за іншага кандыдата. Праўда, і літоўскіх палітыкаў з прарасійскага лагеру яны таксама не ўспрымаюць усур'ёз. Разыходзяцца суседзі толькі ў поглядах на вайну з Расіяй. «Ды каму тая Літва патрэбная!» — з пагардаю кажуць рускія. Гедрыюс жа схіляецца да таго, што вайна ўсё ж такі будзе.

«Вось мая радзіма! — Гедрыюс паказвае на ўласны плот, — а калі тут з'явяцца людзі са зброяй, я буду бараніць яе, і мне ўсё роўна, якіх поглядаў гэтыя людзі будуць прытрымлівацца!»

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №5 (105)
(травень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas. info


## Змест



# Па гэты і па той бок Буга...

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

**Чытанне на мяжы гадоў, старога і новага, і апошняга часу адметнае тым, што ў асноўным меў справу з перыядычнымі выданнямі.**



З незалежнымі газетамі, з апошнімі двума нумарамі часопіса «Дзеяслоў», 100-м (юбілейным!) і наступнымі нумарамі культурна-асветніцкага праекта «Літаратурная Беларусь» і яшчэ з 18 па ліку выпускам хоць і беларускамоўнага, але ўжо замежнага перыёдыка «Тэрмапілы», які выдае ў Беластоку Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа» (Польшча) і неардынарную назву якога ягоны рэдактар Ян Чыквін патлумачыў у свой час так: «Назва нашага новага перыёдыка сімвалічная. Яна сапраўды азначае, што мы, хай і невялікімі сіламі, мусім змагацца за сваю культуру, за беларускую справу, за Беларусь, як змагаўся за сваю радзіму пры Тэрмапілах невялікі атрад спартанцаў. Нас няшмат, але мы мусім гэтак жа мужна весці бітву».

Гэтае тлумачэнне, гэтую праграмную інтэрпрэтацыю Ян Чыквін палічыў неабходным пацвердзіць зноў і ў свежым нумары свайго выдання. Толькі ўжо ў мастацкай форме, у форме верша пад загалоўкам «Нас мала». Прывяду яго поўнасцю:

*Нас мала. Ды гэта не значыць,*
*Што мы анічога не варты.*
*Нас крыўдзяць. І гэта мы бачым.*
*Ды ў гэтым змаганні, не іначай,*
*Мацнее наш дух*
*непераможна-ўпарты.*
*Мы не згубіліся ў дзеях.*
*За намі сцягі слаўных вояў.*
*Над намі іх неба гісторыі.*
*Той шлях і цяпер нас вядзе*
*З веку ў век. І з намі надзея.*
*Бойцеся нас, бо нас мала!*
*І мы сваё маем джала.*
*Мацнейшае за кожную зброю*
*Слова нашае. Слова!*
*Яно, як тая Пагоня,*
*Імчыцца ўсё ў бой. І нас бароніць.*

Трэба сказаць, што і ўвесь разнастайны ідэйна-тэматычны змест нумара вытрыманы ў «духу непераможна-ўпартым». Пра што пераканаўча сведчаць змешчаныя на яго старонках творы як «белавежцаў», так і сяброў беларускага пісьменніцкага саюза. Гэта — «Запісы розных гадоў» Ніла Гілевіча (імі адкрываецца нумар), апавяданні Леаніда Дранько-Майсюка, Алеся Гайдука і Антося з Лепля (Антона Васілеўскага), эсэ, нататкі Радзіма Гарэцкага, Серафіма Андраюка, Алы Петрушкевіч і Уладзіміра Сіўчыка, літаратуразнаўчае даследаванне «Быць альбо не быць як беларускае пытанне» Сержа Мінскевіча, вершы Аксаны Данільчык, Анатоля Брусевіча, Галіны Самойлы, Алеся Барскага, Віктара Шведа, Дзмітрыя Шатыловіча, Галіны Тварановіч, Лідзіі Маліноўскай, Жэні Мартынюк і Генадзя Праневіча. (Дзве краіны, а мастацкае пісьменства адно, беларускае, беларускае слова, беларускія прозвішчы.) «Айчына — гэта місія, а не прытулак. Таму мы з ёю мусім дзейнічаць да скону», — піша ў сваёй «Лірычнай утопіі» Алесь Барскі.

Значыць, вось такое яно, сёлетняе чытанне. Што чыталася пасля «Тэрмапілаў»? А вось што. Амаль адначасова з часопісам атрымаў кнігу, якую выдала — сімвалічнае супадзенне! — усё тая ж «Белавежа» (Беласток) і аўтар якой пастаянна, стала, з самага першага нумара, супрацоўнічае з гэтым самым літаратурна-мастацкім і беларусазнаўчым часопісам «Тэрмапілы» (вершы, артыкулы, рэцэнзіі). Гэта — кніга колішніх дзённікавых запісаў Галіны Тварановіч «Пайсці, каб вярнуцца». Так, раздзелы выдання адпаведна і называюцца: «З запісаў вучаніцы», «З запісаў студэнткі» і «З запісаў аспіранткі».

Скажу адразу: чытанне было наколькі цікавым, настолькі няпростым, пры высокім градусе суперажывання. Нельга было не ўспрымаць эмацыйна ўжо тое, як, з якім рашучым, юначым максімалізмам аўтар вырашае, чаму мусіць весці дзённік, чаму і з якой мэтай — са спадзяваннем «пазбыцца чужога і адкрыць сябе ў сабе». «Запісы» — насамрэч размова з самой сабой, са сваёй душой, са сваім непаўторным «я». Чытаем: «Будзь цярплівай, настойлівай, сабранай, падцягнутай, урэшце, з пачуццём уласнай годнасці»; «Хачу быць зразуметай... У кожнае імгненне можа быць запатрабавана справаздача перад сумленнем у тым, што зроблена, ці сумленна пачата жыццё»; «Мне ж, па сутнасці, увесь час даводзіцца іграць (ці не іграць, а жыць) адным са сваіх «я»; «Чалавек прызваны да таго, каб дасканаліць сябе... Павінен жа ён, чалавек, некалі дайсці да ідэалу»; «Каб сябе самое спазнаць, трэба мець самы розны вопыт»; «Ды зноў прайшоў час паглыблення ў сябе. Колькі гэта будзе працягвацца? Пакуль знайду сябе! Працягваю выціскаць з сябе раба»; «Мне трэба паслядоўна працягваць ствараць сябе. І як бы ні было цяжка, не крывіць душою»; «Без веры немагчыма. Зледзянела б. Так, не ўяўляю па чалавечых мерках Бога. Не магу ўявіць Яго, як бясконцасць не магу ўмясціць у сябе. Але ж адчуваю над усім лёсаносную Руку»...

Запісы — самаадчуванні, запісы — самасведчанні. Найкаштоўны, удзячны матэрыял для псіхолага, псіхааналітыка, філосафа, у прыватнасці — для філосафа-экзістэнцыяліста. Міжволі згадваецца К'еркегор з яго «парадаксальнай дыялектыкай», «ісцінай як суб'ектыўнасцю» і «трыма стадыямі жыцця», якія павінен прайсці чалавек для дасягнення сваёй мэты. Можна сказаць, што менавіта такія стадыі і праходзіць у сваіх дзённікавых запісах, што вяліся цягам дзесяці гадоў, аўтар кнігі Галіна Тварановіч, — эстэтычную, маральна-этычную і рэлігійную.

Пра гэта сведчыць, паказальны ў гэтай сувязі і той факт, што ў «запісах» шмат разоў згадваецца Дастаеўскі. Тэма чытання наогул займае вялікае месца. «Кнігі, кнігі, кнігі...». Ды найбольшае значэнне надаецца творам Фёдара Міхайлавіча з яго філасофіяй існавання, абвостраным псіхалагізмам, марай пра дасканалага, «положительно прекрасного» чалавека.

Але, мушу тут жа зазначыць, кнігі, чытанне, захапленне літаратурай — не адзіны чыннік, які «ўплывае», «авалодвае душой», так бы мовіць, лірычнай гераіні дзённіка ў яе «самастварэнні», у яе духоўным і маральным сталенні. Не адзіны і не галоўны. Больш за тое — ці не галоўным, вызначальным чыннікам з'яўляецца хутчэй за ўсё родная прырода, роднае Дараганава з яго пцічанскім (вёска знаходзіцца на рацэ Пціч) плёсам, з яго дубамі, клёнамі і бярозамі, з узлескамі і верасамі. Ім прысвечаны асабліва пранікнёныя, узнёслыя і, дадам яшчэ, вобразна — паэтычныя запісы.

Родная прырода. Добрая зямля. Радзіма... «Якое гэта шчасце — жыць на Радзіме, сустракаць і праводзіць жураваў?»... «Радзіма расце разам з чалавекам. Чым болей даведваешся аб ёй, тым шырэй рассоўваецца межы роднага, блізкага, і яно, гэтае роднае, блізкае, цаглінка за цаглінкай выбудоўвае душэўную раўнавагу, упэўненасць у дні сваім прышлым, гонар за свой народ»... Запісы даюць уяўленне пра паступовае выспяванне ў юнай душы пачуцця патрыятызму, пра тое, як следам за самавыяўленнем, самапазнаннем і самавыхаваннем прыходзіць яшчэ адно «сама» — самасвядомасць. У тым ліку нацыянальная.

Як вядома, двума асноўнымі катэгорыямі этыкі з'яўляюцца доўг (абавязак) і дабро. Яны даюць пра сябе знаць, — не маглі не даваць, — і ў дзённікавых запісах Галіны Тварановіч. Напачатку яна прызнаецца, што «ў даўгу перад некім чыстым, светлым». Потым абавязвае сябе «піць з чашы дабра і зла, мучыць сябе, каб стаць вартаю чалавечага звання». А далей, у пазнейшых запісах канкрэтызуе ўсведамленне сваёй асабістай адказнасці, гаворыць пра «пачуццё віны перад беларускай мовай», пра «хранічны боль» за яе становішча. «Але ж я — беларуска! Мая бяроза, мая рака, мая лясная сцежка — у сэрцы Беларусі. Разам з адмаўленнем ад нацыянальнага мы губляем, магчыма, душу сваю. Прынамсі, яе крыўдзім, істотна абяссільваем. Асіміляцыя — цалкам стратная з'ява». Альбо вось гэты пранікнёны запіс пра вечарыну, прысвечаную памяці Міхася Зарэцкага, пра рэпрэсаваных беларускіх пісьменнікаў: «Колькі задум не адбылося, колькі не рэалізавалася імі і многімі іншымі пакутнікамі! Трагедыя асабістых лёсаў і літаратуры, усяго народа беларускага — як такое магло стацца... Пачуццё крыўды і віны адначасова».

Вось такая духоўная эвалюцыя — ад наіўнага, юначага хвалявання за сваё шчасце, за свой уласны лёс да пачуцця болю, пачуцця адказнасці за лёс матчынай мовы, лёс народа.

Вось такая яна, прачытаная нядаўна кніга Галіны Тварановіч «Пайсці, каб вярнуцца». Кніга — сумоўе з самой сабой, са сваім «я», кніга пра «самавыяўленне» і «самавыхаванне» (азначэнні аўтара), пра боль душы і сэнс жыцця, пра, кажучы інакш, унутранае і вонкавае, часовае і вечнае, дольнае і горнае. Ну і ў пэўным сэнсе пра тое, што нас няшмат, нас крыўдзяць, «ды гэта не значыць, што мы анічога не варты».

**Бойцеся нас, бо нас мала!**
**І мы сваё маем джала.**
**Мацнейшае**
**за кожную зброю**
**Слова нашае. Слова!**
**Яно, як тая Пагоня,**
**Імчыцца ўсё ў бой.**
**І нас бароніць.**

***Ад рэдакцыі.*** *18 траўня кіраўніку Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», вядомаму паэту і літаратуразнаўцу Яну Арцёмавічу ЧЫКВІНУ споўнілася 75 гадоў. Шчыра жадаем дарагому юбіляру доўгай паэтычнай радасці, а таксама віншуем з выхадам яго новай кнігі лірыкі і прозы «Здарылася быць». Сто вёснаў!*




Злева направа: Барыс Пятровіч, Дзмітры Плакс, Луіз Хэдберг, Ульрыка Шэрнборг, Гунар Ардэліюс, перакладчыца Надзея Кандрусевіч, Алесь Пашкевіч, Ан Вікстрэм

# Шведска-беларускія літаратурныя сустрэчы

**Напрыканцы красавіка па запрашэнні сваіх калегаў з Саюза беларускіх пісьменнікаў Беларусь наведала кіраўніцтва Шведскага саюза пісьменнікаў.**

Цягам свайго візіту госці сустрэліся з сябрамі Рады і кіраўнікамі абласных аддзяленняў СБП, мінскімі аўтарамі, а таксама пабывалі ў Берасці на прэзентацыі новага нумара альманаха «Жырандоля».

Дзмітры Плакс (Беларусь-Швецыя) выступіў супольна з «Беларускім кліматам» у межах выставы «Мінск. Нонканфармізм 1980-х» з адмысловым паэтычна-музычным сэтам.

Шведскія літаратары наведалі Археалагічны музей «Бярэсце» і Мемарыяльны комплекс «Брэсцкая крэпасць-герой».

У Брэсцкай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. Пушкіна быў прэзентаваны новы, шосты нумар літаратурнага альманаха «Жырандоля», які выдаецца абласным аддзяленнем Саюза беларускіх пісьменнікаў.

У вечарыне ўдзельнічалі ўкладальнікі і аўтары альманаха, сябры СБП, мясцовыя аматары літаратуры. Вялі імпрэзу старшыня Берасцейскага абласнога аддзялення СБП Іван Мельнічук і паэт Мікола Аляхновіч.

З Луцка ў Берасце прыехала Ніна Горык, прадстаўнік кіраўніцтва Валынскай абласной арганізацыі Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны, з якой берасцейскія пісьменнікі стала і плённа супрацоўнічаюць. Спадарыня Ніна распавяла пра беларуска-ўкраінскія літаратурныя повязі, пра ўзаемныя пераклады.

З прывітальным словам выступілі старшыня СБП Барыс Пятровіч і першы намеснік старшыні Алесь Пашкевіч.

У межах вечарыны адбылася таксама прэзентацыя альманаха «Справа», што выдаецца Таварыствам украінскай літаратуры пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў.

Кожны з выступоўцаў, сярод якіх былі аўтары, укладальнікі і рэдактары альманаха «Жырандоля», чыталі свае творы, дзяліліся ўражаннямі пра зборнік, абмяркоўвалі перспектывы падрыхтоўкі новых нумароў.




## ЧЭРВЕНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў**

Васіль Васільевіч Зуёнак (нар. 3.06.1935)
Аляксей Ануфрыевіч Дудараў (нар. 6.06.1950)
Дзмітрый Пятровіч Плакс (нар. 12.06.1970)
Міхась Віктаравіч Башура (нар. 25.06.1975)

Жадаем усім радасці,
натхнення і дабрабыту!

**Сакратарыят Саюза беларускіх пісьменнікаў выказвае сардэчныя спачуванні паэту Алесю Чобату з прычыны смерці яго бацькі Фёдара Андрэевіча.**

**Вечная памяць!**

# Вечарына памяці Анатоля Кудраўца

**У гадавіну па Анатолю Кудраўцу — пісьменніку, рэдактару, публіцысту — блізкія, сябры і калегі творцы сабраліся ў цэнтры сталіцы ў кавярні Netto, каб ушанаваць памяць Анатоля Паўлавіча, а таксама прэзентаваць яго празаічную кнігу «Зязюля пракукуе заўтра».**




Мемарыяльны вечар быў арганізаваны Саюзам беларускіх пісьменнікаў і сваякамі пісьменніка.

Сустрэча праходзіла ў камернай, амаль сямейнай абстаноўцы, таму выступоўцы мелі магчымасць выказацца непасрэдна, без аглядкі на ўмоўнасці. Успаміналі пра сяброўскія «размовы на кухні» з Анатолем Кудраўцом, згадвалі глыбока асабістыя моманты.

Для кагосьці Анатоль Паўлавіч быў начальнікам, старэйшым калегам і духоўным настаўнікам. Напрыклад, для Сяргея Дубаўца, Алеся Пашкевіча, Ірыны Шаўляковай, якія некалі ў юнацтве пачыналі свой прафесійны шлях з працы ў часопісе «Нёман», дзе спадар Кудравец быў галоўным рэдактарам.

Для больш сталых пісьменнікаў — Анатоля Вярцінскага, Генрыха Далідовіча, Сяргея Законнікава, Віктара Казько, Віктара Карамазава — Анатоль Паўлавіч быў добрым сябрам, надзейным паплечнікам, чалавекам вялікай жыццёвай мудрасці, знешне вельмі спакойным і мяккім, але ўнутры — напоўненым нязломнай сілай волі, прагай да справядлівасці, імкненнем да высокіх маральных каштоўнасцей.

Акадэмік Радзім Гарэцкі ўспамінаў досвед супрацоўніцтва з Анатолем Паўлавічам у часопісе «Нёман»: спадар Кудравец падтрымліваў смелыя публікацыі, ініцыяваў грамадскія абмеркаванні, круглыя сталы па надзённых пытаннях сацыяльнага і культурнага жыцця.

Народнасць, глыбокі нацыянальны пачатак, тонкае бачанне беларускага характару — усё гэта ўласціва майстру вясковай прозы Анатолю Кудраўцу. І пры гэтым калегі адзначылі «някідкасць», непрэтэнцыёзнасць, адсутнасць залішніх творчых амбіцый, пачцівае пачуццё ўласнай годнасці — тыя рысы, якіх, на погляд выступоўцаў, у сучасным свеце многім людзям не хапае.

У падрыхтоўцы кнігі прозы «Зязюля пракукуе заўтра» (бібліятэка «Саюза беларускіх пісьменнікаў»), што была складзеная аўтарам, але апублікаваная ўжо, на жаль, пасмяротна, актыўны ўдзел узяла ўнучка пісьменніка Ганна (Анюта, як лагодна называюць яе блізкія), якая робіць усё для захавання памяці пра дзядулю. Цяпер рыхтуюцца да выпуску ўспаміны Анатоля Кудраўца.

Вечар памяці, які вёў старшыня СБП Барыс Пятровіч, завяршыўся музычным выступам Тацяны Матафонавай — вядома, Анатоль Паўлавіч вельмі любіў беларускія нацыянальныя песні.

**Віка Трэнас, для lit-bel.org**

## ПАЛІЦА

### Беларускае фэнтэзі

**Выйшаў раман-казка пра прыгоды ў чарадзейнай краіне Эферы, напісаны грамадскім актывістам, заснавальнікам моўных курсаў і татам траіх сыноў Аляксеем Шэіным.**




Кніга пабачыла свет у серыі «Каляровы ровар» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў.

У адным з інтэрв'ю аўтар прызнаўся, што яшчэ з дзяцінства марыў стаць пісьменнікам і што падчас працы арыентаваўся на класіку фэнтэзійнага жанру — «Хронікі Нарніі» Клайва Льюіса і «Уладара пярсцёнкаў» Джона Толкіена.

«Увогуле, кніга пра тры рэчы: каханне, веру і свабоду. Галоўнага героя завуць Ясь, ён падлетак. Ясь трапляе ў чароўную краіну Эферыю, дзе змагаецца за жыццё сваёй невылечна хворай сяброўкі Міркі. Выпадкова Ясь даведваецца, што ў Эферыі калісьці была крыніца жывой вады. Сюжэт пабудаваны вакол пошукаў жывой вады — трэба знайсці сем камянёў, якія падкажуць, дзе схаваная крыніца. Акрамя таго, краіну Эферыю захапіў самазванец, які кіруе народам несправядліва. Галоўны герой паралельна змагаецца і за тое, каб вярнуць свабоду ў краіну Эферыю», — расказаў Аляксей Шэін.

Афармленне вокладкі кнігі, а таксама малюнкі ў тэксце належаць мастаку Раману Суставу, для якога гэта быў першы досвед працы над менавіта беларускамоўнай кнігай.

### «Каштаны ў кішэнях» Наталлі Русецкай

**Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў» папоўнілася новым выданнем — выйшаў другі паэтычны зборнік Наталлі Русецкай, якую чытацкая публіка ведае як знаную перакладчыцу і даследчыцу шматмоўнай старажытнай беларускай літаратуры.**




Нягледзячы на тое, што Наталля Русецкая нарадзілася ў Ніжагародскай вобласці Расіі, расла і вучылася ў Мінску, стала жыве і працуе ў Любліне (Польшча), значную частку свайго жыцця, даследчыцкай і творчай дзейнасці аўтарка прысвячае менавіта беларускай нацыянальнай культуры.

Ідэі шматмоўнасці, разнастайнасці свету і ўвогуле глабальнасці і непрадказальнасці ўсяго існага ярка адбіваюцца ў вершах пані Наталлі поруч з настальгіяй, тузе па Беларусі, па канкрэтных нашых гарадах, мясцінах і вуліцах. Напрыклад, верш «Цягнік Берасце–Менск», у якім лірычная гераіня з нецярплівасцю чакае сустрэчы з роднай зямлёй:

Час спыняецца ў пяць гадзін,
калі да Менску застаецца гадзіна з нечым,
а займацца зусім ужо няма чым,
і цягнік пакрысе заязджае ў маўклівы вечар.
Ты глядзіш на гадзіннік: цікай ты, не маўчы!
Давай, хутчэй перасоўвай стрэлкі,
што ж яны захраслі ў табе, нібы стрэмкі?..

І, як пішацца ўжо ў іншым вершы, «мост праз Буг, калі едзеш з дому, бясконца доўгі, адчуваеш, як пад нагамі знікае зямля».

Дарогі, ад'езды і вяртанні, межы паміж рознымі краінамі — тыя матывы, якія часта можна сустрэць у паэтычным зборніку. Матывы частыя, але не галоўныя.

Самае важнае, як падаецца, у кнізе «Каштаны ў кішэнях», — гэта пошук гераіняй сябе, свайго шчаслівага лёсу, свайго кахання, гэта радасць мацярынства, гэта ўспаміны часоў юнацтва і ўрокі сталасці. Гэта вера ў сваю будучыню.

# Родам з Уздымача

## Да 90-годдзя Алеся Траяноўскага



Алесь ЖУК

**Калі ехаць з Мінска на Слуцк, у канцы Буды-Грэскай за кіламетр ад яе ў лесе відаць вострыя верхавіны ялін. Тая мясціна называецца ўрочышча Уздымач.**

Там былі дзве хаты — ляснічага і лясніка Пятра Іванавіча Траяноўскага, у якога 22 верасня 1925 года нарадзіўся сын, якога назвалі Алесем. Да пачатку вайны Алесь Траяноўскі паспеў скончыць сямігодку і застацца сіратою. Маці памерла раней, потым і бацька. У вайну трэба было жыць і самому зарабляць на хлеб. Давялося ўладкавацца ў нямецкую ўправу пісарчуком. Вайна вайною, а маладосць патрабавала свайго, сямнаццацігадовы юнак закахаўся ў дзяўчыну ў суседняй з райцэнтрам вёсцы, дзе кватараваў. Каханне было кароткім, як і лета. У жнівені позним вечарам да Алеся і дзяўчыны пад'ехалі двое конных:

— Ну што, Траяноўскі, ідзі і збірай манаткі, пойдзеш з намі. Ці, думаеш, адседзішся ва ўправе? Завалаюць цябе ў паліцыю, тады мы, як зловім, — застрэлім. А ты, дзеўка, заўтра ўсім скажаш, што яго пад вінтоўкаю ў лес забралі, і ўсім добра будзе.

Так у сямнаццаць год Алесь Траяноўскі стаў партызанам атрада імя Чапаева, які базіраваўся ў Старыцкім лесе Капыльскага раёна. Пра «партызанку», як і пра фронт, Алесь Пятровіч не надта любіў успамінаць, відаць, таму, што там была загублена маладосць, першае каханне. Ён ні разу не пахваліўся, што ўдзельнічаў у партызанскім парадзе. Я выпадкова ўгледзеў яго ў кадрах кінахронікі, дзе ён ішоў з кулямётам. На фронце быў двойчы паранены. Другі раз быў паранены цяжка мінамётнаю мінаю, доўга ляжаў у варонцы непадалёку ад свае траншэі. Забраць яго адтуль змаглі, калі сцямнела. У шпіталі амаль цэлы год пралежаў у гэтак званым «гіпсавым ложачку». Вярнуўшыся ў Мінск у 1946 годзе, працаваў на розных пасадах, скончыў сярэднюю школу, потым Маскоўскі гісторыка-архіўны інстытут. З 1955 года — літаратурны супрацоўнік аэрафлотаўскай шматтыражкі «Западная трасса», з 1962 года літсупрацоўнік, а потым і загадчык аддзела літаратуры і мастацтва газеты «Звязда», у 1983–1986 гадах намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Мастацтва Беларусі».

Творчую дзейнасць пачаў у 1957-м літаратуразнаўчымі артыкуламі ў перыядычным друку.

У час работы ў «Звяздзе» Траяноўскі актыўна піша газетныя нарысы. Потым рэзка абрывае занятак журналістыкай. Ён прызнаўся мне потым, што было прычынай.

Алесь Пятровіч напісаў нарыс пра добра знаёмага яму, паважанага доктара з Магілёва. Той перажыў свае юбілейныя дні і нечакана памёр. Герой наступнага нарыса Траяноўскага трагічна загінуў. Тады адзін з калег і сказануў: «Ну, Алесь, у цябе не пяро, а лапата». Пасля гэтага Траяноўскі ні радка журналістыкі не напісаў. Вось што можа зрабіць недарэчы сказанае слова...

Хаця аб'ектыўна, можна сказаць, тое пайшло на карысць Алесю Пятровічу: ён цалкам аддаўся перакладчыцкай рабоце, якой час ад часу займаўся яшчэ з 1960 года. Ён вывучыў мову, з'ездзіў да верхне- і ніжнелужыцкіх сербаў. Стаў укладальнікам, аўтарам прадмовы і каментарыяў анталогіі «Там, дзе Шпрэя шуміць». Потым у яго перакладах выйшла анталогія кашубскай паэзіі «За даляглядам край Сталемаў». Усё гэта было ўпершыню ў беларускай літаратуры. Адкрыццё не толькі новых літаратур, але і многіх невядомых дасюль нам народаў. Потым Алесь Пятровіч укладае анталогію беларускага апавядання «Дзівак з Ганчарнай вуліцы», якая выдаецца на верхнялужыцкай мове ў былой ГДР. У 1984 годзе Траяноўскі перакладае з кашубскае мовы аповесць Юрыя Брэзана «Чорны млын», актыўна працуе над перакладамі з украінскае, польскае моваў.

З Алесем Пятровічам я пазнаёміўся студэнтам. Ён як супрацоўнік «Звязды» ездзіў у камандзіроўкі «арганізоўваць» падпіску на газету. Бацька мой у той час працаваў начальнікам вясковага паштовага аддзялення. Бацька расказаў пра мяне Траяноўскаму, той пакінуў яму нумар тэлефона. Я доўга не адважваўся званіць такому вялікаму чалавеку і на першую сустрэчу, каб было смялей, паехаў з Юркам Голубам. Алесь Пятровіч сустрэў нас прыязна, з Голубам яны пагаварылі пра Ларысу Геніюш. У час гаворкі высветлілася, што мой аднакласнік па васьмігодцы Шура Барысевіч ягоны пляменнік па мацярынскай лініі. Пасля васьмігодкі Шура скончыў прафесійна-тэхнічнае вучылішча і працаваў на заводзе токарам. Так мы з Шурам пасля вёскі «знайшліся» ў горадзе і час ад часу сазвоньваліся і сустракаліся ў Алеся Пятровіча.

Тая дзяўчына, ад якой партызаны забралі Алеся Пятровіча да сябе ў лес, адразу пасля вайны выйшла замуж, калі яны выпадкова сустрэліся ў Мінску, гатова была пакінуць мужа, Алесь Пятровіч не захацеў гэтага і, як аказалася потым, назаўсёды астаўся жыць адзін. Так што, сустракаючыся ў яго, мы нікому не заміналі...

Алесь Пятровіч жыў адзін, але ніколі не жыў адзінока. У яго быў талент знаёміцца з людзьмі і сябраваць. Ён быў сваім чалавекам у віленскіх беларусаў, сябраваў з Янкам Шутовічам, Зоськай Верас, мастаком дзядзькам Пётрам Сергіевічам і іншымі. Умеў прыдумляць сабе занятак і захапленні. Адзін час займаўся фатаграфаваннем і добра авалодаў гэтай справай. Мае фатаграфіі ў большасці маіх кніг — яго работы, шкада, што я ў свой час не пазначыў гэта.



**Алесь Траяноўскі на месцы сваёй колішняй хаты**

Асабліва блізка мы з Алесем Пятровічам сышліся пасля таго, як я вярнуўся з войска. Сустракаліся ў выхадныя на прагулках у лесе, зімою на лыжах. Нягледзечы на ўзрост, на скалечаную на вайне нагу. Ён навучыўся паходкаю скрадваць накульгванне, трэба было добра прыглядзецца, каб заўважыць гэта. Алесь Пятровіч не любіў нагружаць іншых сваімі клопатамі, скардзіцца на свае балячкі, часам у гэтым нехаценні перабіраючы меру. Аднойчы я не мог дазваніцца яму некалькі дзён. Урэшце не вытрымаў, паехаў на кватэру. Стаяў перад дзвярыма доўга, пакуль пачуў шоргат у кватэры. Алесь Пятровіч ледзьве дабраўся з ложка адамкнуць дзверы. Ён вырашыў пералежаць грып і далежаўся да таго, што і ежа ў рот не палезла ад знясілення. Я тады зварыў яму цэлую куру, на тым бульёне зрабіў суп, а на першым часе, пасадзіўшы яго на ложак, з лыжкі пакарміў бульёнам. Ад гэтага ён так стаміўся, што на ілбу выступіў пот. Потым пазваніў яго сябру доктару Валодзю Мокламу, той прыехаў і паслухаць яго, і лекі прывёз...

У наступны раз ён дома дастаў з калена асколак. Той асколак ад паясніцы ішоў да калена гадоў трыццаць. Алесь Пятровіч адчуў дзюбку, якая вытыркнулася са скуры, і пласкагубцамі дастаў асколак. Пасля гэтага калена распухла, разбалелася. Давялося зноў клікаць доктара Моклага. На тым месцы, дзе асколак выйшаў, утварыўся свішч, які не ўдалося залячыць, з ім Алесь Пятровіч і памёр.

Траяноўскаму я абавязаны тым, што стаў беларускім пісьменнікам. Пачынаў я пісаць ад вялікага ўражання Чэхавым, мне хацелася быць проста пісьменнікам, вядома ж вялікім, нават і сусветным, як і ўсім пачынаючым і маладым. Яму я ўдзячны за нашы агульныя падарожжы і паездкі, пра якія можна многа гаварыць і расказваць, тыя вясёлыя і невясёлыя прыгоды, якія з намі здараліся зусім як у дзяцей, пра якія пастаронняму і гаварыць няма як, не зразумее ён нас, ужо дарослых мужчын.

Алесь Пятровіч прыдумаў аднойчы і падарожжа ў Вільню. Паехалі мы на машыне з Сяргеем Панізнікам, выбраліся ў дарогу пасля абеду. Пераначавалі на беразе Віліі, па дарозе заехалі ў Меднікі, пабылі ў час тае паездкі і ў Троках, пагасцілі ў дзядзькі Пётры Сергіевіча, дзе нас гасцінна сустракала Сергіевічава пані Стася. Майстэрня была забіта карцінамі. Але мяне найбольш уразіла папка — сярэдніх памераў блакнот — дзе на аловак мастаком былі схоплены тыпажы. Такіх беларускіх жывых аблічча я не бачыў ні ў кога з мастакоў ні да таго, ні пасля.

Праехалі мы з Алесем Пятровічам па яго партызанскіх мясцінах, пабылі ў Роспах, дзе спачатку стаяў штаб атрада, а потым і брыгады. Алесь Пятровіч з гумарам расказваў, як у 1942 годзе партызаны вырашылі адзначыць свята Вялікага Кастрычніка. Сплянаваны быў урачысты мітынг, потым меўся быць і святочны абед. Згарбузавалі нават духавы аркестр, які граў на ўсё навакольле маршы і савецкія песні, так адчувалі сябе ўпэўнена. Але замест мітынга і святочнага абеда да вечара давялося трымаць бой, а назаўтра хаваць загінуўшых. Сапраўдная партызанская вайна з блакадамі, карнікамі, спаленымі вёскамі толькі пачыналася.

У Роспах, на тым месцы, дзе стаяў партызанскі штаб, была пустка з зарослымі быльнягом, крапівою, кіпрэем камянямі ад былога падмурка. На гэтым месцы ніхто не захацеў забудоўвацца. Мужчыны, з якімі мы спрабавалі загаварыць пра вайну, замаўкалі і адсылалі нас да бабулек, «якія лепш тое памятаюць».

У нас з Алесем Пятровічам была цудоўная паездка на юбілей Івана Франка. Святкаванне адбывалася ў самім Львове, на малой радзіме пісьменніка, мы сустракаліся з выкладчыкамі Львоўскага ўніверсітэта, з Раманам Лубкіўскім, які тады кіраваў Львоўскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Украіны, пабылі на старых львоўскіх могілках, забраліся на сопку пад тэлевышку, там пілі сухое віно і любаваліся горадам...

З'ездзілі і ў мінулае, на яго радзіму, на Уздымач. Я зразумеў, што Алесь Пятровіч упершыню пасля вайны адважыўся паглядзець на тую мясціну, адкуль пайшоў у вялікі свет.

Лесавая дарога зарасла травою, па ёй рэдка хто ездзіў. Дайшлі да развілкі. Направа, праз лесавы прагалак былі відаць калектары асушаных балот, аж да Белага Бору, лесавой і балотнай вёсачкі, якую ў нас спрадвеку называлі Білібар. Яна была за восем кіламетраў ад дарогі на Мінск, але з-за балот немцы ні разу не былі ў ёй. Налева дарога, відаць, выводзіла з лесу на дарогу Бабоўня–Капыль.

На развілцы Алесь Пятровіч спыніўся, паглядзеў на куст бэзу, на пазначаны маланкай клён над ім, і быццам здзіўлена прамовіў: «У векавечнай бацькаўшчыне клёны...».

Вакол усё было зарослае ўжо вялікаватым, але яшчэ з галінамі да зямлі, кудлатым хвойнікам. У гэтым хвойніку ледзь узвышаўся грудок друзу з чырвонае цэглы, які пачаў ужо злёгку зарастаць травою. Тут была печ у хаце лесніка Траяноўскага. Мы разаслалі газеты, каб памянуць хату, але вымушаны былі хутка ўцякаць з лесу, які ў спякотнае надвор'е кішэў ласінымі вошамі. Так тады яшчэ называлі кляшчоў. Ужо на абочыне шашы мы паздымалі з сябе кашулі, вывернулі іх і нажамі саскрэбвалі кляшчоў. Потым пакіравалі пешшу да Шышчыц, дзе і пераначавалі ў лесніка Хоцькі.

Пражытыя гады давалі знаць пра сябе, да свішча дадаваліся новыя балячкі. Алеся Пятровіча пачала мучыць астма, але ён не збіраўся здавацца. Разам са сваімі новымі сябрамі ў Чырвоным касцёле працаваў над перакладам Святога Пісання на беларускую мову. У гэты час ён пасябраваў з Валодзем Ягоўдзікам, які апекаваўся над ім, адвозіў у шпіталь і са шпіталя ветэранаў вайны ў Бараўлянах, адведваў дома...

Памёр Алесь Пятровіч нечакана. Паляжаў у бальніцы, падлячыўся, выпісаўся і па дарозе дадому заехаў у Чырвоны касцёл. Пагаварыў з сябрамі, а потым і задрамаў у мяккім крэсле ў плябані. Задрамаў назаўсёды.

Адпявалі яго ў Чырвоным касцёле. Валодзя Ягоўдзік дамогся ў гарадскіх уладаў пахавання на Кальварыйскіх могілках. Разам са сваім сябрам мастаком Валодзем Вішнеўскім пакалясілі па Беларусі, пакуль знайшлі шэра-блакітны валун, з якога атрымаўся прыгожы цёплы помнік.

У мінулым годзе, на Радаўніцу, мы сустрэліся на магіле Алеся Пятровіча. Ягоўдзік перадаў мне папку перакладаў Алеся Пятровіча вершаў Олэксандра Олэся «Кобза і меч», сто сорак сем машынапісных старонак, цэлая кніжка паэзіі. Яе Ягоўдзік збіраецца выдаць, ён выдаў ужо кніжку паэзіі самога Алеся Пятровіча «Стрэлалукі».

Сёлета — 22 верасня — споўніцца 90 гадоў з дня нараджэння Алеся Траяноўскага, адданага сына роднай зямлі, векавечнай Бацькаўшчыны, на якую клёны тысячагоддзі будуць ablятаць...

**22 снежня 2014 г.**

# Адчуй сябе паэтам!

Канец 1980-х, 90-я маладыя літаратурныя гады...

Алесь Масарэнка — кансультант літаб'яднання «Крыніцы» пры штотыднёвіку «Чырвоная змена», на працягу сямнаццаці гадоў узначальваў сустрэчы маладых літаратараў.

Змяняліся выданні, пры якіх дзейнічала літаб'яднанне, змяняліся прасторавыя каардынаты яго сустрэчаў, таму гісторыя літаб'яднання атрымалася цікавай, але даволі заблытанай. З «Крыніц», «Першацвета» і «Літаратара» пачалі свой шлях у беларускую літаратуру многія вядомыя сёння аўтары, таму згадкі пра літаб'яднанне Алеся Герасімавіча часта сустракаюцца ва ўспамінах, інтэрв'ю, мастацкіх творах.

У культурным жыцці Беларусі апошніх дзесяцігоддзяў гэтае літаб'яднанне было, бадай, самым вядомым і самым шматлюдным. Зазірнуць у Дом літаратара на чарговае пасяджэнне мог кожны, хто меў патрэбу далучыцца да размовы пра літаратуру альбо хацеў пабачыць, як успрымаюцца яго творы.

Сённяшнім літаратарам, напэўна, крыху бракуе вольнай прасторы, дзе можна штотыдзень у рэальным часе сустракацца са знаёмымі, чытаць новыя вершы, абмяркоўваць творы калег. Зрэшты, сустрэчы маладых літаратараў не заўсёды былі «гармоніяй у ружовым» — у першую чаргу праз шкодныя звычкі, часта ўласцівыя творчым асобам...

На гэтых старонках сябры літаб'яднання на чале з Алесем Герасімавічам згадваюць колішнія сустрэчы, разважаюць пра літаратурнае жыццё і вызначаюць, ці патрэбны ўвогуле паэтам творчыя суполкі. З успамінаў усіх ахвотных можна было б скласці цэлую кнігу, а потым напісаць паводле яе сур'ёзнае даследаванне. Таму гэтыя публікацыі — толькі пачатак...

## Алесь Масарэнка: «Талент у кожнага свой!»

***— Алесь Герасімавіч, доўгі час пад вашым кіраўніцтвам праходзілі літаратурныя сустрэчы ў Саюзе пісьменнікаў. Якія цікавыя ўспаміны засталіся з тых гадоў?***

— Я кожны панядзелак прыходзіў у Саюз пісьменнікаў, у колішні Дом літаратара, — чытаў творы маладых аўтараў, раіў, дзе друкавацца. Быў літкансультантам, але ніякіх грошай за гэта не атрымліваў. Працаваў — а потым гэта некаму вочы стала драць. Праганялі мяне нават, каб не праводзіў літаб'яднанне... А да таго — кіраваў літаб'яднаннем «Крыніцы» пры штотыднёвіку «Чырвоная змена», калі яе галоўным рэдактарам быў Уладзімір Бельскі. Там і друкаваліся маладыя таленты.

У нас было ўсё проста: збіралася творчая моладзь, чалавек дзесяць-пятнаццаць. Нават з Гродна і Брэста на літаб'яднанне прыязджалі! Выходзіць чалавек, чытае свае вершы. Іншыя налятаюць, пачынаюць кляваць. А я ў заключэнне часам кажу: «Ён жа лепш за вас піша!» Многія паэты сябе ацэньваюць высока, а іншых любяць крытыкаваць. Напрыклад, Георгі Барташ — іншых крытыкуе, а як возьмецца за свае вершы, мы яго разбіваем у пух і прах. Кажу: «У таго паэта — вобраз, а ў вас адна развага на некалькі радкоў».

Памятаю адну дзяўчыну — чалавек таленавіты, але вершы слабыя. Аднойчы яна падаравала мне птушачку з гліны, прыгожую, ладную. Я ўзрадаваўся, кажу: «Вось твой талент!» Яна потым выраблялa гліняныя цацкі, на базары прадавала і грошы атрымлівала. Талент у кожнага свой!

***— Да чаго вы, як кіраўнік літаб'яднання, імкнуліся ў першую чаргу?***

— Прыходзіць аўтар, чытае рускамоўныя вершы. Я пытаюся: «Дзе ты нарадзіўся? У Беларусі? Дык што ты шукаеш, чаму па-беларуску не пішаш?» Некаторыя пераключаліся на нашу мову — гэта і была мая задача.

Памятаю, Віктар Жыбуль прыйшоў на літаб'яднанне, і я адразу спытаўся: «Што ў цябе па-беларуску ёсць?» Кажа: «Грушаўка». Ну і чытай... Вось ён і звярнуўся да беларускай мовы. Гэта вучань у поўнай меры мой. Ён са сцэны недзе вершы чытаў, я яго запрасіў у літаб'яднанне. Я ж паэтаў як карасёў вылоўліваў!..

А руская мова — страшная навала... Я доўгі час працаваў у «Чырвонай змене», і ніхто з рускамоўнымі вершамі праз мяне не праходзіў. Аднойчы Анатоль Зэкаў прадставіў рускамоўныя вершы адной паэткі, але за гэта я ў рэдакцыі ўсім так даў!.. Навошта ў беларускамоўнай газеце руская паэзія? Ёсць «Знамя юности» — хай там і друкуюцца...

***— Ці не было думкі занатаваць і апублікаваць успаміны пра дзейнасць літаб'яднання?***

— У «Чырвонай змене» я праводзіў кансультацыі ў пісьмовым выглядзе. За адзін допіс зарабляў 50 капеек, таму пісаў у трох варыянтах: аўтару, бухгалтэрыі і сабе. Уладзімір Бельскі такі парадак усталяваў — добры быў рэдактар... У мяне дагэтуль ляжыць тоўстая папка адказаў розным аўтарам — своеасаблівая «літаратурная школа». Пачытаю сёння свае рэкамендацыі — смела можна выдаваць!

***— Ці цікавіцеся літаратурнай дзейнасцю сваіх выхаванцаў?***

— Вядома! Напрыклад, чытаю «Новы час» з «Літаратурнай Беларуссю»: Алесь Пашкевіч тут шчыруе (некалі ён, яшчэ студэнтам філфаку БДУ, быў старшынёй згаданых «чырвоназменаўскіх» «Крыніцаў», а затым маім намеснікам у часопісе маладых літаратараў Беларусі «Першацвет»). А трэба, каб больш было старанцаў!.. З публікацый відаць, што з'явілася ў нашай літаратуры таленавітая моладзь. Але Віктара Жыбуля ці Віку Трэнас я ўжо не лічу маладымі. Гэта «байцы», ім трэба працаваць. І надышоў час брацца за раманы! Бо раман — гэта сталасць літаратуры.

***— Якія праблемы ў сучасным літаратурным жыцці вы маглі б найперш адзначыць?***

— Праблем шмат, і яны навідавоку. Напрыклад, мы ўжо выдаем свае кнігі за ўласныя грошы. Сорам той дзяржаве, дзе за працу пісьменніка не плоцяць. У савецкі час падтрымка была большая: розныя стаўкі для пачаткоўцаў, для сталых аўтараў. Калі я працаваў у «Мастацкай літаратуры», то рыхтаваў зборнік вершаў Анатоля Грачанікава. Прызначалася яму 70 капеек за радок, але вершы выдатныя! І надышоў, дамовіўся, і зрабілі стаўку рубель за радок. У гэтым сэнсе ішлі насустрач і талент ацэньвалі.

Таксама ў кнігі павінен быць добры рэдактар. Раней здаралася: прапусціць рэдактар два радкі — і зарэжуць кнігу. Адзін пісьменнік напісаў «Што ў Германіі фашысты — то ў нас камуністы», а рэдактар прапусціў. Кнігу надрукавалі, але нехта тую прыказку знайшоў — і выданне ні на продаж, ні ў бібліятэкі не пайшло. Цяпер іншы час, і іншая пільнасць павінна быць — да граматычных памылак!

***— Чаму, на вашу думку, адбыўся падзел Саюза пісьменнікаў? Ці на карысць гэта беларускай культуры?***

— Калі б я быў прэзідэнтам, першае, што зрабіў бы, — аб'яднаў Саюзы пісьменнікаў. Навошта нам два Саюзы? Што нам дзяліць? Навошта беларускім пісьменнікам рускамоўны кіраўнік? Чаргінец не варты гэтай пасады, але змагаецца абедзьвюма рукамі. Між пісьменнікамі не было асаблівых супярэчнасцей, проста гэты генерал захацеў захапіць уладу — вось і атрымалася... Але добрыя пісьменнікі ў нас ёсць і яшчэ будуць, так што мяне гэта не палохае. Бабры ў бабровых тонях не звядуцца!

## Валярына Кустава: мае літаб'яднанні

Заўжды з цікавасцю чытала пра ранейшыя таварыствы ды рухі: «Узвышша», «Маладняк», «Тутэйшыя». Але сама ніколі не была аматарам беларускіх літаб'яднанняў. Калі трапляла на іх сходы ці супольныя канцэрты, — было тое выпадкам. Мая бабуля, а пасля і маці працавалі ў Доме Літаратара на Фрунзэ, 5, таму яшчэ школьнікам часта туды завітвала. Наведвала тамака курсы польскай мовы пад кіраўніцтвам выдатнай выкладніцы Інэсы Кур'ян. Неяк, памятаю, ехала з Рэспубліканскай школьнай канферэнцыі па літаратуры, дзе расказвала пра Анатоля Сыса, на тыя курсы — і напаткала ў метро Сяргея Патараскага. Ён, высокі, у цёмным плашчы, з капной густых валасоў, падхапіў мяне пад руку і паведаміў, што мы цяпер разам ідзем на сустрэчу літаб'яднання пры «Першацвеце».







Я ўпіралася, бо тады была закончанай індывідуалісткай, і калектыўныя творчыя імпрэзы намагалася абмінаць чыста з прынцыпу: ну як могуць зразумець паэта там, дзе шмат тых, што лічаць сябе паэтамі. Ніяк... Мне было б цікава з Піменам Панчанкам, з Максімам Танкам, з Еўдакіяй Лось, якімі мяне папросту зачытвала бабуля Валя ўсё маленства. А што рабіць з сучаснікамі? Але Патаранскі мяне ўсё ж зацягнуў на сустрэчу, страховачна падтрымліваючы пад локаць, — каб не ўцякла. Мы ўвайшлі... Былі Алесь Туровіч, Серж Мінскевіч, здаецца, Вальжына Морт, Зміцер Вішнёў, Усевалад Гарачка... Было займальна. Тады ўсе — яны былі добра старэйшыя за мяне — спрабавалі сябе паказаць з найлепшага боку: чытаць здзіўляльна, нестандартна. Да канца не прычакала, бо было позна — бацькі чакалі. Да таго ж — я тады больш любіла пафасных паэтаў, а не перформансы (акурат тады і ўвайшло гэтае слоўца ў моду — і называлі ім розныя бздуры і выбрыкі, да якіх пасля яшчэ дадалі эпітэт «канцэптуальныя»). Але ўсё гэты было займальна і сведчыла пра развіццё літаратуры, таму добра, што было.

Я паступіла ва ўнівер — і мяне актыўна заангажоўвалі на пасядзелкі «Літаратурнага Кварталу», якім кіравала Людміла Рублеўская, літаратурнага тэатру АРТ, шматлікіх літ-вечарынак у «Кульку», у таварыства Этна... Зразумела, маладзёны завітвалі туды дзеля выпраўлення адзін аднаго, канструктыўнай крытыкі, апрабавання твораў. Але наведваць такія сустрэчы рэгулярна не ставала вытрымкі.

Некалі мяне запрасілі на семінар пры Саюзе пісьменнікаў (як калісьці было на «Іслачы», але мы не заспелі) на некалькідзённыя майстар-класы «зялёных» паэтаў. Пасля былі чытанні ў майстэрні скульптара Дзяніса Кандрацьева, якія ладзіў Гера Барташ. У якасці экспертаў запрашалі Уладзіміра Някляева, Генадзя Бураўкіна, Леаніда Дранько-Майсюка, яшчэ некага...

Вершаваныя школы, мне здаецца, могуць замяніць добрыя кнігі. Таму важней вучыцца і ўмець чытаць, чым пісаць. Але што тычыцца прамаўлення напісанага — то тут акурат важней умець пісаць, чым чытаць (услых).

Аднойчы мне патэлефанаваў Паша Севярынец і прапанаваў стварыць таварыства хрысціянскіх пісьменнікаў. Назву мы выбралі — «Дабравест». Гэта было займальна і цікава, пакуль не давялося арганізоўваць супольныя чытанні. Пасля першых мы і разбегліся, хаця ўсе былі там выдатнымі людзьмі. Такі лёс літаратурных таварыстваў — запальвацца і згасаць, выканаўшы сваю місію.

Цяпер я з вялізнай удзячнасцю стаўлюся да любой разумнай і нават не вельмі канструктыўнай крытыкі. Але ў прынцыпе маё меркаванне не змянілася: значна большаму можна навучыцца ў аднаго, чым у многіх. А літаратурныя аб'яднанні няхай будуць — і прыносяць карысць і радасць.

## Наталля Кучмель: «Многа шчырых, добрых людзей...»

***— Спадарыня Наталля, якія ўспаміны засталіся ў вас пра літаб'яднанне?***

— Мне здаецца, Алесь Герасімавіч учыніў яго, бо хацеў стварыць адпаведны беларускамоўны літаратурны разумны асяродак для сваёй дачкі Юлі. І нечакана стварыў такое дабро для цэлага пакалення. Мы збіраліся, вучылі адзін аднаго. У літаб'яднанні было шмат шчырых, добрых, разумных людзей і таленавітых паэтаў. Алесь Пашкевіч, Людміла Шчэрба, Уладзімір Пірог-Пучынскі, Алесь Палынскі, Алесь Дуброўскі, Валер Пазнякевіч, Віктар Слінко, Усевалад Гарачка... Гэтыя імёны я называю наўскідку, наогул іх можна пералічваць доўга. Для нас паэзія была пакліканнем. Але літаб'яднанне паступова змянялася. Напрыканцы яно было больш зборышчам тых, хто ўважаў літаратуру за хобі, каму карцела выдаць свой хвостапіс. Лічылі, што ім не трэба ні рэдактар, ні парада, а трэба толькі выдацца і сваімі хвостапісамі размахваць перад людзьмі.

***— Ці патрэбна было б такое літаб'яднанне сёння?***

— З сучасным дзёўбаным рытмам жыцця літаб'яднанні патрэбны і будуць запатрабаваны. Бо тое, што мы маем сёння, — гэта жыццё супраць сябе, і хоць дзесьці чалавеку хочацца

пабыць самім сабой. Але цяпер такая рэч, як літаб'яднанне Алеся Герасімавіча, на мой погляд, немажлівая. Проста таму, што змянілася літаратура. Функцыі чалавеказнаўства адабрала ў літаратуры псіхалогія, функцыя ідэалагічная адпала сама сабой, бо ў большасці людзей на любую спробу браць яго за шкірку і кудысьці весці ўзнікае бурнае непрыняцце. Ідэалагічная функцыя абурае альбо смешыць. Якая ж функцыя засталася? Рэлаксацыйная! Літаратура перастала быць пакліканнем, а ўсё больш становіцца хобі — асабліва паэзія.

***— Ці існуе сёння нешта падобнае да «Першацвета»?***

— Калі б літаб'яднанне не стварыў Алесь Герасімавіч, яго б стварыў нехта іншы, яно б утварылася само, бо яно было неабходна. Цяперашнія літаб'яднанні за вельмі рэдкімі выключэннямі, якія можна па пальцах пералічыць, маюць значэнне больш псіхатэрапеўтычнае, чым творчае. Выйшаў чалавек, прачытаў нармальны твор — яму папляскалі, выпаўзла маладая пенсіянерка, прачытала бабскую хрэнапень — ёй папляскалі...

***— Якія літаб'яднанні наведваеце цяпер?***

— Я бываю ў «Літаратурным прадмесці». Яно адно пакуль што не распалася, і не распадаецца таму, што народ збіраецца, каб сумовіцца, а не мерацца сіламі, талентамі. Многія літаб'яднанні, дзе збіраўся народ моцны, таленавіты, распадаліся, бо было замнога асоб і замала так званага сацыяльнага клею. Народ адразу пачынаў мерацца талентамі, даказваць, хто больш геніяльны. Так развaліліся «Тутэйшыя» і многія іншыя. І інакш быць не магло. Бо мякіш у кулаку злепіцца, а жменя арэхаў — не.

***— Некаторыя згаданыя вамі сябры літаб'яднання — не вельмі вядомыя сёння аўтары. Чаму?***

— Лацінскае выказванне даволі справядлівае — так праходзіць слава зямная. Праходзіць, і ўсё. Хаця аўтары выдавалі і выдаюць зборнікі...

***— Літаратуразнаўцаў пераважна цікавяць мастацкія творы, а падзеі літаратурнага жыцця часта застаюцца па-за ўвагай. Ці не было думкі напісаць успаміны?***

— Цяпер я раблюся ўсё больш закрытай. Памятаю няблага, але многія рэчы хочацца пакінуць для ўнутранага ўжытку. З маімі старымі сябрамі тых часоў — Усеваладам Гарачкам, Таццянай Будовіч, Віктарам Слінко, Наталляй Капай — мы сустракаемся нярэдка і ўсё гэта ўзгадваем. Але не люблю ветэранскія паставы: «Бойцы вспоминают минувшие дни и битвы, где вместе рубились они». Зусім не люблю!

**Гутарыла Алеся Лапіцкая**

# З гісторыі «Першацвета», або Калі ўтвараюцца «ўзвышшы»

Віктар ЖЫБУЛЬ

### Як? Дзе? Калі?

Пасяджэнні літаб'яднання адбываліся кожны панядзелак у рэдакцыі часопіса «Першацвет», што месцілася на трэцім паверсе Дома літаратара, у 301-м пакоі.

Збіралася самая розная колькасць чалавек: ад 5 да 20. Уключалі электрычны самавар, хтосьці прыносіў печыва альбо цукеркі. Пілі гарбату, нехта выступаў з вершамі, апавяданнем альбо спевамі пад гітару, астатнія слухалі і потым абмяркоўвалі. Алесь Масарэнка — тагачасны галоўны рэдактар «Першацвета» — сядзеў ля акна за пісьмовым сталом, разгарнуўшы вялікі сшытак, у які новыя сябры літсуполкі запісвалі свае каардынаты. Яму ж найперш здавалі і творы. Рэдактарскіх і творчых справаў у Алеся Герасімавіча было шмат, таму яму быў патрэбны памочнік — афіцыйна «старшыня Рады творчага аб'яднання «Крыніцы» (пазней — «Літаратар»)». Спачатку гэтую пасаду займаў паэт Алесь Пашкевіч, затым — Вячаслаў Корбут, а з верасня 1995 года — я. У абавязкі старшыні ўваходзіла бываць на пасяджэннях літаб'яднання, адзначаць прысутных («для гісторыі»), тэлефанаваць сябрам суполкі напярэдадні імпрэзаў або сустрэчаў з вядомымі пісьменнікамі, а таксама арганізоўваць выступы ў школах, ВНУ, бібліятэках. Гастралявалі мы даволі актыўна — з чытаннем вершаў, спевамі, а заадно і рэкламай часопіса.

З творчых сустрэчаў найбольш запомніліся «круглыя сталы» з Янкам Брылём, Нілам Гілевічам і Іванам Навуменкам. Увогуле ж, сталыя майстры слова сустракаліся з намі даволі часта: памяшканне рэдакцыі часопіса «Першацвет» належала Саюзу пісьменнікаў і было своеасаблівым «прахадным дваром» у кабінеты літкансультантаў. Ідучы да калег, многія пісьменнікі завітвалі заадно і на пасяджэнні літаб'яднання. Мне вельмі запомніўся сівы, прыгорблены Павел Пруднікаў, які асабіста ведаў многіх удзельнікаў легендарных для нас суполак: «Маладняка» і «Узвышша». Заходзячы да нас, Павел Іванавіч сядаў у вялікую скураную фатэлю і часам дзяліўся ўспамінамі. Нярэдка бываў Анатоль Сыс, які сваімі неардынарнымі паводзінамі даводзіў, што ён — «сын Янкі Купалы і старэйшы брат Максіма Багдановіча».

Найчасцей літаб'яднанне наведвалі мінчукі, але фактычна на яго з'язджаліся літаратары з усёй Беларусі. Колькасць сяброў складала некалькі сотняў чалавек, што вельмі цешыла Алеся Масарэнку, які параўноўваў першацветаўскае літаб'яднанне з «Маладняком». Як і ў тым самым «Маладняку», не ўсё ў нас было ідэальна: здараліся і спрэчкі, і сваркі на эстэтычнай глебе. Але ў кожным «маладняку» нараджаюцца свае «ўзвышшы», і гэта добра.

У такім выглядзе суполка пры «Першацвеце» праіснавала да восені 1998 года. Потым часопіс, пасля чарговай пагрозы закрыцца, змяніў фармат, з чыста літаратурнага ператварыўся ў «часопіс творчай моладзі» ў шырокім сэнсе. Замест аднаго аб'яднання стала два: адно засталося ў Доме літаратара пры СП, другое пачало збірацца пры аднойленым «Першацвеце» ў Доме прэсы. Нехта з малодых літаратараў наведваў старое літаб'яднанне, нехта — новае, а нехта — абодва адразу...



Злева направа: Віктар Жыбуль, Сяргей Патаранскі, Вольга Базылёва, Алесь Масарэнка, Алёна Восеньская. Дом літаратара, 5 кастрычніка 1998 г.

### Літаратурнае жыццё: новыя практыкі

Сёння ўсё — і прэзентацыя ўласнай творчасці, і абмеркаванне, і літаратурныя дыскусіі — адбываецца на інтэрнэт-форумах. І калі казаць пра сённяшнія літаб'яднанні, то таксама прыгадваюцца найперш віртуальныя супольнасці — напрыклад, сайты часопісаў «Макулатура» (http://www.makpaper.com/), «Прайдзісвет» (http://prajdzisvet.org/), партал textura.by і іншыя, вакол кожнага з якіх сфармавалася пэўнае кола аўтараў. Сённяшнія літаб'яднанні, што збіраюцца ў рэале, мне назваць куды цяжэй. Было, напрыклад, літаб'яднанне «Вобла» — але яно не збіралася ўжо больш за год. Яшчэ прыходзіць да галавы «Літаратурнае прадмесце» і «Клуб лупа-літаратараў», які час ад часу збірае Віктар Лупасін у Доме прэсы.

Але страшнавата падумаць, што будзе, калі ўсе віды чалавечай жыццядзейнасці сыйдуць у віртуальную прастору. Таму няблага было б мець і аб'яднанне, на пасяджэнні якога з'язджалася б моладзь з усёй краіны. Проста, напэўна, наш час запатрабаваў ужо новых формаў «літаратурнай вучобы» і літаратурнага ўзаемадзеяння. І тут на першы план выходзяць творчыя конкурсы і семінары. У час, калі я пачынаў, іх было значна меней. І вельмі добра, што Саюз пісьменнікаў і ПЭН-цэнтр у гэтым плане актывізаваліся, кожны год ладзяць творчыя конкурсы і фестывалі, выдаюць зборнікі. Вядома ж, шмат чаго даюць лекцыі і майстар-класы, якія праводзяцца ў Школе маладога літаратара пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў.

### Чаму пра Бум-Бам-Літ ведаюць, а пра «Літаратара» — не?

Літаб'яднанні бываюць розныя і ствараюцца яны таксама з рознымі мэтамі.

Літаб'яднанне пры «Першацвеце» было разлічана найперш на тых, хто толькі пачынае свой літаратурны шлях. Таму, у адрозненне ад суполак, аб'яднаных пэўнай ідэйна-эстэтычнай праграмай, тут на першым месцы стаялі адукацыйныя мэты — тое, што называюць «літаратурнай вучобай». Бо разам з маладымі, але ўжо вопытнымі аўтарамі, на літаб'яднанне прыходзілі зусім пачаткоўцы — тыя, хто толькі-толькі адважыўся вынесці на суд аўдыторыі свае вершаваныя ці празаічныя спробы. Парады таварышаў па літсуполцы часта дапамагалі зарыентавацца, выправіць у творы моўныя ці стылістычныя хібы, хоць, натуральна, у такіх пытаннях часам варта давяраць уласнаму ўнутранаму голасу.

Кажучы пра адукацыйны бок, трэба згадаць, што «першацветаўская» літсуполка ў сярэдзіне 1990-х на 90 % была беларускамоўнай (часопіс нават пасля травеньскага рэферэндума 1995-га паўтара года, як і ад пачатку, выходзіў з «Пагоняй» на тытульніку!), а моўны асяродак — гэта тое, чаго многім з нас не хапала ў школе, універсітэце, сям'і: з «трасянкай» у галаве цяжкавата напісаць штосьці вартаснае!

Таму не дзіва, што, ставячы такія адукацыйныя мэты, «першацветаўская» суполка, як і згаданы «Маладняк», імкнулася быць масавай, прымаючы ў свае шэрагі ўсё новых і новых сяброў. Завітаў у панядзелак, пачытаў вершык — і ты ўжо сябар літаб'яднання, наведаў яшчэ разы тры — і цябе ўжо жартам называюць «класікам»! Да 1998 года літаб'яднанне налічвала ці то 300, ці то 400 сяброў. Праўда, з іх, можа, толькі адсоткаў 10 працягнулі творчую дзейнасць, а для іншых літаратурныя спробы так і засталіся часовым захапленнем маладосці.

Што да вядомасці, то набываюць яе звычайна тыя творчыя суполкі, якія аб'яднаны агульнай і адметнай эстэтычнай праграмай ці канцэпцыяй — хоць нейкай. Але цяжка магчыма ўявіць, калі ў суполцы 5, 10, ну, максімум 20 чалавек. А калі 300 ці 400? Вядома ж, такую масавую граду цяжка падвесці пад нейкую адзіную канцэпцыю, гэтаксама як цяжка і кантраляваць яе. Атрымлівалецца нешта кшталту клуба па цікаўнасцях: ты пішаш і сустракаешся з людзьмі, якія таксама нешта пішуць, а што і як — гэта ўжо не так істотна. Памятаю, у нейкім інтэрв'ю Алесь Масарэнка казаў, што літаб'яднанне трымаецца класічных традыцый, што Купала і Колас — «нашыя багі». Ці ўяўляў, кажучы гэта, Алесь Герасімавіч, што робіцца ў галаве кожнага з нас — кожнага з гэтых некалькіх сотняў літаратараў? Для кагосьці яно можа і так, а камусьці свету Купалы-Коласа ўжо і не дастаткова для спазнання сучаснай рэчаіснасці і атрымання эстэтычнага задавальнення...

Тыя, «каму не дастаткова», і стварылі новыя суполкі-аб'яднанні-рухі. У 1995 годзе паўстаў «Бум-Бам-Літ» (большасць удзельнікаў якога хоць раз да надрукавалася ў «Першацвеце») з ухілам у авангард і постмадэрнізм (другое з гэтых словаў у колах літаратараў-кансерватараў ужывалася тады як лаянкавае); у 1998 годзе — «Вулей» з ухілам у хіпізм і бітніцтва ў беларускім варыянце (сябры «Вулея» таксама наведвалі «першацветаўскае» літаб'яднанне).

«Бум-Бам-Літ» склалі людзі з пэўным культурным досведам і больш-менш сфармаваным светапоглядам, якія цвёрда ведалі, што будуць займацца творчасцю надалей. І — амаль усе — займаюцца. «Вулей» праіснаваў каля года і быў не літаб'яднаннем, а своеасаблівай «творчай сферай». Людзі, якія ў яе ўваходзілі, маглі пісаць вершы, а маглі і не пісаць, а, скажам, граць на музычных інструментах, альбо маляваць, альбо займацца журналістыкай (у «Вулея» была свая газета «Соты»).

Але гэта ўсё адно не змяншае ролі «першацветаўскай» суполкі: сваю функцыю стартавай пляцоўкі для маладых літаратараў яна выконвала выдатна!

# Урокі класікі

## (З цыклу «Пісьменніцкія гісторыі»)



Сяргей АБЛАМЕЙКА

**Вядомы празаік Кастусь Лубноў прыпаркаваў машыну на стаянцы каля мастацкай галерэі «Паляда», дзе неўзабаве мелася пачацца прэзентацыя першага рамана ягонага вучня і пратэжэ Міхася Крывашапкі.**

Літаратурны мэтр не сумняваўся ў поспеху кнігі, бо меў да яе самае непасрэднае дачыненне.

Ён любіў свайго вучня і стараўся яму ўсяляк спрыяць. Некалі на творчым семінары для ўдзельнікаў літаратурнага конкурса сярод пачаткоўцаў Кастусь Лубноў быў проста зачараваны гэтым маладзёнам, які адзіны сярод паўтара дзясятка хлапцоў і дзяўчат ведаў усе ягоныя творы і прынёс з сабой ягоную кніжку, каб узяць аўтограф. Пасля семінару Лубноў прапанаваў яму разам прайсціся ў парку і спытаўся, ці мае ён у літаратуры куміраў і ўзоры для пераймання. У адказ хлопец прызнаўся, што хацеў бы пісаць так, як Лубноў, і атакаваў мэтра такой колькасцю кампліментаў, што сэрца пісьменніка растала канчаткова. Зрэшты, не толькі дагаджанне прыйшлося яму да душы. Ён сапраўды бачыў літаратурны талент у Крывашапкі і шчыра хацеў дапамагчы яму стаць прафесійным пісьменнікам. А тое, што хлопец імкнуўся пераняць творчую манеру Лубнова, выклікала ў пісьменніка своеасаблівы сантымент: у жыцці ён меў толькі дачку, а ў літаратуры меў шанец займець сапраўднага сына і прадаўжальніка свайго творчага метаду. А метадам Лубнова была правакацыя, эпатаж і апантаны мадэрнізм. Ён першы ў літаратуры закрануў тэмы, пра якія раней стараліся не пісаць, у тым ліку і пра складаныя і заблытаныя дачыненні палоў. Думка пра літаратурнага сына цешыла Лубноўскае самалюбства: такога ў літаратуры яшчэ не было.

— Прывітанне, Кастусь. Будзеш прадстаўляць бамонду свайго хрэсніка?

Праз апушчаную шыбу суседняй машыны да Кастуся загаварыў Ягор Кволенькі, таксама вядомы пісьменнік аднаго з ім пакалення. Лубноў Кволенькага не любіў з некалькіх прычынаў. Па-першае, той быў яго галоўным канкурэнтам, і па-другое, яму не падабалася штучная, тэхналагічная папулярнасць Кволенькага. У яго, Лубнова, метад быў ясны — ён правакаваў і быў наватарам. Кволенькі ж дзейнічаў добра разлічаным метадам прымазвання да сусветнай літаратурнай класікі. У сваіх творах ён густа раскідаў алюзіі да тэкстаў вядучых сусветных пісьменнікаў і нават рабіў іх сваімі героямі, а ў інтэрв'ю, калі яго пыталіся, з кім бы ён мог параўнаць сваю творчую манеру, нязменна называў пяць-шэсць найбольш папулярных імёнаў апошняга стагоддзя і ніколькі пры гэтым не бянтэжыўся. Публіка ўсё гэта глытала і захаплялася, па вялікім рахунку, другаснымі тэкстамі гэтага аўтара.

— Вядома, буду. Выдатны раман напісаў хлопец. — Лубноў пачакаў, пакуль Кволенькі выйдзе з машыны. — І заўваж, раман у маіх традыцыях.

Ён зрабіў націск на слове «маіх», каб Кволенькаму было зразумела, што ён мае на ўвазе.

— Так, я чуў пра гэта. А што ж вы вырашылі рабіць прэзентацыю ў дзень выхаду кнігі? Хай бы пачакалі два-тры тыдні, каб людзі маглі ўбачыць і прачытаць раман. Тады б гаворка сёння была больш прадметнаю.

— Тады не было б таго сюрпрызу, які нас сёння ўсіх чакае.

— Ого, ты мяне інтрыгуеш! — Кволенькі зарагатаў, і ў смеху ягоным пачулася ганарыстая іронія. — Што ж, варта ісці займаць месца бліжэй да будучага класіка.

Яны ўдвох накіраваліся да ўвахода ў галерэю.

У экспазіцыйнай зале ўжо былі расстаўленыя шэрагі крэслаў, а на невысокай сцэне каля стала сядзеў Міхась Крывашапка і гартаў адзін з асобнікаў сваёй новай кнігі, робячы закладкі. Побач на стале роўнымі стосамі было раскладзена некалькі дзясяткаў асобнікаў новага рамана. Лубноў падышоў да сцэны.

— Добры дзень, Міхась.

— Добры дзень, дзядзька Кастусь.

— Падрыхтаваўся?

— Так. Вось раблю апошнія закладкі там, дзе буду цытаваць.

— Ды што, дзейнічаем, як дамовіліся?

— Так, вядома.

— Ну тады поспеху!

— Дзякуй, спадзяюся, усё будзе ў парадку.

Лубноў сеў на месца ў першым радзе і стаў чакаць пачатку прэзентацыі. Побач праходзілі знаёмцы, нехта вітаўся прыязна, нехта стрымана, а некаторыя наогул рабілі выгляд, што яго не заўважылі. Літаратурная тусоўка ў сваіх традыцыях і сваім нармальным стане, — падумаў ён. — Так было і так будзе. Людзі інтрыгуюць, зайздросцяць, сімпатызуюць, пляткараць — класіка жанру.

Зала тым часам запоўнілася дашчэнту. Людзі стаялі каля сцен і ў праходах. Многія былі з кветкамі. Што ж, іх сапраўды сёння чакае сюрпрыз. Яны з Міхасём задумалі перадачу творчай эстафеты. Тры месяцы таму Міхась звярнуўся да Лубнова з просьбай дапамагчы распрацаваць канцоўку рамана, героем якога быў малады прыхільнік аднаполага кахання. Лубноў прачытаў рукапіс і прапанаваў цалкам перапрацаваць даволі сумны раман пра пакуты і сумненні героя. Лубноў прапанаваў зрабіць кнігу ў стылі фэнтэзі. У хлопца на балконе селіцца малады крумкач, які ўцёк з заапарку і ўмее гаварыць. Крумкач таксама любіць заляцацца не да крумкачых, а да птушак свайго полу. Яны пасябруюць і праз шэраг прыгод і здарэнняў дапамогуць адзін аднаму зразумець, што ў сапраўднасці ўсё ж з'яўляюцца гетэрасэксуаламі. Крывашапка хацеў эпацiраваць публіку нетыповай тэмай, а Лубноў прапанаваў сапраўды мадэрновую і скандальную канву.

— Вы лічыце, такі фінал будзе прыняты публікай? Здаецца, гэта не пакладаецца ў цяперашні мэйнстрым, — спытаў тады заклапочана Крывашапка.

— У гэтым і цымус, разумееш? Гэтым мы іх і ўразім. Наш галоўны прынцып — эпатаж, мы ідзем далей і супраць плыні, мы ствараем новы мэйнстрым, — задаволена адказаў Лубноў.

І вось сёння Міхась са сцэны павінен абвясціць, што сюжэт ягонай кнігі перадаў яму Кастусь Лубноў, які сам ад сённяшняга дня спыняе пісаць раманы, перастае кантактаваць з журналістамі і літаратурнай тусоўкай, канчаткова пераязджае на дачу, дзе будзе пісаць мемуары і кароткія навелы, калі яму гэтага захочацца. А ён, Міхась, з блаславлення майстра літаратурнай правакацыі і эпатажу цяпер з'яўляецца прадаўжальнікам ягонай справы і ягоных традыцыяў. Таксама Міхась павінен аб'явіць, што ад сёння бярэ псеўданім Міхась Крывашапка-Лубноў Малодшы. Пасля гэтай заявы ён дасць слова Кастусю Лубнову, які блаславіць свайго літаратурнага сына і паслядоўніка на доўгае і паспяховае творчае жыццё.

І вось прэзентацыя пачалася. На сцэну выйшлі маладыя акторы нацыянальнага тэатра, якія прачыталі адзін з дыялогаў двух герояў — крумкача і хлопца. Пасля Міхась Крывашапка ўзяў слова, коратка расказаў пра сюжэт новага рамана і прачытаў некалькі характэрных скандальных мясцінаў. Публіка запляскала. Тады зноў з'явіліся акторы, якія паказалі чарговую сцэну з новай кнігі. А тады зноў узяў слова малады пісьменнік.

— А зараз я хачу зрабіць заяву. Сёння вы з'яўляецеся сведкамі нараджэння новага стылю ў нашай літаратуры. Гэта нэа-нэа-постмадэрнізм або эпатаж у квадраце. Прэзентаваная сёння кніга стане першым томам маёй пенталогіі пра крумкача і хлопца, якія будуць разам шукаць крыніцы сваёй сэксуальнасці ў нашым бурлівым свеце. Кожны аўтар хоча заснаваць свой стыль. Думаю, мне гэта ўдалося. І я выношваў сюжэт рамана некалькі гадоў і думаю, што ён годна прадставіць новы стыль. Думаю таксама, што нашай літаратуры не сорамна будзе выйсці з маёй кнігай на сусветную літаратурную сцэну.

Зала выбухнула воплескамі. Прыцемненую прастору галерэі асвяцілі дзясяткі фотабліскавіцаў. Пачуліся выгукі «Брава!».

«Што ён чаўпе! — Кастусь не мог паверыць сваім вушам. — Які нэа-нэа-постмадэрн? Які эпатаж у квадраце? Мы ж задумалі зусім іншую падзею. Чаму ён не даў мне слова?»

Ён памахаў рукой над галавой, каб малады пісьменнік яго заўважыў. Міхась паглядзеў на яго і дэманстратыўна адвярнуўся. Яшчэ праз хвіліну ён абвясціў канец прэзентацыі і запрасіў удзельнікаў у банкетную залу ўзняць па келіху шампанскага за нараджэнне новага літаратурнага стылю.

Кастусю не заставалася нічога іншага, як паспрабаваць патлумачыцца з маладым нахабам на фуршэце. Ён прабіўся да атачанага прыхільнікамі і журналістамі Крывашапкі і ціха, каб не чулі іншыя, спытаўся:

— Што адбылося? Чаму ты так са мной паступіў? І гэта ўсё, што ты змог зрабіць за ўсё тое добрае, што я для цябе зрабіў? Хаця б сказаў, што сюжэт пазычыў мой і што выбіраеш маю правакацыйную эстэтыку...

— Пра што вы гаворыце, дзядзька Кастусь?

— Ты ведаеш пра што. Дык я пытаюся, чаму?

— Хочаце праўды? — Міхась загаварыў гучна. — Ці не вы мяне вучылі, як трэба эпацiраваць публіку? І ці не вы мне рэкамендавалі імёны сусветнай класікі для адукацыі і пераймання?

— Ну і што?

— Магу вам толькі сказаць, што з вашых рэкамэндацый мне найбольш падабаецца навела Андрэ Маруа «Нараджэнне славутасці».

— І што з таго? — Лубноў пачынаў злавацца.

— А тое, што вы напэўна даўно не бачылі, як цячэ рэчка...

І тут Кастусь Лубноў гучна зарагатаў. Ён чокнуўся з Міхасём Крывашапкам келіхамі, выпіў нагбом увесь шумлівы напой і стаў працiскацца да выхаду. Па дарозе да яго з'едліва загаварыў Ягор Кволенькі:

— Віншую, Кастусь. Ты прывёў у літаратуру аўтара новай генерацыі. Спадзяюся, вы там у спрэчцы з ім на фуршэце не пабіліся? Нешта пайшло не так?

— Усё якраз пайшло як трэба. Цябе ён дакладна паб'е накладамі.

Не чакаючы адказу Кволенькага, які пакрыўджана падцяў вусны і злосна паглядзеў на яго сваімі блізка пасаджанымі чорнымі зрэнкамі, Лубноў выйшаў з галерэі прэч.

Дома ў кабінеце ён наліў сабе каньяку, сеў каля каміну і зноў гучна рассмяяўся:

— Але й круцель! Але й хват!.. Ха-ха... Смаркач... А я?.. Які ванзэлак? Які пэцкаль? Ха-ха. Ну, смаркач, малойца, добра атрымалася...

— Тата, нешта здарылася? Чаму ты такі ўзбуджаны?

У кабінет без стуку ўвайшла дачка.

— Так, дачушка, здарылася. Я займеў добрага спадкаемцу. У Кволенькага няма шанцаў.

І ён расказаў дачцэ ў дэталях усю гісторыю. Як ён важдаўся з маладым пісьменнікам, як знайшоў яму новую ідэю для рамана, як яны планавалі сёння абвясціць пра сенсацыйную навіну і пра эстафету пераемнасці і новы псеўданім, і як той яго абсек, здзекліва нагадаўшы сюжэт апавядання Андрэ Маруа «Нараджэнне славутасці». У той навеле герой, пісьменнік, паўжартам параіў сябру-мастаку напісаць некалькі абстрактных карцін і на ўсе пытанні наведнікаў галерэі загадкава адказваць: «А вы бачылі, як цячэ рэчка». Калі ж выстава скончылася ашаламляльным поспехам і пісьменнік стаў высмейваць наіўную публіку, што купілася на іхні хітрык, мастак раптам назваў яго ідыётам і ганарліва спытаўся ў сябра, а ці ён сам бачыў некалі, як цячэ рэчка?

— Ды што ты, расхваляваўся?

— Не, проста дзіўлюся сваёй наіўнасці. Маю ўжо семдзесят два гады. Прачытаў тысячы кніжак і тры дзясяткі напісаў сам.

Ён устаў з крэсла, узяў з кніжнай паліцы зборнік афарызмаў і ўголас прачытаў: «Людзі да такой ступені няўдзячныя, што часта пачынаюць хваліцца сваімі дасягненнямі нават перад тымі, каму яны імі і абавязаныя».

— Я, ведаеш, гэтую канстатацыю паправіў бы. Тут трэба гаварыць не пра няўдзячных. Тут трэба гаварыць пра найбольш паспяховых.

— Я бачу, тата, што табе ўсё ж крыўдна. Ты можаш апублікаваць вашу перапіску ў скайпе, і ўсе зразумеюць, што гэта цалкам твой сюжэт і твая ідэя наконт крумкача... І паставіш нахабу на месца.

— Не, не буду.

— Чаму?

— Бо кураня вылупілася з яйка. Ён стаў пісьменнікам... І сапраўдным маім пераемнікам. Мэта дасягнутая. Думаеш, кожны з нас некалі не скарыстаў падказак ад старэйшых, часам не кажучы «дзякуй», а часам і не беручы дазволу?..



# Першародства



Васіль ЗУЁНАК



* * *

*Не асноў карэнных абвяржэнне —*
*Каранёў ніхто тых не абсек,*
*Не крыніц духоўных адчужэнне,*
*А патокі дзвюх магутных рэк.*

*Не Дняпра ў манахі пастрыжэнне,*
*А хрышчэнне Кіева ў Дняпры,*
*Не Дзвіной паганства спасціжэнне,*
*А Рагнеды лёс — яе сястры.*

*Не набегам збройнае служэнне —*
*Бі суседа ды майно ірві,*
*А крывіцка-балцкае збліжэнне,*
*Паяднанне геннае крыві.*

*Гэта наша з вамі нараджэнне —*
*Не была гісторыя скупой:*
*Двух народаў крэўнае бражэнне —*
*Неўмiручай вытрымкі напой!*

*Гэта нам зарука на ўзмужненне —*
*Праз Літву да Беларусі шлях.*
*Гэта наша з вамі абуджэнне*
*Сёння й назаўсёды. У вяках.*

*Полацка дзяржаўнае сцвярджэнне —*
*Беларускай існасці зара, —*
*І няма яшчэ Масквы княжэння,*
*І няма маскоўскага цара...*

## Інтэр'ер

*Калі і як у святасці паграз —*
*Сам Бог не разбярэцца ў гэтым пекле:*
*Святы Мікола і ахоўнік Спас —*
*Зламыснікам з парога шлях адсеклі.*

*Направа і налева — абразы,*
*З усіх бакоў — і шчыт, і абарона:*
*Калі грашыць — грашы без драбязы, —*
*Інакш навошта гэткая заслона!?.*

*Служы як след, святая грамада!..*
*А ён — ужо й рашыць ніяк не можа:*
*Якой грахоўнасцю ўсё гэта апраўдаць, —*
*Дапамажы рабу, Вялікі Божа!..*

## Веліч

*Руіны рэк і выдмішчы палёў,*
*Хімічны дождж і пнёў арда лясная... —*
*Я велічы сваёй вянок даплёў,*
*А што рабіць з нікчэмнасцю — не знаю...*

* * *

*Не шукай у шакала ільвінай шкалы,*
*Ідучы з грахамі на споведзь.*
*Не выпрошвай у ворага пахвалы —*
*Ён яе над труною прамовіць.*

* * *

*На абрыў да пеністай быстры́*
*Падышла з паглядам не-сястры.*
*Толькі кладка вузкая была —*
*На мой бераг не пераввяла...*

*Не-сястра з дыханнем медуніц, —*
*А быстра́ сцюдзёная з крыніц:*
*Толькі сінява чужых вачэй*
*Да мяне плыла цераз ручэй...*

## Памяці паэта

*Жыццё мінула прывакзальна,*
*Цягнік у вечнасць звёз вясну,*
*І лёс, як палец указальны,*
*На лаўцы ў скверыку заснуў.*
*Схіліўся, як над братам Каін:*
*Каго забіў, каго згубіў?!.*
*І верш, як метэорны камень,*
*З касмічных падае глыбінь...*

## Бяссонне

*Дзе той век: «Вясна ў цэлым свеце!..»?*
*Шлях снягамі жыццё замяло...*
*Праляцела — і не прыкмеціў:*
*Адцвіло, адгуло, адбыло...*
*Дзе той час: «Матыльком над лугам!..» ?*
*На нагах — камянёў пуды...*
*А падлога — рыпіць, падлюга, —*
*Як смяецца з маёй хады...*

* * *

*Нявольніца лёсу, душа,*
*Рабыня зямных жаданняў,*
*Скажы: ты небу спярша*
*Ці мне слугуеш адданнем?..*

*Дарэшты сябе аддаеш*
*Спакусам імгнення зямнога,*
*Нясеш мне дарункі, але ж —*
*Пытаюся: ці не замнога?..*

*Душа, перакасці свой шал,*
*Схіліўшыся да аналоя,*
*І помні: зямлі падвал —*
*Пекла — бушуе смалою...*

* * *

***Чэчэнская пуля верна...***
***А. Блок***

*Паўночныя схілы Каўказа,*
*Браты рукатворных муроў, —*
*Тут не даравалі абразы,*
*Тут славілі вернасць сяброў.*

*Кайданны тут помніцца ляскат —*
*Злачынны заробак вякоў.*
*Ды бліжай натуры каўказкай*
*Быў цокат гасцінны падкоў.*

*Тут праўды не знаюць махлярскай,*
*Ілжы пры святочных сталах,*
*Тут ворагу па-гаспадарску*
*Хадзіць не дазволіў Алах...*

*Калі ж абступаюць нягоды,*
*І выпіта крыўда да дна —*
*Каўказ не гандлюе свабодай:*
*Чэчэнская пуля верна!..*

* * *

*Як знічка па небе — вогненнай крэскай, —*
*Пункт прызначэння — «ікс»...*
*Куды ён цябе, касмічны кур'ерскі,*
*Незваротны, як рэчка Сцікс?..*

*Толькі й шчасця, што час той не знаеш, —*
*Хоць і знаеш, чыя рука, —*
*На нейкім паўстанку разгон стрымае*
*І зніме цябе з цягніка...*

* * *

*Чытаю мудрыя кнігі —*
*Малітвы і споведзь вякоў,*
*А ў думах — ні промня адлігі:*
*Эпоха ледавікоў...*

*Маўчаць нябёсы старыя,*
*Зямны суцяшае храм...*
*Малюся Маці Марыі,*
*Заступніцы Марыям.*

*Спрачацца з промыслам божым —*
*Падказваць яму што і як*
*І грэх і па-людску нягожа, —*
*На ўсё яго воля, аднак —*

*Над Бібліяй ці над Каранам*
*Скажы толькі: — Божа, а ты б*
*Пажыў, дзе край зруйнаваны*
*І труціцца генатып...*

## Мне вясна напіша пасланне...

*У барознах бульбу акучваю,*
*Каб не ўзяўся загар зялёны.*
*А з-за лесу хмарка лятучая*
*Перуновым спяшыць паштальёнам.*

*Ну, напэўна ж, з добраю весткаю:*
*Будзе дождж — на ўраджай бульбоўны.*
*І маланка ўжо жахнула крэскаю,*
*Грымнуў гром, як архангел трубою.*

*Будзе дождж, пройдзе мякка разоркамі*
*І ўвесь свет сваёй мовай пявучай:*
*Буль-буль-буль, буль-буль...ба, — слова звонкае*
*Па складах вымаўляць навучыць.*

*І ўжо лііўня касыя лініі,*
*Як у сшытку па чыстапісанню,*
*Разлiноўваюць неба сіняе,*
*Дзе ўспамінамі салаўінымі*
*Мне вясна напіша пасланне...*

* * *

*Добры бог прынёс:*

*Там, дзе мора слёз,*
*Гора горны гмах,*
*Церняў Млечны шлях,*
*Там, дзе мёртвы смех,*
*Як галактык бег,*
*Дзе ад шчасця след*
*І надзей сусвет, —*

*Там мая зямля,*
*З ёй душою я*
*Паміж тых дарог...*
*Дзякуй, добры бог...*

* * *

*Я і прыдумваць не думаў гэта —*
*Прызналася смерць сама,*
*Сказала, як п'яны паэт паэту,*
*Што смерці ў смерці няма.*

* * *

*Так жыццё ўгрунтавана*
*Тварцом Усявышнім —*
*Па Законах Вялікіх*
*І нам Недаступных:*
*Што здаецца смяротнаму*
*Выпадковым ці лішнім,*
*У гармоніі свету*
*Мае чын абсалютны.*

*З той здагадкай і я*
*Век зямны дажываю:*
*Вось цвіце васілёк,*
*Палявы, непрыкметны, —*
*Хай ля сцежкі,*
*Хай доля ў яго межавая,*
*Але ж недзе і ён*
*На рахунку ўсясветным.*

*Пэўна ж, ёсць і ў яго*
*Найвялікшае наканаванне.*
*Вочы ў вочы глядзім,*
*А пытанні раяцца:*
*Ці ж ён тут аб'явіўся,*
*Каб, квітнеючы, чэзнуць і вянуць,*
*Ці — квітненнем адолець*
*Хаосу вар'яцтвы?..*

*Ці з нябёс на зямлю*
*Ён з таемнаю весткай пасланы, —*
*І якраз, можа, мне, —*
*Ды збудзілася пошта?*
*Калі ж не —*
*І сакрэт той не мне абяцаны, —*
*То каму?*
*І навошта?..*

* * *

*Я веру, Божа, у мудрасць тваю,*
*Малюся волі тваёй усявышняй,*
*Ды горкіх дум, аднак, не ўтаю:*
*А што ў цябе, Божа, народ мой лішні?*

*Чаму ж не ратуеш, не звернеш яго*
*З дарогі, пазначанай самагубленнем,*
*Перад аналоем абманных багоў*
*Паставіўшым мову сваю на калені.*

*А з ёю і дух свой, і лёс — як прысуд:*
*Быць ці не быць народам...*
*Ці ты гэтак, Божа, зняверaны люд*
*Па-боску ратуеш ад зводу?*

*Перад небыццём — на самым краі —*
*Ісціну, можа, спазнае,*
*Можа, паўстане з духоўных руін,*
*Абудзіцца і акрыяе?..*

## Ратуе тайна...

*Два небыцці мне мецъ наканавана:*
*Адно — да нараджэння, а другое —*
*Што смерцю ў нас смяротнымі названа...*

*Жыццё — адмашка вечнасці ізгоям,*
*Каб на зямлі здаволіць іх імгненнем.*
*А знаць не дадзена: пакінуў ТАМ каго я?..*

*І толькі мрою: хто ПАСЛЯ сустрэне?..*

*Ды й ці надарыцца якая з кім сустрэча,*
*Калі зямныя рухнуць сутарэнні...*

*Ратуе тайна розум чалавечы —*
*Зямное, хоць і боскае, тварэнне...*

**3 чэрвеня Васіль Васільевіч ЗУЁНАК адзначае свой 80-гадовы юбілей.**
Шчыра жадаем паважанаму аўтару здароўя, натхнёнасці і сонечнага лета!

# Два апавяданні



Алена ВАСІЛЕВІЧ

### Пані старшыніха прыехала...

— Ці чуў бо ты, Чэсік, што да старшыні нашага пані яго прыехала?

Гарбаты Мікодым, не спяшаючыся, рассцілае пад дубам зрудзелы ад дажджовіцы і сонца суконны даматканы халат, выпростваецца на ім усім сваім нязграбным целам і з асалодай закурвае люльку. Люлька сіпіць і захліпваецца гэтаксама, як сіпяць і захліпваюцца Мікодымавы грудзі. Мікодым зацягваецца пякельным дымам і доўга бухае кашлем: бух-бух-бух...

— Каб цябе немач узяла, каб цябе... — тыльным бокам далоні выцірае ён з вачэй слёзы.

Адбухаўшы, зноў звяртаецца да падпаска Чэсіка:

— Дык кажу, ці чуў ты, што да старшыні яго пані прыехала?

— Пані?!. — Чэсік не чуў гэтай навіны. Яна звальваецца на яго, як гура снегу. — Пані прыехала?.. — перапытвае ён, і чорны ад загару і сіверу твар яго, звычайна пахмуры і абыякавы, раптам расплываецца ва ўсмешцы, адбіваючы па чарзе адно за другім самыя нечаканыя адценні: спачатку разгубленасць, потым спалох, а потым такую дзіўную пяшчоту...

Мікодым робіць выгляд, нібыта нічога гэтага не заўважае, і працягвае сваё:

— Дык вось кажу, пакуль старшыня будзе вылежвацца са сваёй паняю, давай упусцім на гадзіну якую кароў скрачэчку ў сенакос. Няхай паходжваюць з расой, а то пашы няма ані звання... Усё пазаворвалі, усё пакарчавалі гэтымі кустарэзамі... А цяпер з быдлам куды хочаш дзенься...

Новы кірунак Мікодымавых думак пра кароў і пра пашу пераключае Чэсіка на гэту тэму не адразу.

— А можа, пані і не вылежваецца... — панура пярэчыць ён Мікодыму.

— «Не вылежваецца»... — перадражнівае падпаска Мікодым. — Дурны ты, Чэсік.

— А вось і не дурны...

— Ну, а не дурны, дык займай кароў ды пераганяй цераз канаву, — строга ўжо загадвае Мікодым.

Ён старэйшы калгасны пастух. Пасе кароў, як толькі пасля вайны заснаваўся калгас. Чэсік таксама даўно пасе кароў, але ён усяго толькі падпасак у Мікодыма.

Чэсіку хутка трыццаць гадоў. Ён рослы, плячысты і прыгожы з твару. У яго бяскрыўдныя, як у малога дзіцяці, сінія вочы і ўсмешка таксама бяскрыўдная і заўсёды крышку як бы недаверлівая. Чэсік баязлівы і паслухмяны. Рукамі сваімі ён можа падняць, напэўна, хату — капу сена ён бярэ і падае на стог за адзін раз.

Чэсіку хутка трыццаць гадоў... Некалі ў вайну, на вачах у яго, немец забіў з аўтамата яго матку. Маці сядзела ў хаце на ложку і карміла грудзьмі дзіця — Чэсікаву сястру. Немец даў з парога ўсяго адну толькі чаргу... І пайшоў з хаты. Суседзі тады ледзь сцягнулі Чэсіка з печы.

Ён доўга не гаварыў зусім, а потым доўга заікаўся... Паступова страх і заіканне прайшлі, а Чэсік як быў, так і застаўся на ўсё жыццё дзіцём. На ўсё жыццё застаўся няшчасным чалавекам...

Бацька з вайны таксама не вярнуўся, а цётка, у якой гадаваўся Чэсік, памерла неўзабаве пасля вайны. Так ён і застаўся на белым свеце адзін, як перст, у цётчынай хаце. У сваю хату (яна доўга стаяла з забітымі вокнамі, аж пакуль не перацягнулі яе да рэчкі на брыгадную лазню) заходзіць баяўся. Нават калі і вырас ужо, калі і забыў усё чысценька — і матку, і сястрычку, і тое кароткае чорнае дула аўтамата... Так і гібеў небарака, жывучы з людское ласкі. А ласка тая вядомая: кепска чалавеку самому — тады ён і пра другога ўспомніць. А добра — дык хто там вельмі клапоціцца, што ў некага галавы няма да каго прыхіліць...

Над Чэсікам зжалілася старая Паўліха. Была яна глухая і жыла адна душою, у самым канцы вёскі, у старой, як і сама яна, хаце. Гаспадара пахавала яшчэ за панамі. Сыноў трох з вайны не дачакалася. А дачка адзіная, хоць і жыла непадалёку, да маткі амаль не наведвалася. Пайшла замуж за нейкага ўпраўнага нарыхтоўшчыка, выбудавала дом пад шыферам— і забыла дбаць пра матку. І Паўліха вельмі не дамагалася даччынай ласкі. Ногі яшчэ трымалі, і яна пыніла калгасную птушкаферму.

...Бядак бедака бачыць здалёк. Так і Паўліха. Пашкадавала сірату (ды яшчэ такое няшчаснае): адзін раз зварыла чыгунок гарачай бульбы ды занесла Чэсіку са свежым гурочным расолам, як прыгнаў кароў з поля. Другі раз забегла — апатрыла хату ды сёе-тое з адзення перамыла, каб падабнейшы быў. А як халады наваліліся, пачала заходзіць у печы прапаліць, ці хоць дроў падкласці ды строга наказаць, каб глядзеў, каб, бронь божа, пажару не нарабіў... (Сам Чэсік ніколі ў печы не паліў. Нават зімой. Днём ён заўсёды рабіў на каровніку, дык было цёпла. Вечарамі грэўся па цёплых людскіх хатах. А ноччу хоць спаў і ў ледзяной хаце, але пад кажухом таксама цёпла было...)

У аддзяку Чэсік прывозіў Паўлісе з лесу дроў. Прывязе, папілуе з хлапчукамі, а потым возьме пераколе ды гэтак акуратненька складзе іх у сціртачку пад паветкай. А то надумаецца ды ваду пачне Паўлісе насіць: налье поўны цэбар, налье начоўкі, а потым усе вёдры, якія толькі ёсць у гаспадарцы, паналівае... І ўсё гэта без загаду, па сваёй волі, моўчкі... Ну дык як ты яго, на месцы гэтай старой Паўліхі, не пашкадуеш? І каго ж ты пашкадуеш яшчэ, як не яго. І хто цябе пашкадуе, хто табе прывязе гэтых дроў ці пра ваду гэту ўспомніць.

І паступова да гэтага прывыклі і самі Паўліха з Чэсікам і людзі прывыклі. Праўда, Паўлішын клопат пра Чэсіка зусім не перашкаджаў людзям (хіба не знойдуцца такія) падвучваць хлапца на кепскае. Маўляў, ты добра зарабляеш у калгасе, а Паўліха цябе нясмачна корміць і абы-як апранае. Пасля такой гаворкі Чэсік звычайна прыбягаў да Паўліхі сварыцца... Паўліха не спрачалася з Чэсікам, нічога не адмаўляла — яна толькі садзіла яго за стол, налівала яму міску гарачай капусты, а сама даставала з-за абразоў ключ ад шафы. Потым адмыкала яе і пачынала наказваць:

— Вось гэты суконны гарнітур, Чэсічак, хіба даўно мы табе яго купілі? Памятаеш, на Юр'я наўмысля хадзілі з табою ў Смаргонь... А вось гэту шаўковую блакітную кашулю? У каго на вёсцы ёсць харашэйшая? А вось гэтыя картовыя штаны — ні разачку не адзеты. А яшчэ вось бравэрка, а паўбацінкі...

Не задзірлівы і не злапомслівы, Чэсік умомант апаражняе міску заскваранай здорам капусты і ўмомант забывае ўсё тое няўдобрае, што яшчэ некалькі хвілін назад варам бушавала ў яго грудзях. Раз-пораз ускоквае ён з месца то памацаць шаўковую кашулю, то апрануць бравэрку — сіняе суконнае паўпаліто з цыгейкавым каўняром, то прымераць чаравікі... Чэсік цешыцца сваім багаццем, як дзіця, а Паўліха цешыцца Чэсікам. Дзякаваць богу, хлапцу ёсць у што апранацца, ёсць што абуць. А людзі — ім ратоў не пазашываеш. Няхай сабе мелюць!

Нарэшце ўсё дабро зноў звешана і складзена ў шафу. Шафа замкнёна на ключ. І ключ схаваны за абразы.

На сэрцы ў абаіх лёгка і весела.

Тым часам пара і выганяць каровы з ранкаў, і Паўліха ідзе рыхтаваць Чэсікаву торбу.

— Не бойся ж бо, дзеткі, — папярэджвае яна Чэсіка. — А то Мікодым будзе лаяцца.

Сама яна таксама спяшаецца. Ёй таксама пара на сваю ферму: каб хаця дзяўчаты не забылі паналіваць вады куранятам, а то пазаходзяцца ад смагі — гарачыня такая!..

— Глядзі ж, дзеткі, не пазніся! — яшчэ раз, з парога ўжо наказвае Паўліха і бяжыць на ферму.

Чэсік бярэ торбу з ядой, бярэ пугу і, як штодня, як штолета, ідзе займаць калгасныя каровы.

...Чэсік пагрозліва замахваецца — і раменная пуга свішча і сыкае ў паветры вужакаю. Каровы ведаюць Чэсікаву пугу і подбежкам, грузнучы па чэрава ў багне, перабіраюцца цераз канаву. Выбраўшыся на грудок, прагна прыпадаюць да смачнага роснага мурагу. Толькі і чутно: жвіў, жвіў, жвіў...

Сам Чэсік пераходзіць канаву па кладцы. Загад Мікодыма выкананы, і Чэсік можа пасядзець таксама. Адсюль каровы нікуды не пойдуць. Трэба толькі пільнаваць, каб старшыня калгаса не нарваўся.

Успамін пра старшыню калгаса зноў падкочвае да Чэсікавага сэрца дзве хвалі. Адна хваля цёплая і лагодная: да старшыні прыехала яго пані старшыніха, а яна таксама прыгожая, такая вясёлая... Другая хваля нядобрая: яна студзіць Чэсікава сэрца і поўніць яго злосцю — а мо і праўду кажа Мікодым, што старшыня вылежваецца з паняю старшыніхаю... І Чэсіку здаецца, што брыдчэйшага і горшага чалавека за іх старшыню калгаса няма на свеце. Здаецца, каб стрэўся з ім дзе-небудзь у лесе ці ў жыцце — забіў бы! Такі кірунак думак робіць Чэсікаў твар тупым і звераватым. І няма нічога дзіўнага: стрэнься старшыня яму ў такую хвіліну дзе-небудзь адзін на адзін — і заб'е...

— Чэсік, глядзі адно, не ўпусці ў шкоду кароў! (У лагчыне, за грудком, аўсы.)

Уладны Мікодымаў голас абуджае Чэсіка ад яго думак. Яны, як напуджаныя вераб'і, рассыпаюцца каторая куды, і Чэсік зноў застаецца сам з сабою, з галоўным сваім клопатам — каровамі.

— Гляджу, — панура адказвае ён і накіроўваецца да белага каменя.

Камень гэты, нібыта яго ўзялі і наўмысля пагаблявалі, роўны і гладкі, што той стол. На ім можна легчы і выцягнуцца — удоўж, упоперак. Можна сесці ўпярыцах. Можна скакаць нават. Ляжыць гэты белы камень тут з незапамятных часоў, і старыя кажуць, што ад яго і назва вёскі пайшла — Белая. Летась начальнік экспедыцыі, што шукала цэлае лета каля Белай нейкай солі, надумаўся быў узарваць белы камень. Ды людзі не далі.

Узлезшы на камень, бачыш, як бяжыць удалечыні Вілія, халодная, быстрая рэчка. Левы бераг яе нізкі, нібыта засланы зялёным аксамітам — толькі мясцінамі аксаміт перасыпаны, як вальцоўкай, мяккім, залатым пяском. У гэтым пяску цэлае лета капаюцца вясковыя дзеці. Гэтыя пясчаныя мясціны заўсёды выбірае сабе для вадапою жывёла.

Правы бераг Віліі высокі, стромкі, чырвоны ад пластоў гліны, што залягаюць па той бок. На тым беразе лясы — дубовыя і хвойныя. Па той бок у невялічкіх вёсачках Залессе, Падарэссе, Дуброва кожны год плойма дачнікаў...

Там на цёплым залатым пясочку цэлае лета загараюць у стракатых купальніках гарадскія дачніцы. Каля іх, з берага, плёскаюцца і вішчаць ад захаплення іх дзеці, зялёныя і худыя, нібыта дома іх не кармілі хлебам... За лета гэта худзеча так адбегаецца па цёплым пяску, так адап'ецца смачнага вясковага малака, так загартуецца пад вольным сонейкам і ветрам, што пад восень дзіўна робіцца: няўжо гэта тыя самыя заморкі?..

А то яшчэ вельмі цікава пазіраць, як прыбягуць на Вілію і пачнуць купацца гарадскія паненкі. Як пачнуць плаваць і дурэць! Вось паненкі дык прыгожыя! Тоненькія, зграбныя. Асабліва, калі паскідаюць свае кароткія, нейкія ўсё роўна як надзьмутыя, сукенкі ды панадзяваюць на абстрыжаныя валасы блакітныя і ружовыя калгурыкі...

Чэсік падбірае полы свайго некалі фарсовага афіцэрскага плашча (плашч гэты падараваў яму гадоў сем назад адзін палкоўнік, сын якога ад школы і ад гарадскога жыцця кожны год уцякаў у Белую на цэлае лета пасвіць калгасных коней) і, нібы цар, з пугай у руках умошчваецца па сваім каменным троне. З трона Чэсіку ўсё відно як на далоні: каровы, Вілія, у лагчыне за грудком аўсянае поле. Налева ад грудка — у засені старых негаманкіх хвой — могілкі. Не тыя вясковыя могілкі з крыжамі і помнікамі, з кустамі бэзу і лілеі, з птушыным шчэбетам і свістам — дзе хаваюць усіх вяскоўцаў. А зарослыя муравой, бязмоўныя, панурыя салдацкія могілкі — узгорачак на ўзгорачку, узгорачак на ўзгорачку — яшчэ з часоў першай імперыялістычнай вайны. Сярод іх узвышаецца некалькі большых узгоркаў — брацкія магілы, На гэтых могілках не захавалася ні надпісаў, ні імён, ні нават крыжоў. Надпісы сцёрліся, імёны забыліся, а крыжы з цягам часу збуцвелі і згнілі...

Чэсік любіць блукаць па гэтых бязмоўных могілках, якія, хоць і падступаюць да самых вясковых гумен і агародаў, цяпер ужо нікога не палохаюць, не хвалююць і не цікавяць нават... У Белай не памятаюць, каб на гэтыя могілкі прыязджаў ці прыходзіў нават і хто-небудзь блізкі тым, што ляжалі тут у радок больш паўвека. Відаць, гэта былі могілкі загінулых без вестак...

Блукаючы па могілках, Чэсік не ўмее адрозніць часоў і баёў. Яму здаецца, што і яго бацька, салдат Другой сусветнай вайны, таксама ляжыць недзе тут. Трэба толькі адгадаць бацькаў узгорачак...

Некаторы час Чэсік сядзіць на сваім камені-троне нерухома, потым ён устае, тупае і, як генерал, з вышыні свайго камандзнага пункта, аглядае наваколле. Каровы ходзяць. З-за лесу выкацілася і паволі коціцца па небе чырвоны бохан сонца. Святлее неба, і ўсё навокал святлее. І ў Чэсіка на душы робіцца святлей...

— Чэсік! Ты не заснуў там? — зноў турбуецца па той бок канавы Мікодым. Ён усё пад тым самым дубам — ён лішняга кроку не зробіць: а навошта Чэсік?

— Не заснуў! — павесялелым голасам адгукваецца Чэсік.

— То мо будзем выганяць... Каб старшыня часам не нарваўся...

Каб старшыня не нарваўся — сам Чэсік баіцца гэтага больш за Мікодыма. Баіцца, што старшыня будзе сварыцца на іх за тое, што ўпусцілі кароў у сенакос. Баіцца, што Мікодым раптам возьме ды скажа, што гэта не ён загадаў, а Чэсік сам узяў ды загнаў кароў на грудок... А самае галоўнае, што гэтага старшыню Чэсік сёння забіў бы...

Да старшыні прыехала з горада (яна кожнае лета прыязджае) яго пані старшыніха. Па тутэйшым звычаі — усё яшчэ на польскі манер — яе так і завуць «пані». «Пані» — хоць яна і ходзіць разам з усімі жанкамі на

работу, хоць умее і жаць, і сена грэбці, і лён браць і біць… І гаворыць, як усе гавораць у Белай. А ўсё роўна — пані. Бо ў горадзе яна вучыць дзяцей у школе. У горадзе яна ходзіць у капелюшы і пальчатках. А з горада як прыедзе сюды — твар у яе белы і далікатны і рукі таксама белыя і далікатныя, а не такія, як у тутэйшых жанок і дзяўчат… І сукенкі ў яе гарадскія, прыгожыя. І сама яна такая прыгожая, такая вясёлая і добрая…

— Займай, Чэсік! — падае каманду Мікодым.

І Чэсік злазіць з каменя і — свісь, свісь пугаю — займае кароў з сенакосу. Ого, вунь якія круглыя зрабіліся! А здаецца, толькі што ўпусцілі. Вось сёння дзяўчаты-даяркі будуць хваліць яго, Чэсіка! Будуць адна перад другой упрошваць яго, каб узяў замуж — гэтак ён умее добра напасвіць кароў! Але на чорта яны ўсе Чэсіку. Нават Дуню Ушакевічаву Чэсік не ўзяў бы замуж, хоць яна і самая харашэйшая даярка, хоць яе і ў газету здымалі. На чорта і Дуня Чэсіку!.. Вось каб яна была такая, як пані старшыніха…

— Выкругліліся, — Мікодым ужо стаіць з кіем, пільнуе кароў ад загарадзі, каб каторая ўпраўнейшая ў калгасныя буракі не джганула. — Глядзі, Чэсік, каб цябе сёння дзяўчаты-даяркі не папацалоўвалі — каровы гэтулькі малака дадуць, — дражніць Чэсіка Мікодым.

— На чорта яны мне, — агрызаецца Чэсік.

— Дурны… «На чорта». Гэта дзяўчаты на чорта? Ого, браце, каб я меў столькі гадоў, як ты, я б пахадзіў каля іх…

— Ну, дык і хадзеце… — гэтыя дурныя Мікодымавы жарты кожны раз толькі ўзлуюць Чэсіка: патрэбны яму гэтыя дзяўчаты! І, каб не слухаць Мікодыма, Чэсік займае кароў і барзджэй, барзджэй з выгану ў лес. Там таксама будзе дзе пахадзіць каровам… А самае галоўнае — у лесе, на маладых пасадках, можна ўжо будзе назбіраць суніц. Можна будзе знайсці гняздзечка і непрыкметна ўкрасці адно ці два яечкі… Суніцамі ён пачастуе пані старшыніху (яна, напэўна, не спытала іх яшчэ сёлета). А яечкі аддасць пані старшынішынаму хлопчыку…

Мікодым ідзе ззаду чарады і толькі пасміхаецца ўслед Чэсіку: дурны то дурны, а бач, губа не дура — упадабаў пані старшыніху…

У лесе Чэсік украў у сініцы-дуплянкі пяць маленечкіх блакітных яек. А на пасадцы назбіраў салодкіх духмяных суніц. Яйкі ён загарнуў у шырокі кляновы ліст і палажыў іх запазуху — так не забудзеш пра іх і не parасціскаеш. А суніцы насіў, насіў у прыгаршчах, а потым даўмеўся — высыпаў іх у шапку…

І вось, прыгнаўшы каровы на ранкі, Чэсік крадком абміноўвае чырвоны куток па калгасным двары (каб дзяўчаты-даяркі не заўважылі — яны ніколі не даюць яму праходу…), крадком уцякае ад Мікодыма, хоць звычайна дадому ідуць яны разам. Сёння ў Чэсіка іншы клопат, і ён як быў з раніцы ў плашчы і цяжкіх гумавых ботах, так і ідзе ў суседнюю брыгаду, дзе кватаруе іх старшыня калгаса і куды ўчора прыехала пані старшыніха…

Чэсік ідзе сцежачкай між высокіх жытоў і ўяўляе сабе, як прыйдзе вязаць у жніво гэта жыта пасля жняяркі пані старшыніха. І як ён, Чэсік, таксама прыйдзе сюды і будзе, як і летась, памагаць ёй зносіць снапы (каб яна ног не пакалола іржышчам) і ставіць іх у бабкі… А да жніва яшчэ, як пачнецца касьба, як пачнецца грэбля сена, ён таксама будзе ладаваць за пані старшыніху ладкі і будзе насіць за яе копы да стога (каб у яе сярэдзіна і рукі не балелі)… А пачнуць некалі лён біць на таку — ён і на лён будзе хадзіць, будзе памагаць біць… Ён не тое што бабы: ляп-ляп пранікам — і знаку ніякага няма…

Захапіўшыся разважаннямі, Чэсік не заўважыў нават, калі ён прыйшоў да старшынёвай хаты. Ён зайшоў з прыгумення, агародамі і, не адважваючыся зайсці на двор, стаіўся за хлеўчыкам… Вось выбег з хаты і пагнаўся за катом бялявы хлапчук. Чэсік пазнаў яго (пані старшынішын сынок Коля) і памацаў у сябе за пазухай, ці не парасціскаліся яечкі… І неўзабаве за Колем старшынёва гаспадыня цётка Ганька вынесла нейкі белы скрутак (Чэсік не разабраў добра: дзіця, ці што?) і схілілася з ім над каляскай, што стаяла ў цяньку пад ігрушай-сапяжанкай. Скрутак раптам заварушыўся і заплакаў. (Чэсік упэўніўся: дзіця. Толькі дзе яна ўзяла яго, гэта старая Ганька?) Цётка Ганька загойдала каляску.

У гэты час расчынілася насцеж акно на старшынёвай палавіне, і голас, які Чэсік пазнаў бы за светам, паклікаў:

— Коля! Ідзі, сыночак, выпі цёпленькага малачка.

— Ай! — адказаў Коля, аберуч трымаючы ката.

А цётка Ганька таксама сказала Колю:

— Ідзі, дзеткі, выпі кубачак.

Але ёй таксама Коля адказаў «ай» і пабег з катом на вуліцу. А голас, ад якога ў Чэсіка закалацілася ўсё ўсярэдзіне, зноў сказаў з хаты:

— Цётка Ганька, не трэба яе калыхаць. Я яе буду зараз карміць. Дома я яе ніколі не калышу.

Чэсік здагадаўся: значыць, гэта пані старшынішына дзіця.

А летась яе не было…

А потым з хаты выйшла сама пані старшыніха. Сонца свяціла ёй проста ў вочы, і яна спынілася на ганку, зажмурылася, засмяялася і, як маленькая, працягнула насустрач яму рукі…

— Ой, цётка Ганька! Як тут у вас добра, як хораша! — усклікнула яна.

Яна не была ўжо такой тоненькай, як летась. І залатыя валасы ў яе ўжо не плылі па спіне хвалямі, а былі закручаны ў вузел і заколаты на патыліцы шпількамі. І плацце на ёй было другое. Летась яна цэлае лета хадзіла ў белым… Але Чэсік не заўважыў гэтае розніцы. Чэсік нічога не заўважаў.

Не зводзячы з пані старшынiхі вачэй, ён раптам і сам засмяяўся і зажмурыўся. І, не выпускаючы шапкі, працягнуў рукі насустрач пані старшынiсе…

— А ў горадзе цяпер такая гарачыня, такая пылішча!.. — яна лёгка збегла з ганка і нагнулася над каляскай.

— Есці хоча, — зноў засмяялася яна — ужо да дзіцяці.

І Чэсік зноў таксама ціха засмяяўся.

— Дзіва што хоча. Не пара хіба… У нас дык пра гэтыя гадзіны ніхто і вухам не вядзе. Захацела дзіця есці, дык маці ўзяла да дала яму цыцку. А вы там у горадзе, вучоныя, усё па гадзінах ды па кнігах і корміце і спаць кладзяце…

Дзіця зноў заплакала, і, сеўшы тут жа на траву, пані старшыніха расшпіліла сукенку і пачала карміць яго грудзьмі. Дзіця ссала прагна, круцячы ад асалоды і задавальнення галоўкай і тыцкаючыся носікам у цёплыя матчыны грудзі.

— Бач, выгаладалася,— цётка Ганька пастаяла яшчэ хвілінку і пайшла ў хату.

А Чэсік усё не мог крануцца з месца, усё стаяў за хлеўчыкам і як зачараваны глядзеў на пані старшыніху.

У гэты час з плачам прыбег з вуліцы Коля, са свежай драпінай на шчацэ.

— Мама… мяне коцік!..

— А я табе колькі разоў казала — не бяры коціка на рукі, не цягай яго… Ён не любіць гэтага.

— Я толькі хацеў пакупаць яго ў сажалцы.

— А ён цябе прасіў купаць яго?.. Ну, хадзі сюды. А то напужаеш маленькую.

Размазваючы рукой па твары слёзы, Коля падышоў да маці і ўмасціўся ёй на другое калена. Яна абняла яго адной рукой, але яму так было нязручна, і ён сярдзіта ўзваліўся на сястру. Маці лёгенька адапхнула яго, але ён, яшчэ больш закапрызіўшы, стукнуў маленькую па голым сцягенцы. Маленькая зацялася ад болю, а маці сярдзіта сапхнула Колю на траву.

— Ты што гэта! Ану — ідзі прэч ад мяне… Я не люблю такіх нядобрых дзяцей.

— Ай! — зароў Коля і зноў палез да маці на калені, абхапіў яе за шыю і таксама прыціснуўся да грудзей. — І я хачу-у-у…

— Ну, пачакай, пачакай… — зразумела яго маці. — Вось накормім сястрычку, паложым яе ў каляску, і тады мы будзем з табою…

Але Коля не хацеў нічога слухаць.

— Яна брыдкая! — зноў замахнуўся ён на сястру, але маці ў час спыніла яго руку.

— Ды не… Яна проста маленькая яшчэ і дурненькая… А ты ж у нас ужо вялікі, ты ў нас разумны…

— Ай! — усхліпваў Коля і цясней хіліўся да маці, да яе цёплых грудзей, да яе ласкавых рук і пяшчотных пацалункаў.

…А Чэсік стаяў за хлеўчыкам, глядзеў на ўсіх траіх і ўсё стараўся нешта ўспомніць. І ніяк не мог успомніць…

Ён глядзеў, як пані старшыніха карміла грудзьмі малое дзіця, як яна лашчыла і пяшчотна цалавала Колю, глядзеў і як быццам бачыў ужо не іх, а бачыў — успамінаў нейкую другую жанчыну і другіх дзяцей… Толькі тая другая жанчына была ў хустцы, была ў нечым цёмным, і дзіця на руках у яе таксама было ў цёмным… І хлопчык таксама сядзеў… Толькі не на каленях у маці, а на прымурку. Болей ён нічога не памятаў, ён толькі пакутліва намагаўся ўспомніць. Дзе ён гэта бачыў… Калі гэта было… Хто была тая жанчына…

— Пані старшыніха… — шэпча Чэсік. — Мама!.. Мама!.. — паўтарае ён, раптам пазнаўшы яе…

Толькі дзе яна была столькі гадоў?.. Чаму яна гэтак доўга не ішла?..

— Мама! — голасна крычыць Чэсік. — Мама!.. — і бягом, па градах, па загуменні, праз жыта кідаецца да свае старое хаты, што стаіць цяпер за лазню на беразе рэчкі.

…На разоры застаецца ляжаць толькі Чэсікава шапка. А ў шапцы — жмені са дзве суніц — пані старшынісе…

## Верка

Труна Веркі стаяла ў жэкаўскай бухгалтэрыі, цеснаватым, як панчоха, выцягнутым зальчыку звычайнай чатырохпакаёвай кватэры, прыстасаванай пад домакіраўніцтва. У гэтым зальчыку збіраліся сходы, праводзіліся ўсе ведамасныя ўрачыстасці.

І вось на табе — Верка…

У зальчык знеслі вазоны з усіх суседніх пакояў, труну абставілі вянкамі з яловых лапак і штучных, навошчаных руж і незабудак. Вянкоў было чатыры: ад домакіраўніцтва, ад жыльцоў двара, які прыбірала Верка… Быў яшчэ вянок ад таварышаў па рабоце і яшчэ адзін вянок быў — нехта з найбольш дасведчаных людзей, якія, як і пры ўсякай падзеі, заўсёды абавязкова вылучаюцца і на пахаваннях — нехта гэты вянок паставіў у куток, каб не вельмі кідаўся ў вочы залатым надпісам на шаўковай чорнай стужцы. А надпіс быў такі: «Мілай, незабыўнай ад несуцешнага друга».

Для тых, хто нічога не ведаў, надпіс быў як надпіс. Але хто гэта чаго не ведаў пра каго ў ЖЭКу! Ды і як было не ведаць: апошні дарунак несуцешнага сэрца нрынёс Верцы сантэхнік Мішка Сулім. За сына б яму быць у яе… Свайго ўласнага сына Верка не давезла некалі дадому, вяртаючыся з фронту ў студзені сорак пятага года. Да падзення Берліна заставалася нейкіх усяго чатыры месяцы. У Берліне, на святкаванні Дня Перамогі, Верчына самая лепшая сяброўка і самая прыгожая дзяўчына ў іх лётным дзявочым палку Надзя Чарнова танцавала мазурку з самім маршалам Ракасоўскім. А потым, у тым жа самым пераможаным Берліне, Надзя Чарнова згуляла і сваё вяселле з маладым, таксама прыгажуном, генералам авіяцыі…

Верцы генерала не выпала.

Верчына жыццё закружылася ў зусім іншым віражы. І яна так і не адолела яго, пасляваенны той свой віраж…

Верка не спагадала дурноце — гэтакая была ў ёй жорсткасць. А вось кульгавую старую Шаблю шкадавала. І заступалася за яе ўсюды, як за малое дзіця. Шабля некалькі гадоў ужо як здала на склад венік і шуфель: рукі і ногі яе пакруціў раматус, і цяпер яна лета і зіму шлэпала з кіем у руках у мужчынскіх штанах і валёнках. Зімовае паліто скідала толькі ў спёку — не магла ніяк угрэцца.

Верка шкадавала Шаблю — яе і дзеці малыя дражнілі на двары, бегучы следам:

— Бабушка, бабушка, а ты піва таксама любіш піць?

— Не, — пакорна і незласліва адказвала дзецям Шабля. — Піва не люблю. Люблю крышачку салодкага віна… Але цяпер я ўжо ма-ала п'ю. Галава баліць… А некалі я і гарэлку любіла, — і па бездапаможным жоўтым твары праменьчыкамі расплываліся чорныя сухія маршчыны.

Верка, калі была паблізу, як каршак, кідалася на малых, гэтых выпешчаных дзетак, што жылі са сваімі раскормленымі мамамі і татамі ў добрых кватэрах яе двара, які яна мала што языком толькі не лізала.

— У сваіх мамачак і бацькоў дома спытайце, што яны любяць і п'юць… А ты таксама раскрыла рот, як варона… Кіем іх гані! Кіем! — махала яна, як на куранят усё роўна, на малых.

І тыя сапраўды рассыпаліся з піскам ва ўсе бакі, што куранты.

Мішка Сулім — сантэхнік домакіраўніцтва — быў чацвёртым у гэтай кампаніі. Як і Шабля, ён кіраваўся ўслед за Веркай улегца. Парожнія бутэлькі ён паспяваў здаваць і «атаварваць» з самага ранку. І таму на святочным застоллі мог прысутнічаць толькі ў якасці пачэснага госця. (Такое права палежала яму ад самое Веркі.)

Мішка меў залатыя рукі, і калі ўжо меў што з гэтых рук (а меў ён не так ужо і мала), то таксама спускаў усё з «чарцямі і звонам»…

Ён умеў прыгожа гаварыць, ён быў інтэлігент-ачкарык (Мішка быў з інжынераў), і ён ніколі не лаяўся пры жанчынах.

І за ўсё гэта Верка любіла і шкадавала Мішку. І Мішка яе любіў. Не маладую, як яблыка, гладкую Клаўку, а старую Верку. Ён, калі не дабіраўся яшчэ «да зеніту» (у яго былі свае, «астранамічныя», вымярэнні), заўсёды паўтараў Верцы, што ў яго вачах яна нязменна застаецца ўсё тым жа анёлам паўночы, якіх некалі ў вайну немцы звалі начнымі ведзьмамі… І кожны раз, прыплюшчыўшы павекі, успамінаў на памяць вершы Лермантава:

По небу полуночи ангел
летел…

Верка слухала яго ўзвышаныя казанні і ціха плакала. Яна некалі да вайны скончыла настаўніцкі інстытут і паспела адзін год павыкладаць літаратуру ў пятых і сёмых класах. Апрача таго, яна вяла ў школе гурток па авіясправе і мела разрад па парашутным спорце… І калі пачалася вайна, яна адразу ж падала заяву ў ваенкамат, каб яе адправілі на фронт. На фронт яе не ўзялі, а накіравалі ў лётнае вучылішча. Яна скончыла яго, трапіла ў жаночы лётны полк і праславілася ў тым палку на ўвесь свет начной ведзьмай…

А Мішка-сантэхнік зваў яе анёлам.

Верка любіла яго.

«Мілай, незабыўнай ад несуцешнага друга».

Такі надпіс — золатам — загадаў зрабіць на чорным шоўку Мішка-сантэхнік.

Духавы аркестр пажарнага дэпо, які згадзіўся домакіраўніцтву адправіць адно пахаванне па грамадскіх пачатках без грошай, ішоў следам за Веркай і граў ёй напаследак «Вы жертвою пали в борьбе роковой»…

Ззаду, не здолеючы паспяваць за рэдзенькай жменькай людзей за Верчынай труною, грэблася з кіем старая Шабля. П'яная Клаўка плакала наўзрыд і рукавом выцірала чырвоны, распухлы ад слёз твар. Мішка-сантэхнік, у чорным жалобным гарнітуры, падтрымліваў іх абедзвюх пад рукі, і ў твары яго не было ні крывінкі.

# Маёвы вечар



Баляслаў ЛЕСЬМЯН (1877–1937)

## Ружа

*Ці не раскідваў макаў
На цёмнай я сцяжыне?
Мой сон ніякіх знакаў
Уранні не пакіне.*

*Тваe былі там губы?
Мае былі далоні?
Пустуе сад мой любы,
За брамай месяц тоне.*

*Ідзе за спёкай сцюжа,
Ў азёрах ноч жытлуе.
Калі цвіцеш ты, ружа?
«Ніколі не цвіту я...»*

*«Ніколі не цвіту я...»
Ты гэта кажаш, ружа?
Лаўлю я фразу тую,
Ідзе за спёкай сцюжа...*

## Шум вёслаў

*Шапочуць вёслы ў гушчэчы хваль —
І шум, і сонца, і спеў, і даль!*

*Вось так і трэба, вось так і ёсць:
Супроць нябёсаў, зямлі на злосць!*

*Накрасці перлаў на самым дне
І ў хвалі кідаць, што б'юцца ў сне,*

*І потым слухаць — хоць і мана! —
А ці кранунца са стогнам дна?*

*Адбітак лодкі — з глыбіняў госць:
Вось так і трэба, вось так і ёсць!*

*З дваістай лодкай спраўляйся сам —
Плыві адразу і тут, і там!*

*Дваістай лодкай плыві ў бяскрай,
Кахай дваіста і памірай!*

*Чацвёрка вёслаў, два весляры,
На твар унізе глядзіш згары.*

*Ты нібы выплыў з двух розных сноў
І ў сне адзіным сустрэўся зноў.*

*Ты нібы ўверыў такому дню
Ўсе дні і ночы! О сны, што сню!*

## Маёвы вечар

*Вечар маёвы, пурпуру сцялі!
Чары праз яблычны квет прараслі...*

*Хваляй адною зліліся без хваль
Жаль з даляглядам, з прастораю жаль.*

*Май у нябёсах, прызмрочаны Май!
Ўсё прыгадай — зразумей — і рыдай...*

*Ведаю: хілішся ты да акна —
Там, дзе буяюць святло і вясна.*

*І вызіраеш з жыцця ў гэты міг
Так, што сцінаюцца выдых і ўдых.*

*Так, што ўдыхаецца далеч і ціш,
Так, што не знаеш, аб кім гэта сніш.*

*Так, што ўяўляецца, нібы праз дым
Свет — хоць і свой, — аказаўся чужым.*

*Дык для чаго пурпуровы той час
Зноў да трывогаў прыспешвае нас?*

*Дык для чаго вечаровай глушы
Дзве пары рук і дзве нашы душы?*

## Душылка

*Ціха крочыў Байдала,
А вясна прыгравала —
За сабою вёў клячу, за клячай —
карову,
І свой шлях у палях ён прайшоў
напалову.*

*На дрымоту Байдалу
Пацягнула памалу —
На падлеску ён тут жа прыглядзеў
імшыны
І праверыў абцасам,
ці мякка для спіны.*

*Між каровай і клячай
Паваліўся, бядача,
Пакрывіўся, прыцмокнуў,
раскінуўся ўшыркі
І пасля, пазяхнуўшы,
засоп у дзве дзіркі.*

*Казка не захавала
Сноў, што бачыў Байдала,
Захавала ж, як раптам Душылка
з-пад карка,
Свет паскудзячы, вылез,
як з ложку паўстарка.*

*Лыч быў жабін, няйначай,
Ды з пароды слімачай,
Ну а ззаду — квактуха,
што зносіла яйка.
Гэй, маўчы: дзеўкі гыркнуць —
і будзе вам байка!*

*Хвост — як рэмень, без косці,
Лубяное падхвосце.
Сеў на грудзі Байдалу,
як крук на адрыну,
І пакуль той не хлюпнуў,
душыў бедачыну.*

*Ох, душыла навала!
Што за трасца, Байдала?
З жахам дзьме ён у вусы
праз стогны і ўсхліпы —
Як раз'енчыўся хлопец,
паслухайце, ліпы!*

*Аж дарэшты спацела
Паўдушы і паўцела,
Ды нядоўга Душылка Байдалу
марочыў —
Той пафыкаў, і слінай папырскаў,
і ўскочыў.*

*І прамовіў ён клячы:
Што ж ты, коню лядачы,
Не вартуеш мяне ад бяды
выпадковай?
Што ж не трэснуў ты добра
Душылку падковай?*

*І прамовіў карове:
Што ж ты спіш у ахове
І прагнаць не спрабуеш рагамі
пачвару,
Што сюды прыпаўзла да мяне
на імшару?*

*І прамовіў ён Богу:
Што ж ты крыўдзіш нябогу?
Ты спачвары мяне, і карову, і клячу,
Ды яшчэ і Душылку стварыў наастачу.*

## Дуб

*Загуло, закіпела — і раптоўна
з дубровы
На касцельныя хоры дух ускочыў
дубовы.
Ён узрушыў арганы рухаў шалам —
не шалам,
Быццам разам з гудзьбою шчыраваў
ён кагалам.
Галінастыя пасмы траскатліва
ўзляталі
І ў паглядзе шырэлі невядомыя далі,*



*Ён жа выставіў грудзі дудам
па-кавалерску,
І ў арганы старанна бахаў ён
па-сякерску.*

*Грай, ігрaчу, грай,
Хай паможа май,
Хай паможа мех з дудой
І ўсялякаю жудой!*

*Біў налева правіцай,
а направа лявіцай,
Каб маглі ў адначассе рык
са стогнам зрадніцца,
Выбіў з дудаў-марудаў
ён рукой сукаватай
Спеў, у нетрах зялёны,
а з бакоў — кветкаваты.
А святыя з іконаў выйшлі
спосабам звычным,
Каб абняцца смярцямі
з гэтым клічам музычным.
Бог, тады небывалы,
прыляцеў з бездарожжа,
Небывалы — ды ў шалы ён услухаўся.
Божа!*

*Грай, ігрaчу, грай,
Хай паможа май,
Хай паможа мех з дудой
І ўсялякаю жудой!*

*Граў ён дрэўныя мары,
сон памерлага лісця,
Што віры ледзяныя скралі
з голля калісьці,
Граў жалобныя маршы мухамораў,
што крочаць
Аднанога ў пустэчу,
калі скон запасочаць.
Граў пра твань і імшары,
дзе ні гуку, ні зыку,
І як смерць як лясная
спаць лягла ў ваўчалыку,
Як маркоцяцца росы —
без вачэй, ды слязамі,
І як раптам карэнне ў скрушным
кленчыцца гаме.*

*Грай, ігрaчу, грай,
Хай паможа май,
Хай паможа мех з дудой
І ўсялякаю жудой!*

*А калі яму хмелем песня
ўдарыла ў голаў,
Граў усімі ярамі ён між нетраў і долаў!
Аж алтар напужаны,
блішчучы ў залатэчы,
Прагнуў зрынуцца тут жа,
толькі прагу адпрэчыў.
Ён жа біў па арганах,
ім раструшчыўшы косці,*

*Пальцы так разагнаўшы,
нібы ногі на мосце,
І, развеяўшы згукі між пявучых
разлогаў,
Ён усё павыгрукваў,
што лес мае да Бога.*

*Грай, ігрaчу, грай,
Хай паможа май,
Хай паможа мех з дудой
І ўсялякаю жудой!*

*Між музыкам і Богам больш
не будзе прадоння:
Пра сябе сненні дуба Бог падслухаў
сягоння.
«Колькі ў свеце існую —
я ж адвеку вячысты, —
А дагэтуль такога не спаткаў арганісты!»
Божай ведзе музыка
на хвалу і на памяць
Стаў двума ручаямі песню ўгору
напраміць,
Долу спеў размураваў,
каб касцёл каласіўся,
Аж цяністым прыпевам
Божы твар зацяніўся.*

*Грай, ігрaчу, грай,
Хай паможа май,
Хай паможа мех з дудой
І ўсялякаю жудой!*

*Ашаломлена слухаў Бог душою
бяскрайняй,
Што зрабілася раптам і лясной,
і ручайнай,
Ён сабе штосьці думаў
і прымерваўся збоку,
Бег жыўцом да музыкі,
цягнучыся здалёку.
А святыя, што зналі,
як аддзячыць за дзіва,
Узяліся за рукі,
каб укленчыць шчасліва,
Бо як свет стаўся светам,
смерць жа сталася крэсам,
Бог, абняўшыся з дубам,
першы раз плакаў з лесам.*

*Грай, ігрaчу, грай,
Хай паможа май,
Хай паможа мех з дудой
І ўсялякаю жудой!*

***

*Палаюць грудзі, агнеюць вусны,
Не спіцца ночы і спіцца ранкі!
Дык будзь жа слаўны і будзь распусны,
Усмех аддавай маёй каханкі!*

*У сне не чуе, як лашчу рукі,
Ды плечы побач уздрыгнуць трошку...
Дары мне шчасце, дары мне мукі,
Сон, што прысніўся клубам у ложку.*

## У сне

*Ты ў сне чужая. Даль без тла,
Ўспых вечнасці бліскучы.
Ляцім мы разам. Мгла і мгла!
Цямрэча, Бог і кручы.*

*Ты ў ноч і мглу вядзеш мяне,
Палётам разагрэта,
І шэпчаш: «Мы з табой — у сне!
Не забывай пра гэта...»*

*Не забываю. Мы імчым
Да невядомых высяў.
З табой так цяжка ў сне маім!
О, ява, адгукніся!*

***

*Змрок. У доме больш нікога.
І не прыйдзе дапамога.
Снег сцяжыну зацярусіў,
Жаль згубіўся ў завірусе.*

*Трэба ў гэты снег паверыць,
На сябе яго прымерыць —
Гэтым заціснуцца ценем,
Гэтым занямець знямненнем.*

**З польскай мовы пераклала Ганна Янкута**



# Каваль, які не трапіў ні ў рай, ні ў пекла

## (Шведская народная казка)

Здарылася гэта ў тыя часы, калі Госпад Бог і Святы Пётра вандравалі па нашай зямлі. Аднаго вечара прыйшлі яны ў вялікую вёску, а раз ужо насоўваўся змрок, дык пачалі яны грукаца да людзей, прасіць начлегу. Але ніхто не хацеў іх прыняць: адны казалі, што да іх рамеснікі прыйшлі працаваць — не пратаўкнуцца, другія — што ў доме якраз усчалі перамываць бялізну ці пячы. Хтосьці выбачаўся, што чакае гасцей, а тыя, каму не было на што спаслацца, проста бубнілі што-небудзь няўцямнае пра бадзягаў ды круцялёў.

Але наводшыбе, на абшчыннай зямлі, жыў бедны каваль, і вось ён гасцінна прыняў і Госпада Бога, і Святога Пётру. Жонка каваля паставіла на стол найлепшае, што ў іх было, а калі настаў час класціся спаць, яны саступілі вандроўнікам свой ложак, а самі залезлі на печку. Уранку Госпад Бог хацеў быў расплаціцца за сябе і за Святога Пётру, але каваль і слухаць пра гэта не хацеў.

— Але штосьці ты ўсё адно атрымаць павінны, — сказаў Госпад Бог. — А таму загадвай тры любыя жаданні!

Ад гэтага каваль не адмовіўся. Але толькі ён сабраўся назваць сваё першае жаданне, як яго перапыніў Святы Пётра:

— Загадай царства нябеснае! — зашаптаў ён.

— Ціха ты! — сыкнуў на яго каваль. — Без цябе нябось ведаю, чаго хачу!

Тут Святы Пётра абурыўся, хоць нічога не адказаў — так, прабурчаў толькі нешта.

— Што ж, — сказаў каваль, — найперш я жадаю, каб той, хто сядзе ў маё крэсла, заставаўся там столькі, колькі я захачу.

— Хай так і будзе! — сказаў Госпад Бог.

— Далей, — працягваў каваль, — я хачу, каб той, хто залезе на маю грушу, заставаўся там, пакуль я не скажу.

— Хай будзе па-твойму! — сказаў Госпад Бог.

— Але ж не забудзься пра нябеснае царства! — зноў зашаптаў Святы Пётра.

— Ды сціхні ты ўрэшце! — раззлавана прыкрыкнуў каваль і звярнуўся да Госпада Бога: — Хто ён такі, твой спадарожнік, што ўсё звягае ды лезе са сваім языком куды не просяць?

— Бачыш, адны мітрэнгі ад цябе, — паўшчуваў Госпад Бог Святога Пётру.

Той жа сціснуў кулакі ў кішэнях і прамармытаў:

— Я ўжо табе адплачу!

Але кавалю заставалася загадаць яшчэ адно жаданне:

— Што ж, а наастатак я б хацеў, каб той, хто залезе ў маю кайстру, так там і заставаўся, пакуль я не раздумаю.

— Зробім, — паабяцаў Госпад Бог і разам са Святым Пётрам рушыў далей у сваё падарожжа па свеце.

А ў каваля тым часам справы ішлі ўсё горай, і ўрэшце ён так збяднеў, што пачаў разважаць, ці не ўвайсці яму ў дамову з д'яблам. І толькі ён падумаў пра гэта, як сам д'ябал з'явіўся перад ім дый пытае, чаго ён хоча.

— Ды вось, — кажа каваль, — вырашыў я душу табе прадаць. Калі зробіш, каб я шторанку ў сваім боце знаходзіў па пяцьдзясят крон, то праз дзесяць гадоў можаш мяне забраць.

Д'ябал згадзіўся, і каваль, макнуўшы пяро ў сваю кроў, падпісаў кантракт. З таго часу жыў каваль у дастатку, аж пакуль не мінулі дзесяць гадоў і д'ябал не пагрукаўся ў дзверы, каб яго забраць.

— Хадзем, час прыспеў, — сказаў д'ябал.

— Зараз пойдзем, але нашто такі спех? — прыспакоіў яго каваль. — Сядзь вунь у крэсла, а я скажу жонцы, каб прынесла чарку ды шкварку.

Д'ябал, не прадчуваючы бяды, узлез у крэсла, а каваль выйшаў. Але неўзабаве ён вярнуўся, трымаючы ў руцэ молат. Як трэсне ён д'ябла ды як закрычыць:

— Вось табе чарка!

А пасля:

— А вось і шкварка! — і лясь яго штомоцы!

Д'ябал заскавытаў, заенчыў ды пачаў благаць, каб каваль больш не біў яго, але той не спыняўся, пакуль д'ябал не зрабіў яму новай прапановы:

— Давай працягнем дамову яшчэ на дзесяць гадоў, толькі адпусці!

Кавалю такая прапанова спадабалася, і вось д'ябал, увесь пабіты і ў сіняках, пакульгаў прэч.

А каваль адно сабе цешыўся ды прыгаворваў:

— Гэта я добра зрабіў!

*

Дзесяць гадоў яшчэ жыў каваль не знаючы гора. Але аднойчы да яго ў дзверы пагрукаліся дзесяць чарцянятаў. Гэта д'ябал паслаў іх сюды, бо яшчэ свежыя былі ў яго памяці чарка ды шкварка, і сам ён прыйсці да каваля пабаяўся. Чарцяняты перадалі вітанні ад свайго гаспадара і запрасілі каваля ісці з імі.

— Добра, вось зараз і пойдзем, — сказаў той. — Я толькі апрануся ў святочнае, а вы пакуль можаце палазіць па грушы.

Чарцяняты былі не супраць. Яны з боем і крыкамі наўзахваткі рынуліся да дрэва, але толькі яны на яго залезлі, як з хаты выйшаў каваль з чаляднікамі — і ну ўсе разам пуляць у іх камянямі ды жалязякамі!

— Ай! Ай! — закрычалі чарцяняты. — Адпусці нас!

— Не ўжо, сядзіце! Мне маіх груш не шкада! — крыкнуў ён і зноў пачаў кідацца.

— Ай! Ай! Ай! — заенчылі чарцяняты. — Кавалю, даражэнькі, адпусці нас, а мы табе яшчэ дзесяць гадоў дамо!

— Вось гэта размова, — сказаў каваль і дазволіў ім спусціцца на дол. Чарцяняты прыпусцілі прэч, а каваль яшчэ доўга цешыўся прыемнымі, бестурботнымі днямі, што змянялі адзін другі. Так мінула дзесяць гадоў, і вось сам д'ябал прыкульгаў да яго з цэлым войскам чарцянятаў.

— Цяпер я ўжо цябе забяру, — сказаў ён кавалю. — І гэтым разам я твае выбрыкі цярпець не стану!

— Добра-добра, я ўжо амаль гатовы, — адказаў каваль. — Але па-мойму, ты ўсё ж той яшчэ хвалько. Бадай, не такі ўжо ты і магутны!

— Гэта я не магутны? — абурыўся д'ябал і так скрывіўся ад злосці, што балюча было на яго глядзець.

Тады каваль дастаў сваю старую кайстру і сказаў:

— Дык пакажы тады сваё ўмельства! Ці ўлезеш сюды з усёй сваёй світай?

— Ды як раз плюнуць! — сказаў д'ябал і крыкнуў сваім чарцянятам, каб лезлі ў кайстру. Тыя, штурхаючыся, узрушана ўскочылі ў кайстру, а следам улез і сам д'ябал.

— Што, бачыш, змог жа я, змог? — пераможна крыкнуў д'ябал і хацеў быў вылезці назад.

— Бачу-бачу, — адказаў каваль, перавязваючы кайстру матузком.

Хутка д'яблу і яго памочнікам пачало прыпякаць, а абяцалася быць і яшчэ гарачэй. Гэта каваль паклаў кайстру на кавадла і загадаў сваім найдужэйшым чаляднікам біць па ёй молатам. Як пачалі тыя лупіць штомоцы, дык хутка чарцяняты парабіліся пляскатымі, як манеткі ў пяцьдзясят эрэ, а д'ябал — як аднакронаўка: усё ж ён быў самы большы.

— Ай! Ай! — чулася з кайстры, але чаляднікі працягвалі малаціць.

— Ай! Ай! Ай! Адпусці нас, і я вярну табе дамову! — зароў д'ябал.

Тады каваль сказаў чаляднікам спыніцца і выпусціў усіх чарцей. Д'ябал шпурнуў кавалю дамову і як падсмалены кінуўся прэч разам са сваёй світай — толькі дрэвы з кустамі на ўзбочынах захісталіся.

А каваль яшчэ доўга жыў у прыемным гультайстве, пакуль не нажыўся ўволю — а як нажыўся, дык памёр. Рашыў ён тады, што найлепш яму будзе падацца на неба. Пагрукаўся ён у райскую браму, а там святы Пётра адчыняе. Адразу пазнаў ён свайго каваля ды прашыпеў:

— Што табе тут?

— Увайсці хачу, — адказаў каваль.

— Ды йдзі ты ў пекла! — крыкнуў святы Пётра і зачыніў перад ім браму.

Крыўдна стала кавалю, што яго вось так пагналі з раю, ды яшчэ хто й пагнаў! — той, каму ён калісьці свой ложак саступіў. Але не заставалася яму нічога іншага, як пагрукацца да д'ябла, і калі каваль замалаціў у браму пекла, у ёй адчынілася маленькае акенца і адтуль высунулася чарцяня. Яму было цікава, хто ж там так моцна грукае.

— Адчыняй браму, гэта я! — закрычаў каваль.

Але чарцяня, убачыўшы, хто прыйшоў, так ляснула акенцам, што ўсё пекла страсянулася.

— Гэта каваль, гэта каваль! — крычала малое, і астатнія чарцяняты падхаплівалі яго.

Тады сам д'ябал выбег да іх і закрычаў:

— Хутчэй! Хутчэй! Па сем двайных завалаў на браму, бо калі каваль сюды трапіць, ён нам усё пекла разнясе!

# Шэглінгцы

## (Вясковая гісторыя з хэрада Паўночнага Осбу, Швецыя)

Няма ні для кога таямніцы, што жыхары Шэглінге (прыходзе ў лэне Мальмёхус) — людзі, хоць яны і жывуць на раўніне; але ж не ўсім вядома, як яны навучыліся бачыць вачыма.

Доўгі час усе шэглінцы думалі, што бачаць яны праз рот. Сумнявацца ў гэтым не выпадае, бо нездарма ж ходзіць у нас прымаўка, якая кажа: «Вырачыўся, разявіўся ды ротам глядзіць, як той шэглінгец».

Дык вось, здарылася аднойчы так, што рухаўся праз Шэглінге вялікі вясельны паязд, і ўсе шэглінгцы павыбеглі на гэта паглядзець.

А двое з іх былі ў гумне — малацілі, і як білі яны больш па голай падлозе, а не па збожжы, то



ўдары цапоў утваралі страшэнны грукат, так што не чулі тыя работнікі ні музыкі, нічога, аж пакуль не паказалася нявесціна сукенка перад саменькім гумном. Тут ужо яны заварушыліся — анягож! У глінабітнай сцяне гумна была дзірка, і адзін з шэглінцаў прыклаўся да яе разяўленым ротам.

— Нічагусенькі не бачу, — паведаміў ён.

— Пасунься! — крыкнуў другі. — Дай мне паглядзець!

Але гэты другі шэглінгец быў нізкаватага росту, таму ён паставіў адзін драўляны чаравік на другі ды ўзлез на іх, каб таксама паразяўляцца ў дзірку. Але толькі ён прыклаўся вуснамі да сцяны, як падвярнуў нагу! Калодкі выслізнулі з-пад ног, і ён пахіснуўся, так што адно яго вока апынулася насупроць дзіркі.

— Ну нішто ж сабе, Епа! — ускрыкнуў ён. — Я бачу вокам, а зусім не ротам — вось дык цуд!

Другі ж, пачуўшы гэта, таксама захацеў праверыць, ці вачыма ён бачыць, а калі ён у гэтым запэўніўся, то і астатнія кінуліся спрабаваць — і так урэшце ўсе шэглінгцы навучыліся бачыць вачыма. Але так ужо яны створаныя, што заўжды глядзяць, вылупіўшы вочы ды разявіўшы рот, і наўрад ці ад гэтага калісьці адвучацца. Па прыкмеце гэтай іх лёгка можна пазнаць.

**Пераклала са шведскай мовы Алеся Башарымава**

# Купала Янка і лаянка

Міхась СКОБЛА

**Праз якія выпрабаванні павінен прайсці пісьменнік, каб канчаткова і незваротна вытрымаць іспыт перад вечнасцю?**

Праз агонь, ваду і медныя трубы — адкажаце вы. І што тут дадаць, калі ў гэтай біблейскай трыядзе насамрэч зашыфравана ўсё тое, што звычайна чакае творцу на калдобістай жыццёвай дарозе. З трох пералічаных выпрабаванняў найцяжэйшым лічацца медныя трубы — той хвалебны фіміям, ад якога шмат у каго закружылася галава, а сёй-той учадзеў ды перастаў адэкватна ўспрымаць свет.

Але ёсць яшчэ адно выпрабаванне, дадатковае, вытрымаць якое пісьменніку таксама няпроста. А магчыма, яно і найскладанейшае, бо — пасмяротнае. Праходзячы першыя тры, пісьменнік сам ці праз кагосьці можа паўплываць на сітуацыю, а вось пераадоленне чацвёртага ад яго цалкам не залежыць. Чацвёртае выпрабаванне — гэта поўны збор твораў. Калі ўдумацца, то ў гэтым ёсць нешта помслівае. Гэткая сабе помста няўдзячных нашчадкаў...

У гісторыі беларускай літаратуры пад падобную экзекуцыю падпалі пакуль толькі чацвёра: Максім Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас і Максім Танк. Поўныя зборы твораў першых двух, куды ўвайшлі нават дарчыя надпісы на фотаздымках, ужо выйшлі, для двух апошніх гэты малапрыемны працэс яшчэ не закончыўся. Поўнымі зборамі твораў ганаруюцца (караюцца?) толькі вялікія. А з вялікіх і спыт асаблівы. Вось і шаноўны Ян Максімюк у сваім артыкуле «Цёмная камора белліту» на сайце Радыё Свабода вырашыў зрэвізаваць Поўны збор твораў Янкі Купалы ў 10 кнігах. І выбраў для рэвізіі самы змрочны пяты том, які склалі вершы і паэмы паэта за дванаццаць апошніх гадоў — з 1930 па 1942 год. Менавіта ў ім змешчаныя, па вызначэнні Максімюка, «драўляныя вершы пра хлопчыкаў і лётчыкаў ды тапельцаў у Віслe». А таксама паэма «Над ракой Арэсай», названая маім апанентам «гідотай». Ян Максімюк вывучаў гэты твор у вясковай школе на Падляшшы і да гэтай пары гідзіцца, я — у Дзяржынскай СШ на Гарадзеншчыне, але ні тады, ні цяпер не гіджуся. «Крумкач глюгу звесіў / над згнілай калодай, / прысніла Палессе / мінулыя годы», — з чаго ж тут гідзіцца?

Майго дзеда-хутаранца бізунамі (літаральна!) заганялі ў калгас, праўда, прапаноўвалі і альтэрнатыву — Калыму. Таму змест паэмы да мяне вельмі добра даходзіў, як і змест «Людзей на балоце» Івана Мележа. Ці існавалі калгасы на замежным Падляшшы? Ян Максімюк прызнаецца, што — не, і падзеі, апісаныя ў паэме «Над ракой Арэсай», успрымаліся ім не дужа ўцямна, як рэаліі жыцця на Марсе. Дык адкуль гэткая катэгарычнасць («гідота»!) адносна «іншапланетных» рэалій?



**Янка Купала таксама пабудаваў для нас каўчэг. Разам з Якубам Коласам, Максімам Багдановічам, Алесем Гаруном, Максімам Гарэцкім. Каўчэг новай беларускай літаратуры**

Я таксама не лічу згаданую паэму шэдэўрам. «Над ракой Арэсай» я б ніколі не ўключыў у выбранае Купалы, ёй месца — толькі ў ПЗТ. Але савецкая сістэма адукацыі акурат і базавалася на падобных творах. Яна мела на мэце дыскрэдытаваць нацыянальную літаратуру, каб вучні як мага хутчэй адчулі сябе часткай адзінай гістарычнай супольнасці — савецкага народу. Але ці ж варта твор Купалы, хай сабе і няўдалы, называць гідотай? Увогуле мяне здзіўляе, з якой лёгкасцю і безапеляцыйнасцю Ян Максімюк выносіць свае прысуды. Ну, напрыклад: «Купалу зламалі не толькі як паэта і як сімвал нацыянальнага духу, але і зрабілі апалагетам сістэмы, якая ў сваіх метастазах трывае ў Беларусі і па сённяшні дзень».

Па-першае, некарэктна параўноўваць сталінізм і лукашызм. Гэта ўсё ж не з аднаго поля ягады. Па-другое, калі б Купала быў апалагетам сталінскай сістэмы, яго не цягалі б на начныя допыты ў ГПУ, ён не рабіў бы сабе харакіры, а яго кнігу «Творы» ў 1930-м не парэзалі б на макулатуру. Урэшце, у 1942 годзе таварыш Айзік Кучар не напісаў бы санкцыяваны зверху хлусліві данос у адпаведныя інстанцыі, што фашысты ў акупаваным Менску назвалі вуліцу імем Купалы, пасля чаго паэта скінулі ў лесвічны пралёт гасцініцы «Масква» (была ж прычына!). Са сваімі апалагетамі сістэма так не абыходзілася.

Прызнаюся, мяне проста шакуюць сваёй паказной бравадай «парады» Яна Максімюка Купалу: мог жа дзеля ўратавання свайго імя падацца ў эміграцыю, «мог сказаць бальшавікам «не» і ўпасці ў дол у Курапатах», «мог бы напісаць нешта, што праслізнула б праз сетку бальшавіцкай цэнзуры і засталося б нам у спадчыну як сімвал нескаронасці духу перад дулам пісталета».

А хіба перадсмяротны ліст Купалы не ёсць гэтае «нешта»? «Уміраю, прымаючы тое, што лепей смерць фізічная, чымся незаслужаная смерць палітычная. Відаць, такая доля паэтаў. Павесіўся Ясенін, застрэліўся Маякоўскі, ну і мне туды за імі дарога...» Ці многа ў сусветнай літаратуры падобных дакументаў? Якіх жа яшчэ «сімвалаў нескаронасці» нам трэба?

У свой час, агледзеўшы экспазіцыю Купалаўскага музея, у сутнасці сваёй — ардэнаносна-савецкую, я напісаў верш, у якім былі такія радкі:

*Вось Купалу машына вязе,*
*Вось Купала заняты гаворкаю.*
*Вось Купала стаіць у чарзе —*
*Не па хлеб, па аўтограф*
*да Горкага.*
*Вось Купала ў прэзідыўме зноў ж*
*Разам з іншымі дбае аб міры...*
*Пакладзіце ля ордэна нож,*
*Што зрабіў песняру харакіры!*

Нож поруч з ордэнам у экспазіцыю і да сёння не паклалі. Як не паклалі і перадсмяротны ліст паэта на імя старшыні ЦВК Аляксандра Чарвякова. А каб паклалі? Як гэтыя экспанаты ўжываліся б з ордэнам Леніна? Нешта давялося б прыбраць. Я прыбраў бы ордэн...

Ці выратавала б Купалу эміграцыя? Сумняваюся. Вось жа Ларысу Геніюш і эміграцыя не ўратавала. З другога боку, як тая эміграцыя мусіла выглядаць? Купала на ўласным «шаўрале» пад'язджае да «Негарэльскае аркі», яму казыраюць памежнікі, а начальнік пагранзаставы становіцца на зважай? Такую карціну ўявіць немагчыма, можна толькі напісаць — «маслом». Пасмешна. Бо іншым ніяк не атрымліваецца.

Што да знакамітага «шаўрале», якое часам таксама выступае ў якасці аргументу... Аднойчы ў Ляўках, пабачыўшы лецішча Купалы і гараж з тым самым аўто, я пацікавіўся ў музейнага наглядчыка: а што гэта за дамок проста перад ганкам паэта? А ў ім жыў Купалаў шафёр — патлумачыў наглядчык...

А цяпер давайце пачытаем ліст Купалы да сябра Б. Емяльянава, пісаны 8 траўня 1942 года ў Пячышчах пад Казанню: «Шафёр Яртымік у мяне больш не працуе, пачаў хаміць — ажно да асабістых абразаў». Ці магчыма ўявіць сабе звычайнага шафёра, які абражае таго, каго возіць — па даручэнні ўраду? Немагчыма. Значыць, шафёр, які меў дамок-вартоўню пры паэтавым лецішчы, быў не зусім звычайны. Да забойства Купалы заставалася менш за два месяцы, пра тое таварыш Яртымік ведаў, вось і «адвязаўся». Старэйшыя пісьменнікі прыгадвалі: калі той шафёр памёр, дык хавалі яго з ротай ганаровай варты. Купалу так не хавалі. Так што тое разрэкламаванае «шаўрале» было насамрэч «чорным воранам», які і прывёз урэшце Купалу да пагібелі.

Аўто, дарэчы, нядаўна выстаўлялі пры музеі на ўсенародны паказ. Цэлы натоўп вакол сабраўся, карэспандэнту БТ было дазволена залезці ў кабіну. Вось на што агідна было глядзець. Якая там рака Арэса... «А па рэчцы па Арэсе / бегае маторка, / стары човен, як карыта, / пазірае горка». Эх, каб сеў Купала ў тую маторку, ды па Арэсе — у Прыпяць, а па Прыпяці — у Буг, а па Бугу — у Віслу, па якой плаваў тапелец, а па Віслe — яшчэ куды далей і далей... Наталля Арсеннева заплыла ажно за Атлантычны акіян, у ЗША. І што — уратавала імя? «Люблю цябе, Сталін, і я невымоўна», — гучыць аднекуль, мабыць, з «цёмнай каморы белліту», яе даваенны верш.

А следам, з гэткай жа цёмнай каморы, гучаць радкі Ганны Ахматавай: «И благодарного народа / Вождь слышит голос: «Мы пришли / сказать, — где Сталин, там свобода, / мир и величие земли».

А следам «цёмная камора» азываецца голасам Восіпа Мандэльштама: «И на земле, что избежит тленья, / будет будить разум и жизнь Сталин».

А следам ужо чуваць цэлы хор прасталінскай паэтычнай патэтыкі: Мікалай Забалоцкі, Барыс Пастарнак, Яраслаў Сайфэрт, Пабла Нэруда... Ахматава, каб ураваць з Гулага сына, напісала і надрукавала цэлы зборнік прасавецкіх вершаў з вельмі вымоўнай назвай «Слава миру». Народнаму паэту Беларусі Янку Купалу таксама было што і каго ратаваць, і ён выдатна ведаў, чым можа абярнуцца ягонае непадпарадкаванне, ягоны бунт.

Чаму ж сёння ў Расеі не пабіваюць камянямі тую ж Ахматаву, а захапляюцца яе «Рэквіемам»? Чаму там не прывязваюць да ганебнага слупа Мандэльштама, Забалоцкага і Пастарнака? І чаму ў Беларусі стала ледзь не модным звінавачваць Купалу ў «здрадзе літаратуры», называць яго Каянам Лупакам ды папікаць савецкім ордэнам, лецішчам і персанальным «шаўрале»?

«Як чалавека, Купалу можна і трэба апраўдваць. Як прароку і паэту, яму няма даравання», — з уласцівай яму катэгарычнасцю заяўляе Ян Максімюк. Рыхтык пракурор на судзе. Усім крытыкам з пракурорскімі замашкамі я мог бы назваць дзясятак-другі геніяльных твораў Купалы, пачынаючы з паэмы «Курган», якой адной хопіць для любога апраўдання, але замест гэтага нагадаю адну старазапаветную прыпавесць. Хам, сын Ноя, пабачыў на спячым пасля выпіўкі бацьку непрыкрыты сорам і пачаў пад'юджваць братоў Сіма і Яфета на здзек са старога. Але тыя далікатна паправілі бацькава адзенне і прысаромілі Хама. У свой час гэтую прыпавесць трапна пракаментаваў Антон Паўлавіч Чэхаў: «Хам заўважыў толькі, што бацька ягоны — п'яніца, і зусім забыўся пра тое, што ён пабудаваў каўчэг і выратаваў свет».

Янка Купала таксама пабудаваў для нас каўчэг. Разам з Якубам Коласам, Максімам Багдановічам, Алесем Гаруном, Максімам Гарэцкім. Каўчэг новай беларускай літаратуры. Дык ці выпадае нам сёння прыпадабняцца да таго Хама, якому так хацелася паздзеквацца з бацькі?

Пра горы маркуюць па вяршынях. А пра вялікіх пісьменнікаў — па іхніх шэдэўральных творах. Не варта залазіць у «цёмныя каморы» поўных збораў твораў і выцягваць адтуль на белы свет нештачка такое, што выклікае ў сённяшніх літаратурных гурманаў эстэтычнае ці любое іншае несмакоцце. Тым болей, не трэба трагедыю ператвараць у фарс.

І апошняе. Янка Купала — псеўданім Яна Луцэвіча, сына Дамініка. Можна сказаць Ян Луцэвіч, а можна — Луцэвіч Ян, ад гэтага нічога не зменіцца. Але паводле гетэранімічных нормаў і здаровага сэнсу нельга перастаўляць месцамі склады і словы ў псеўданіме. Бо калі мы замест звыклага Янка Купала гаворым Купала Янка, чуецца — лаянка.

Давайце не будзем лаяцца.

**Міхась Скобла**

**Больш эсэ аўтара чытайце ў №76 часопіса «Дзеяслоў».**

# Глабальная роля пасрэднасці

Крысціна БАНДУРЫНА

**У 1961 — 1962 гадах у Іерусаліме прайшоў судовы працэс над оберштабманфюрэрам (падпалкоўнікам) СС Адольфам Эйхманам. Гэта была адна з тых гучных рэзанансных спраў, якія суправаджаюць гісторыю чалавецтва ўсю другую палову ХХ стагоддзя.**

Эйхману А. інкрымініравалі злачынствы супраць чалавецтва, злачынствы супраць яўрэяў, удзел у злачынных арганізацыях (СС, СД і гестапа), а таксама яшчэ 12 пунктаў судовага абвінавачвання. Менавіта гэты чалавек узначальваў той аддзел СС, які займаўся «канчатковым рашэннем» яўрэйскага пытання. Падчас працы каманды Эйхмана ў канцэнтрацыйных лагерах і камерах смерці было знішчана звыш 4 мільёнаў яўрэяў. Судовы працэс над Эйхманам асвятляла журналістка амерыканскай газеты «New-Yorker» Ханна Арэндт. Вынікі сваёй працы яна надрукавала ў 1963 годзе ў кнізе «Банальнасць зла. Эйхман у Іерусаліме».

Прачытанне гэтай кнігі навяло мяне на даволі неадназначныя, часам банальныя паралелі з нашай гісторыі. Адразу ўзгадалася наладжаная праца органаў НКВД па вынішчэнні людзей пад рознымі прычынамі, тут жа прыйшлі да думкі тыя часы, калі амерыканцы вынішчалі спачатку індзейцаў, а потым і неграў на сваёй тэрыторыі; часы, калі былі масавыя ганенні прадстаўнікоў розных канфесій з тэрыторый, падуладных каталікам, праваслаўным ці мусульманам. Але не трэба так далёка хадзіць па прыклады: аналогіі генацыду знайшліся і ў цяперашнім часе.

Ханна Арэндт падышла да напісання кнігі вельмі прафесійна, што, канечне, трэба было б паставіць у піку некаторым сучасным журналістам. Для таго, каб асвятліць сутнасць здзейсненага Эйхманам, яна апісала яго асобу з самага маленства: характар, паводзіны, звычкі і толькі потым — кар'еру ў СС. Гэта дало падставу для пэўных высноў, якія асабіста мяне не маглі не ўразіць. У маёй галаве стварыўся партрэт ачалавечанай малпы з гранатай. Малпы, якая загубіла жыцці каля 4 мільёнаў бязвінных людзей.

Адольф Эйхман вучыўся дрэнна, не мог атрымаць нават прымітыўную сярэднюю адукацыю, што вельмі хвалявала яго бацьку, які хацеў, каб сын «вырас чалавекам». Эйхман не мог затрымацца ні на адной працы, нават там, дзе ніякіх разумовых здольнасцей не патрабавалася. Пры гэтым, ён быў амбіцыёзным маладым чалавекам. Таму лепшымі гадамі свайго жыцця лічыў тыя, падчас якіх ён меў магчымасць кіраваць людзьмі і выслужвацца перад начальствам. Можа, менавіта магчымасць зрабіць кар'еру пры Гітлеры і адыграла значную ролю ў выніках Другой сусветнай вайны. Ва ўсялякім выпадку, калі перанесці мадэль асобы аднаго падпалкоўніка на ўвесь Трэці Рэйх, можна прыйсці да зусім несуцяшальных высноў: тыя людзі, якія ў звычайным жыцці не заслугоўваюць ніякай увагі, як асобы пасрэдныя, у часы ваенных дзеянняў з вялікай ахвотай выканаюць самы жудасны загад «зверху», абы толькі іх заўважылі і ацанілі.

Як пісала Ханна Арэндт пра Адольфа Эйхмана, «заява аб адказнасці за гібель пяці мільёнаў яўрэяў — а прыкладна столькі і было знішчана аб'яднанымі намаганнямі ўсіх нацысцкіх устаноў і афіцыйных асобаў — відавочнае перабольшванне, аднак ён паўтараў гэтую фатальную сентэнцыю зноў і зноў. Людзей вакол, нават тых, хто слухаў яго з ахвотай, ужо ад яе проста ванітавала, а ён усё паўтараў — нават праз дванаццаць гадоў, нават у Аргенціне, паколькі гэтае сцверджанне «надавала яму вагі ва ўласных вачах»».

Ён быў цалкам падуладны агітацыі і партыйным лозунгам. Як і з усялякім звычайным чалавекам, прапаганда той палітычнай сілы, якая магла даць яму ўладу кіраваць людзьмі, рабіла неверагоднае з Эйхманам. Заключэнне некалькіх дзясяткаў медыкаў, якія мелі з ім справу, гаварыла аб цвярозай ацэнцы гэтым чалавекам сваіх дзеянняў. Ніякіх псіхічных захворванняў у яго не было.

Але многія, хто супрацоўнічаў з Эйхманам у тыя часы, калі ён узначальваў аддзел па яўрэйскім пытанні, адзначалі яго ветлівасць і прынцыповасць у дачыненні да падначаленых. Яго намаганнямі ў той час, калі ўжо «канчатковае рашэнне» было відавочным, цэлыя эшалоны з яўрэямі цягнуліся ў найбольш бяспечныя, як яму здавалася, канцлагеры. Магчыма, гэта быў падман, суцяшэнне сумлення.

Увесь нямецкі народ быў гатовы прыняць лёс, які яго фюрэр «у выпадку, калі вайна скончыцца нешчасліва, у вялікай літасці сваёй прыгатаваў для ўсіх немцаў — лёгкую смерць шляхам атручвання газам». Становішча цалкам задавальняла нямецкую нацыю: як яе кіраўніцтва, так і сам народ.

Можна, канечне, паспрачацца з гэтым: маўляў, была ж спроба перавароту, забойства Гітлера — значыць не ўсе такія памяркоўныя, як здавалася. Значыць, хацелася ж некаму жыць не па-гітлераўску! Ханна Арэндт на гэты конт піша наступнае: «Выпадкаў уцёкаў з шэрагаў кіруючай эліты, і ў прыватнасці з эліты СС, у пачатку, калі ў людзей яшчэ магло заставацца сумленне, амаль не назіралася — такое здаралася, толькі калі стала відавочным, што Германія вайну прайграе. Але гэтыя выпадкі ніколі не былі настолькі сур'ёзнымі, каб затармазіць саму машыну: яны мелі месца не таму, што ў кагосьці раптам прачнулася сумленне і міласэрнасць, а з чыстай карупцыі, проста таму, што хтосьці вырашыў назапасіць на выпадак чорных дзён грошай і выгадных сувязяў».



**Прага да гвалту, крыві, забойстваў і несправядлівасці сядзіць глыбока ўнутры кожнага з нас. Магчыма, гэта проста спадчына з жывёльнага свету, яшчэ з першабытных часоў**

У выніку атрымліваецца, што падчас нестабільнасці, вайны ці перавароту ў краіне на паверхню вылазіць самае паскуднае — тое, што звычайна ляжыць на дне. І ад гэтых пачвараў сёння залежыць, ці будзеш ты жыць заўтра. Гэтае паскуднае падпарадкоўваецца прапанаванай яму ідэалогіі і на агульнай хвалі «ўзняцця з каленяў» робіць усё, што толькі лічыць справядлівым і законным. Усе астатнія ж не тое што не могуць — проста не хочуць падымаць галавы і пярэчыць злу. І гэта не проста нейкая спецыфічная якасць адной нацыі. Гэта ўласціва КОЖНАМУ народу. То бок мы не можам змагацца з тым, што самі стварылі, больш за тое — мы яшчэ і дапамагаем гэтаму развівацца.

Каб пацвердзіць гэты вынік, я звярнулася да кніг «Архіпелаг ГУЛаг» Аляксандра Салжаніцына і «У капцюрох ГПУ» Францішка Аляхновіча. Вось што піша пра гэта Салжаніцын: «...Не хапала нам любові да свабоды. А яшчэ, перш за ўсё, таго асэнсавання сапраўднага становішча. Мы страціліся ў адным нястрымным выбуху сямнаццатага года, а потым СПЯШАЛІСЯ скарыцца, З ЗАДАВАЛЬНЕННЕМ скараліся». І ніхто не думаў аб тым, што сістэме гвалту і забойстваў не трэба дапамагаць лягчэй і хутчэй зламаць чалавека ці забіць. Аляксандр Салжаніцын лічыў, што гэта ахоплены сацыялістычным экстазам народ ЗАСЛУЖЫЎ усё, што рабілася на працягу дзесяцігоддзяў камуністычнай улады.

Яшчэ адной адметнай уласцівасцю сістэмы гвалту ёсць з'яўленне вялізнай колькасці не толькі забойцаў (хай сабе і латэнтных), але і даносчыкаў і нагаворшчыкаў. І зноў усё самае подлае, непрыемнае аказваецца на паверхні — на чалавечым абліччы. У атмасферы татальнага страху рэзка раскрываецца сутнасць чалавека, усе яго невядомыя дагэтуль здольнасці.

Каралі ўсіх. Спачатку тых, для каго была нагода, потым — астатніх, без разбору. Ці было гэта больш гуманна, чым у нацыстаў-фашыстаў? Не думаю. Нават рыторыка была такая ж: «У артыкуле «Як арганізаваць спаборніцтва» (7 і 10 снежня 1918 г.) У. І. Ленін аб'явіў агульную адзіную мэту «ачысткі зямлі расейскай ад усялякіх шкодных насякомых»...«Не забытыя былі і патокі нацыянальныя. Увесь час ліўся ўзяты на гарачую галаву, з лясоў бітваў, паток бандэраўцаў. Адначасова атрымлівалі дзясяткі і пяцёркі лагераў і спасылак усе заходне-ўкраінскія сельскія жыхары, якія як-небудзь тычыліся партызанаў: хто пусціў іх пераначаваць, хто накарміў іх раз, хто не данёс пра іх».

Другі ўзгаданы мною аўтар, Францішак Аляхновіч, пісаў сваю кнігу як успаміны. У ёй не знойдзеш згадак пра 257 карэспандэнтаў, якія б далі матэрыял для напісання «У капцюрох ГПУ», як гэта было ў Аляксандра Салжаніцына. Але ад гэтага кніга нічога не страчвае. Не менш жудасныя факты пра працу савецкіх органаў бяспекі, пра канцэнтрацыйныя лагеры, здзекі, допыты, расстрэлы — Салжаніцын тады яшчэ гэтага не ведаў. І што самае цікавае, такі ж прысуд народу: «Адзін кідаецца на калены, скуголіць, хапае сваіх катаў за ногі: «Таварышы! Пачакайце! Яшчэ часінку!» і да г.п. Іншы із страшнымі праклёнамі, з вачыма, набраклымі крывёй, кідаецца на канвой, але хутка — пасля моцнага ўдару кулаком па галаве — цішэе. Яшчэ іншы галёкае, пяе распусныя песні, як быццам сваім крыкам хоча заглушыць у сабе страх сьмерці. Але бальшыня йдзе пакорна, як жывёла на бойню. Ногі ня слухаюцца, млеюць, чалавека цягнуць пад рукі, падганяюць ударамі ў сьпіну, каб не аставаўся, не затрымліваўся, не спыняў паходу сьмерці...».

Тых, хто хацеў жыць, нягледзячы ні на што, і ў Саветах аказалася вельмі шмат. Жыццё зараблялі любым коштам. Былі здраднікі, шпіёны, даносчыкі, перабежчыкі, каты, а былі і такія, што проста не мелі стрыжня ўнутры. «— Хто йдзе працаваць — бяры струмант і йдзі ўправа! Хто ня хоча — адступіся ўлева і... распранайся. З апушчанымі галовамі, ня важачыся глянуць у вочы, адзін па адным выходзілі з натоўпу палітычныя, бралі сякеры ды пілы й пераходзілі ўправа. Пагардліва скрывіўшы вусны, пазіралі на іх спадылба крыміналістыя, тым часам скідаючы зь сябе на сьнег курткі, порткі, шапкі, абутак, застаючыся ў вадным нацеліве». Любога чалавека сістэма магла зламаць, скруціць, выціснуць з яго ўсе сокі і кінуць паміраць у сваіх засценках. Разнастайныя спосабы ўздзеяння заўсёды давалі вынік. Прычым такі, што самы прынцыповы, самы чэсны і мужны грамадзянін сваёй краіны дзеля захавання ўласнага жыцця мог стаць жудасным нагаворшчыкам: «Аляхновіч узяў паслухмяна пяро ў рукі й пачаў: «Я знаў у Вільні Барыса Кавэрду як сымпатычнага...» Божа мой! Што я пішу! Старанна замазаў «сымпатычнага» й на гэтае месца напісаў: «недаразьвітага, дэгэнэратычнага тыпа...» Задумаўся». Даходзіла да таго, што ворагаў шукалі ва ўласнай кватэры, разводзячы назаўсёды па розныя бакі сябе і сваіх блізкіх — «здраднікаў Радзіме». Ці змянілася штосьці ў параўнанні з фашыстамі? Не. А ці ёсць змены ў параўнанні з сённяшнім днём? Наколькі сістэма кіруе людзьмі? Гэта жудасна, калі разумееш, што нічога не мяняецца ў гэтым свеце. І сапраўды — няма нічога новага пад поўняй.

Французскі філосаф і вядомы антраполаг Рэнэ Жырар у сваёй кнізе «Гвалт і свяшчэннае» сказаў так: «Ахвярапрынашэнне ўзмацняе адзінства нацыі». Наўрад ці я памылюся, калі скажу, што ў розныя часы палітыкі выкарыстоўвалі гэты тэзіс, каб схаваць розныя свае правіны і іх наступствы: голад, крызіс, беспрацоўе, а часам яшчэ і сыграць на любові народа да «хлеба і глядзішч», каб спатоліць прагу да ўлады і велічы.

Такім чынам грамадства ахвяруе частку сваіх меншасцяў, каб большасць была заспакоеная, унармаваная. Прага да гвалту, крыві, забойстваў і несправядлівасці сядзіць глыбока ўнутры кожнага з нас. Магчыма, гэта проста спадчына з жывёльнага свету, яшчэ з першабытных часоў. Адны з гэтай прагай змагаюцца і паспяхова перамагаюць, іншыя — выкарыстоўваюць на сваю карысць. Менавіта так грамадства падзяляецца на ахвяраў і забойцаў.

З той прычыны, што грамадствам у наш час вельмі лёгка маніпуляваць праз сродкі масавай інфармацыі і інтэрнэт, колькасць ахвяраў з кожным годам будзе не толькі не памяншацца, але нават і расці. Звязаць гэта можна яшчэ і з паступовай дэградацыяй насельніцтва, паслабленнем разумовых здольнасцяў канкрэтнага індывіда, павальным п'янствам. Тым, хто прагне ўлады, грошай, вялізных тэрыторый, хто хоча бачыць сваё імя на старонках газет, кніг і падручнікаў па гісторыі, зручная такая сітуацыя. Усё, што трэба — даць народу ідэю яго выбранасці, яго адметнасці сярод іншых, абраць у якасці ахвяры тых, хто гэтай ідэі нібыта пагражае, і атрымаецца тое самае, што было пры Гітлеры ў Германіі, што назіралася ў Савецкім Саюзе пры камуністах, што мы бачым цяпер пры...

Пасрэднасці робяць сваю справу.

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 5 (105) | 29 мая 2015 | № 21 (438) Новы Час




# Доўгае жыццё кніг з працягам

Павел АБРАМОВІЧ

**У чым прывабнасць кніжных трылогіяў альбо пенталогіяў? Ці можа лёгкае чытанне быць глыбокім? Як нас падманваюць сучасныя кніжныя «серыяльшчыкі»? Ці ёсць у Беларусі вартыя ўвагі кнігі з працягам?**

## Працяг будзе

Калі ў мяне пытаюцца, на якіх кнігах я гадаваўся, напаўжартліва адказваю: «На гісторыях з працягам».

Між іншым, згадваючы сваё маленства і юнацтва, пераконваюся, што многія з прачытаных мной літаратурна-мастацкіх твораў сапраўды адпавядаюць гэтаму вызначэнню: гісторыі з працягам. Адны з першых такіх кніг — казка «Можа, нуль не вінаваты?» Ірыны Такмаковай, надрукаваная ў часопісе «Мурзилка» (№№ 8–12 за 1983 год), і аповесць Стывена Кінга «Туман» — публікацыя па-руску з'явілася ў часопісе «Вокруг света» (№№ 4–7 за 1988 год); мая сям'я выпісвала абодва выданні.

Гэта былі гісторыі з працягам, так бы мовіць, па тэхнічных прычынах (як невыносна доўга было чакаць наступных нумароў!). Аднак большасць кніг, што пабачыла свет асобнымі выданнямі і ўваходзіла ў маё тагачаснае кола чытання, таксама мела працяг: «Чараўнік Смарагдавага горада» Аляксандра Волкава, «Мы з Санькай у тыле ворага» Івана Сяркова, «Аповесць пра Хаджу Насрэдына» Леаніда Салаўёва, «Тры мушкецёры» Аляксандра Дзюма, «Зверабой» Фенімора Купэра і інш.

З дзяцінства я ведаў такія словы, як «дылогія», «трылогія», «квадралогія», «пенталогія». Вялікія, цяжкія кнігі з працягам мяне ніколі не палохалі, бо амаль у кожнай з іх мяне чакалі захапляльныя відовішчы, і час за чытаннем ляцеў незаўважна. Але галоўнае, там былі энергічныя, моцныя духам героі, з якімі я сябе атаясамліваў, за якіх непакоіўся так, быццам яны мае крэўныя ці сябры. З гэтымі людзьмі не хацелася развітвацца — тое было балюча. Я памятаю дасюль, як скакаў да столі ў нашай цеснай двухпакаёўцы, калі ў рамане Жуля Верна «Таямнічая выспа» ў мяне адбылася нечаканая сустрэча з капітанам Нэма, у чыю смерць напрыканцы "Дваццаці тысяч льё пад вадой" я адмаўляўся верыць. Кнігі з неспадзяваным, прыхаваным працягам я люблю больш за ўсё.

## Чытанне без прымусу

Таленавітыя гісторыі з працягам — уадначас лёгкае і глыбокае чытанне. Калі ў 1726 годзе ў Англіі выйшлі першыя два тамы «Падарожжаў Гулівера», людзі прыйшлі ў такое захапленне, быццам паспрабавалі новых наркотык, і няважна, хто яго зрабіў (сапраўднае імя аўтара на вокладцы пазначана не было), і няважна, што кнігі гэтыя спаскудзілі цэнзары — цікавую гісторыю не разбіць, не спыніць, не стрымаць. Літаральна за некалькі месяцаў два тамы «Падарожжаў Гулівера» былі перавыдадзены тройчы, хутка з'явіліся пераклады на іншыя мовы. Праз год Джонатан Свіфт выдаў яшчэ два тамы — чытачы пайшлі ў скокі.

Сам аўтар усведамляў, што яго раманы — не проста захапляльнае чытво на адзін літаратурны сезон, а скарбонка з падвойным дном. «Прыхільнікі Гулівера, якіх у нас цяжка падлічыць, сцвярджаюць, што ягоная кніга пражыве столькі ж, колькі наша мова, — пісаў замежнаму перакладчыку сваіх кніг Свіфт, — бо яе каштоўнасць не залежыць ад звычак мыслення і маўлення, а стаіць у шэрагу назіранняў над спракаветнай недасканаласцю, безразважнасцю і распустаю роду чалавечага».

Няма сумненняў, што Свіфту зайздросціў Даніэль Дэфо, праклінаючы сваю неабачлівасць, хітраватую мудрагелістасць. Працяг ягонай гісторыі пра Рабінзона — «Далейшыя прыгоды Рабінзона Круза» і «Сур'ёзныя развагі Рабінзона Круза» — поспеху не мелі. А ўсё таму, што нельга падманваць чытача! Да прыкладу, трэцяя кніга трылогіі ўяўляла сабой зборнік эсэ на тэмы маралі — імя Рабінзона Круза ў назве было выкарыстана аўтарам і яго выдаўцом, каб прыцягнуць увагу да кнігі.

Відавочна, высокая мараль не выратуе твор, разлічаны на масавага чытача, калі ў ім няма лёгкасці, забаўляльнасці. І зусім бяда, калі, працягваючы захапляльную гісторыю, аўтар парушыць прапорцыі мастацкіх інгрыдыентаў альбо выдаліць з кнігі галоўнага героя, як зрабіў гэта Дэфо.

## Хітрыкі новых аўтараў

Азірніцеся: эпоха гісторыяў з працягам доўжыцца. І некаторыя з гэтых твораў, як і «Падарожжа Гулівера», ператварыліся ўжо ў класіку. Напрыклад, «Хобіт» Джона Р. Р. Толкіна і працяг гэтай аповесці — «Уладар пярсцёнкаў» (розныя выдавецтвы гэты раман выдавалі ў адным, двух, трох, шасці ці сямі тамах). Дарэчы, колькі шкадаванняў, чытацкіх слёз дасюль ліецца з-за таго, што «Сільмарыліён» Толкіна — усяго адна кніга, а не пяць ці дзесяць!

Для асобных аўтараў гісторыя з працягам, распачатая імі аднойчы, ператвараецца ў справу жыцця. Так, Роберт Джордан дзесяцігоддзямі працаваў над велічнай фэнтэзійнай эпапеяй «Кола Часу». На вялікі жаль, стварыўшы 11 тамоў, ён памёр, аповед быў перарваны на самым цікавым месцы. Цяпер вось увесь свет непакоіцца, ці паспее скончыць сваю эпапею «Песні Ільда і Полымя» 66-гадовы Джордж Р. Р. Марцін — дзве кнігі яму засталося...

> З дзяцінства я ведаў такія словы, як «дылогія», «трылогія», «квадралогія», «пенталогія». Вялікія, цяжкія кнігі з працягам мяне ніколі не палохалі, бо амаль у кожнай з іх мяне чакалі захапляльныя відовішчы, і час за чытаннем ляцеў незаўважна. Але галоўнае, там былі энергічныя, моцныя духам героі, з якімі я сябе атаясамліваў, за якіх непакоіўся так, быццам яны мае крэўныя ці сябры. З гэтымі людзьмі не хацелася развітвацца — тое было балюча

У літаратуры, як і ў іншых сферах дзейнасці чалавека, усё трымаецца на добрасумленнасці, прафесіяналізме. І калі адны літаратары-апавядальнікі ўкладаюць усю душу і майстэрства ў сваю працу, другія водзяць чытачоў за нос, забабіўшы іх у доўгае падарожжа па сваіх кнігах. Так, некаторыя сучасныя расійскія пісьменнікі, як Нік Перумаў ці Вера Камша, пішуць бясконцыя фэнтэзійныя серыялы, якім канца-краю не бачна. Пры гэтым частка чытачоў ужо даўно зразумела схему падману.

Спачатку гэтыя чаляднікі вялікіх літаратурных майстроў, прыкладаючы ўсе сілы, ствараюць першую кнігу з сімпатычнымі героямі і захапляльнымі сюжэтнымі лініямі, досыць унікальным светам. Гісторыя знарок застаецца няскончанай, а потым раз у год выдаюцца яе працягі, значна слабейшыя за першую частку. Графаманы ўжо не напружваюцца, бо гэтыя камерцыйныя праекты разлічаны на тое, што чытачу будзе больш-менш цікава даслухаць гісторыю да канца. І нічога страшэннага, што другая ці трэцяя, ці чацвёртая кніга цыкла не атрымаліся. Магчыма, у анансаванай выдавецтвамі пятай, шостай, сёмай кнізе эпапеі аўтар адолее мастацкую стыхію, скіруе рух кніг ў патрэбны бок, і гэтак любыя сэрцу героі пачнуць дзейнічаць больш асэнсавана, а не бадзяцца ў тэксце як сляпыя ці вар'яты. Дарэмныя спадзевы! Спрытнюгі-пісьменнікі нават два, тры, чатыры цыклы могуць паралельна ствараць, пускаючы пыл у вочы. Гэта тэндэнцыя назіраецца ва ўсім свеце.

І ў савецкай беларускай літаратуры існаваў канвеер па вытворчасці гісторыяў з працягам — ён быў неабходны для штогадовага ўмацавання ідэалогіі, ну і прыбыткі, зразумела, даваў някепскія. Толькі персанажы змяніліся: цяпер у апупеях жывуць эльфійскія прыгажуні і мужныя ваяры ў белых замках, а тады — працавітыя калгасніцы і пахмурыя падпольшчыкі, партызаны сярод сосен. А так скрозь адны і тыя ж легенды, прынцыпы «мыльных» серыялаў.

Мастацкі дар быў і застаецца штучным таварам. Такіх таленавітых апавядальнікаў доўгіх гісторыяў, як Толкін альбо ягоны сябра-паплечнік Клайв Стэйплз Льюіс, аўтар сямікніжжа «Хронікі Нарніі», у сусветнай літаратуры не вельмі шмат. Да таго ж сцяжына гісторыяў з працягам іншым разам ёсць вялікай таямніцаю для самога пісьменніка-картографа...

## Спыненне часу

Багацце доўгіх гісторыяў — героі, здольныя выклікаць сімпатыю, а сакрэт поспеху — неверагодныя прыгоды/падарожжы, няспынная дынаміка. Але галоўнае, каб прыгожыя рознакаляровыя шкельцы складаліся ў цэласную мазаіку, каб лініі, узоры набывалі сэнс, прапускалі святло.

На жаль, у гісторыі найновай беларускай літаратуры ёсць пакуль адзін чалавек, які ведае гэта пэўна — Людміла Рублеўская, аўтар трылогіі пра Пранціша Вырвіча, шкаляра менскага езуіцкага калегіюма, і ягонага сябрука Баўтрамея Лёдніка, полацкага доктара-алхіміка. Кнігі трылогіі выйшлі адна за адной з мінімальным перапынкам (2012–2014).

Можна шмат разважаць пра традыцыі і навацыі ў трылогіі Л. Рублеўскай, адметнай з пункту гледжання прыгодніцка-гістарычнага жанру; пра насычаны густ яе кактэйлю з нацыянальнай гісторыі і культуры, сакавітую мову рамана, карысць гэтай кнігі для маладых беларусаў; пра спробы даць найновай беларускай літаратуры не закамплексаваных персанажаў, якія панура месяць белы снег жоўтага колеру, а шляхетных, упэўненых у сабе герояў.

Але галоўнае, што вось ёсць ты — бестурботны, поўны кіпучай энергіі шкаляр, якому мора па калена, і паўсюль табе забавы дый прыгоды, і свабода як далягляд, і ўсе шляхі толькі твае. Аднак раптам ты ўжо маладзён, і хоць усё па-ранейшаму добра, моцныя рукі і светлая галава, і столькі яшчэ цікавага ў свеце, але ёсць ужо служба драгуна, нябачныя, але моцныя кайданкі абавязкаў, і першыя зморшчынкі захапілі куткі губ і вачэй...

Гісторыя з працягам — пераважна аповед пра плынь часу, незваротныя змены, якія адбываюцца звонку і ўнутры (выключэнне складаюць хіба што гісторыі Туве Янсан пра мумі-троляў). Л. Рублеўскую як літаратара і жанчыну хвалюе найперш гэта праблема. «Веселись, юноша, в юности твоей, и да вкушает сердце твое радости во дни юности твоей...» Вясёлкавая маладосць сплывае гэтак жа хутка, як і цэлая эпоха ў жыцці краіны. Што будзе далей — пра тое не трэба, тое вядома, і нездарма трылогія заканчваецца напярэдадні падзелу Рэчы Паспалітай, канца ліцвінскай Атлантыды.

«Аповесць ператварылася ў раман, а героі ўсё ніяк не жадалі са мной развітвацца», — шчыра прызнаецца Л. Рублеўская. Сапраўды, персанажы гісторыяў маюць вялікую ўладу над пісьменнікамі (так, Стывен Кінг праз 36 гадоў напісаў працяг свайго рамана «Ззянне» — пра цяпер ужо дарослага Дэні Торанса) і над чытачамі.

Аднак у гэтай уладзе няма дыктату, прымусу — тое вузы нашага братэрства з персанажамі; мы сапраўды патрэбныя адзін аднаму і шчыра хочам быць разам як мага больш. А значыць, кніжныя гісторыі з працягам, лёгкія і ўадначас глыбокія, будуць доўжыцца бясконца доўга і да іх будуць далучацца ўсё новыя і новыя аповеды, персанажы, чытачы. Кола часу робіць яшчэ адзін абарот — і глядзіце: Атос, Партос, Араміс і д'Артаньян зноў маладыя, а Наці Бампо па мянушцы «Зверабой» спешна рушыць на дапамогу Чынгачгуку...

# Не даць марсіянам захапіць Беларусь

Публікацыі чарговага (75) нумара часопіса «Дзеяслоў» адкрываюцца нізкай вершаў розных гадоў Леаніда Галубовіча «Граматыка жыцця». Што сказаць? Крытыкаваць уласныя вершы — значыць, крывіць душой, хваліць — тым болей... Як нешта нейтральнае і больш аб'ектыўнае, працытую адну страфу, якая, магчыма, прыцягне ўвагу да паэзіі ўвогуле і да паэтычных падборак выдання ў прыватнасці:

*Пагодзімся, паэзія —*
*душа чалавека.*
*Хіба скажаш,*
*што не любіш яе,*
*калі ты не бяздушны...*

Ці не з гэтай прычыны Валянціна Аксак выносіць на чытацкі суд сваю нізку вершаў пад назовам «Сінайскі кветнік». Адмысловая мова, пульсуючая думка, трапная метафорыка... Паэтка, на мой погляд, адна з лепшых у нас. Таленавіта адстароненая ад «хулы і ўхвалы». Самадастатковая і ссамотненая недзе там, на сваёй «скале любові»... Вершы ўражваюць, схіляюць да роздуму і душэўнай гармоніі. Бадай лепшае, што чытаў сёлета. Да прыкладу, верш «Пост»:

*Такое*
*задушнае*
*лета —*
*вячэраю*
*вадою.*

Вершы Аксаны Спрынчан, як заўсёды, — нечаканыя і філалагічна зашыфраваныя. Адмысловага чытача ім знайсці не так проста. Так, быць арыгінальнай (авангарднай), у лепшым выпадку, выбітной і не падобнай да іншых — адзін з важных напрамкаў мастацкай творчасці. Але пры гэтым сама паэзія павінна быць не задачай, а — загадкай (таямніцай), ці, кажучы стылем Хлебнікава, «азадачваць» чытача, прыводзіць яго ў стан эмацыйнай эйфарыі і мыслярскай эўрыкі...

Не скажу, што вершы Зміцера Захарэвіча мяне дужа ўразілі. Усё ж стыль і танальнасць іх напісання вызначаецца бардаўскай манерай. Праўда, звярнуць увагу таксама ёсць на што. Ну, хоць бы вось гэты верш:

*Колькі ўзвялі праз адметнасць*
*праўдзіўцы дарэмшчыны,*
*Столькі ж цвікоў мне пад кпіны*
*ўвагналі ў далоні —*
*Мы прыходзім у свет насуперак*
*міту бязгрэшнымі,*
*Але па сканanні і Збаўца*
*не абароніць.*

Вершы Алеся Емяльянава арыгінальныя і вартыя ўвагі. Асабліва чатыры апошнія. Таленавіты паэт. Расце ўнутр. Гэта адчуваецца ў вершы «Тралейбус», фрагмент якога я працытую:

*пацыент драженскага*
*інтэрната*




*едучы ў тралейбусе прамовіў*
*наступнае:*
*— я вельмі да яго падобны —*
*мае рукі худыя і даўгія нібы*
*драты*
*і таксама растуць са спіны*
*я хаджу па адным маршруце*
*і напітваюся электрычнасцю*
*якую праз мяне прапускаюць*
*я тралейбус*
*і ты тралейбус*
*ён наставіў на мяне палец...*

Вядомы сваёй паэзіяй, якая балансуе на мяжы брутальнасці і мастацтва, Чарльз Букоўскі прапануецца ўвазе чытачоў у перакладах Ганны Комар. Прачыталася з задавальненнем.

Як вядома, браты Кірыл і Мятод з'яўляюцца стваральнікамі славянскай азбукі — глаголіцы (кірылічнага пісьма). Кірыл — аўтар «Прогласа» — своеасаблівай прадмовы альбо маніфеста да іх (братняй) евангелізацыйнай місіі сярод славян. Па сутнасці, гэта першы паэтычны помнік славянскай культуры, пакінуты нам у спадчыну прыкладна ў 863 годзе. Пераклад зроблены Алесем Камоцкім.

*Хай асвета прыадчыніць*
*тыя дзверы,*
*Праз якія ў душы вашы*
*прыйдзе зброя,*
*Кованая з непераможных літар,*
*Каб прымусіць д'ябла развітацца*
*з галавою.*
*І апорай быць спасцігламу*
*пісьменства.*

Цяпер — пра мастацкую прозу часопіса. Нізка апавядаў вядомага пісьменніка Віктара Казько складзена з адгалоскаў часу яго маладога расейскага жыцця. Лірычныя ўспаміны-роздумы з філасофскімі глыбокімі падтэкстамі. Вельмі густа, але тонка, а падчас мройна-мружліва, накрэсленая мастацкая проза аддаленага савецкага часу, што выносіць чытача на глыбокае цячэнне, як рачная вірлівая плынь... Па сутнасці — падспудны змест аўтарскага жыцця. «Свядома ці падсвядома я ўсё жыццё непрыёмна быў у гэтым, імкнуўся да гэтага. Жыццё, якое пачыналася на чужых рэках і ў чужых водах, праз якія мне нарачона было яшчэ прайсці».

Апавесць Міколы Захаранкі «Такі вецер, такі вецер...» — твор тэалагічна-дыдактычнага плану... Гэткая важкая духоўна-філасофская рэч у сабе. Даўно я так уважліва не ўчытваўся ў літаратурны беларускамоўны тэкст... Уся ідэя гэтага мастацкага (і, як мне падаецца, непрыхавана аўтабіяграфічнага) твора не так у вызначэнні і азначэнні праваслаўя і хрысціянства, лепш сказаць, не толькі ў тым, а ў спробе вызначэння чалавечнага ў чалавеку... Як для вялікай мастацкай прозы, твору бракуе сюжэтнай разгорнутасці. Няма пэўных дзей, учынкаў, акаляючых чалавечых вобразаў і апісанняў прыроды, але — ёсць узвышаная развага пад імі... Небеспадстаўна пасля прачытання твор выклікае на двубой яшчэ адну палемічную пару: чытача і аўтара. Агулам, магчыма, наўмысная няскончанасць апавесці гаворыць і пра нашу чалавечую спавядальную нявыказанасць перад «высокім небам ідэала» (А. Вярцінскі)... І яшчэ адно: твор наўпрост выстраены сцэнічна, у ім пераважнае месца займаюць палемічныя маналогі і дыялогі. Усе трансцэндэнтныя дзеі пераносяцца ва ўнутр чалавека. Думаю, апавесць без асаблівых высілак магла б быць перароблена ў драматургічны твор, які, пэўна, стаўся б цікавым для беларускага тэатра.

Урывак з рамана «Захоп марсіянамі Беларусі» Алеся Аркуша чытаецца з цікавасцю і без раздражнення, у адрозненне ад яго папярэдніх неадназначных тэкстаў. Аўтар знайшоў арыгінальны сюжэтны ход з падвойнай лініяй часу: сённяшняй (блізкай да аўтабіяграфічнай, з героем Кроквам, колішнім псеўданімам Аркуша-Козіка) і праміналай (з сапраўднымі постацямі айчыннай гісторыі і літаратуры: В. Ластоўскім і А. Дударом)... «Кроква любіў Ластоўскага. А ягоную апавесць «Лабірынты» лічыў сваёй настольнай кнігай. <...> Не ўсё ў гэтай апавесці было яму зразумела, але наяўнасць нейкай таямніцы, якую трэба разгадваць, прымушала глядзець на «Лабірынты» не толькі як на мастацкі твор. Гэта азначала, што да апавесці трэба было вяртацца зноў і зноў. Кроква быў упэўнены, што Ластоўскі нешта зашыфраваў у «Лабірынтах». Нешта вельмі істотнае і ізатэрычнае». Калі б не відавочная лапідарнасць і аскетычнасць стылю, то гэты твор А. Аркуша нечым вельмі блізкім перагукваўся б з прыгодніцкімі творамі Л. Рублеўскай. Дарэчы, у аснове рамана ляжыць аўтабіяграфічны матэрыял, як і ў вышэй абгаворанай апавесці М. Захаранкі. Праўда, там філасофія ўздымаецца да духоўных вышынь, а тут яна заглыбляецца ў земныя і чалавечыя душэўныя сутарэнні...

Невялікае фантастычнае апавяданне Андрэя Паўлухіна — вартае ўвагі. Твор прыйшоўся да душы і розуму. І хаця тэкст датаваны ажно 2005 годам, ён асацыятыўна сугучны з нашым сённяшнім часам і нашымі падсвядомаснымі прадчуваннямі. Чысты стыль, ясныя метафары, нечаканыя патаемныя падглядкі магчымага будучага... Аўтар, безумоўна, таленавіты. Для рэкламы — пасаж з апавяда: «Пятроў узлез на падваконне, адчыніў фортку і дастаў з паштовай скрыні газету «Воля думкі», на якую ён падпісаўся ў дабраахвотна-прымусовым парадку. У вочы кінулася вылучанае тлустым шрыфтам віншаванне: Таварыства інвалідаў па зроку віншуе ўсіх інвалідаў па зроку з Днём інвалідаў». Праўда, здаецца, учора ў нашай дзяржаўнай перыёдыцы чыталі?!

У рубрыцы «Дэбют» друкуецца абразок Надзеі Тачыцкай, — наіўны тэкст, але з заўважнай гуманістычнай ідэяй...

Я люблю (прызнаюся, даволі рэдка) глядзець спектаклі ў тэатры. Дапускаю, што ёсць і такія, што з задавальненнем чытаюць іх. У выпадку з публікацыяй драмы «Снег» паляка Станіслава Пшыбышэўскага (1868 — 1927) перамен у маім успрыманні не адбылося, і пасляслоўе Пятра Васючэнкі пра пэўныя ўплывы дэкадэнцкіх прадстаўнікоў польскай «новай літатуры» на нашага маладога Янку Купалу прыдалося асабіста мне больш цікавым. Драму, перакладзеную Лявонам Баршчэўскім, відаць, будзем чакаць на падмостках нашых тэатраў, а вось унутрана папалемізаваць з П. Васючэнкам — прыхільнікам Купалы і маладой беларускай літаратуры — я лічу дарэчным, асабліва наконт яго заключнага пасажа ў пасляслоўі: «Збліжэнне Купалы з творчай пазіцыяй прадстаўнікоў «Маладой Польшчы» адбываецца ў іншай плоскасці. Там, дзе польскія літаратары імкнуліся паяднаць сімвалісцкі пошук з нацыянальнай і сацыяльнай завостранасцю. Станіслаў Пшыбышэўскі, пры ўсёй сваёй рэпутацыі касмапаліта, мадэрніста і багемшчыка, па-свойму шукаў новую Польшчу, і гэты пошук імпанаваў беларускаму песняру».

Усё бліжэй да сканчэння публікацыя старонак новай кнігі «Уладзімір Някляеў. Незавершаная аўтабіяграфія», зробленай Сяргеем Шапранам. Чытаецца не без цікавасці, ёсць нагода для роздуму і ўнутранай палемікі.

На вялікі жаль, не дажыў да публікацыі свайго артыкула пра «гісторыю напісання «Дудкі Беларускай» Ф. Багушэвіча» наш таленавіты літаратуразнаўца і публіцыст Уладзімір Содаль. Гэты матэрыял, спадзяюся, будзе вартым помнікам і самому Уладзіміру Ільічу — нястомнаму і дасведчанаму праваднiку Беларушчыны ў нацыянальна абязлічанай Айчыне.

Трохі адстаронены, але глыбока пачуццёвы, суперажывальны тэкст пра асобу і творчасць вядомага паэта Анатоля Сыса публікуе крытык Ала Сямёнава.

Пэўным чынам мемуарны, грамадска-публіцыстычны артыкул (аповед-згадка), напісаны з патрыятычным запалам і душэўнасцю, прапануе чытачам пісьменнік Мікола Гіль. Тэкст, можна сказаць, напісаны з дарэшты стомленай верай у купалаўскую мройлівую будучнасць. Гэта не «кліч бураломны» Песняра, а роспачны напамін, можа, нават развітальны выдых спадзеву на нацыянальнае адраджэнне Бацькаўшчыны (няхай прабачыць мне гэтую мінорна-песімістычную ноту Мікола Сымонавіч). Хацелася б, каб артыкул прачыталі найперш маладыя «тутэйшыя» беларусы, бо — хто, як не яны?! Цытую: «...з непазбытым, заўсёдным страхам нараджаліся і прыходзілі ў жыццё кволыя «беларускія сыны» — з палахлівым сэрцам і ўпалай душою, з начыста адсутным адчуваннем, усведамленнем сваёй нацыянальнай адметнасці, нават прыналежнасці. Такія ў нашым народзе сталі пераважаць. Праслойка «сведамых беларусаў» была надта ж танюсенькая. Вось яна і не змагла стрымаць напору антынацыянальных сіл, балазе яны дзейнічалі, як заўсёды, вераломна, нахабна, цынічна. Падмяніўшы Вялікую Праўду вялізарнай хлуснёй».

Непрыдуманыя гісторыі ўласнага жыцця Сяргея Сыса чытаюцца, бадай, больш цікава, чым так званая мастацкая проза некаторых аўтараў.

Магчыма, крыху задоўжанае, але насычанае займальнай фактурай і гістарычным досведам падарожнае эсэ Людмілы Рублеўскай «Аліг'еры ў лужыне» прыйшлося дарэчы майму невыязднаму арганізму.

Друкуецца гутарка Уладзіміра Дрындрожыка з вядомым мінскім музыкам Віктарам Сямашкам. Маладыя гомельскія даследчыцы беларускай літаратуры, студэнты і магістранты ГДУ імя Ф. Скарыны (Г. Анцімонік, Х. Бандурына, А. Гатальская, С. Кацюргіна, М. Кірушкіна, Г. Новік, Т. Пятроўская і Я. Шчокіна) спрабуюць даць сваю ацэнку як нацыянальным класічным творам, так і сучасным тэкстам маладых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. Друкуюцца кароткія рэцэнзіі (Ганны Навумавай на выбранае сербскага пісьменніка Дж. Нікаліча і Віктара Сазонава — на зборнік С. Сыса «Павук»).

Напрыканцы — рубрыка «Дзеяпіс» — кароткія анатацыі да новых беларускіх выданняў.

Прыемнага чытання.

**ЛеГАЛ**

## Будзьма з «Дзеясловам»!

*Падпісацца на часопіс «Дзеяслоў» можна ў любым паштовым аддзяленні Беларусі і спраўна атрымліваць яго шэсць разоў на год.*
*Індэкс для індывідуальных падпісчыкаў — 74813,*
*Для ведамаснай падпіскі — 748132.*
*Будзьма разам!*

## ПРЭМІІ

### Пулітцэраўская прэмія

**У ЗША абвясцілі лаўрэатаў адной з самых прэстыжных узнагарод у галіне літаратуры, журналістыкі, музыкі і тэатра — Пулітцэраўскай прэміі.**

Сярод журналістаў журы ў гэтым годзе адзначыла рэдакцыю «The New York Times» за матэрыялы аб эпідэміі віруса Эбола ў намінацыі «Міжнародная журналістыка» і «Мастацкая фатаграфія». Узнагароду ў намінацыі «Служэнне грамадству» атрымала амерыканскае выданне «The Post and Courier» за серыю публікацый пра высокую жаночую смяротнасць у штаце Паўднёвая Караліна. У намінацыі «Журналісцкія расследаванні» два лаўрэаты: Эрык Ліптан з «The New York Times» за тэмы пра ўплыў лабістаў і калектыў «The Wall Street Journal».

За «Крытыку» прэмію атрымала Дыяна Маркум з «Los Angeles Times». За «Лепшы мастацкі твор» прэмію атрымала навэла «Усё нябачнае намі святло» Энтані Доэрр. За «Драму» — Стывен Адлі Гірдзіс. У намінацыі «Біяграфія» — Дэвід Кертцэр за «Бацьку Мусаліні: таемная гісторыя Пія XI і развіццё фашызму ў Еўропе». За «Паэзію» — «Дайджэст» Грэгары Пардло.

Пулітцэраўская прэмія з'яўляецца самай прэстыжнай журналісцкай узнагародай у ЗША. Яе заснаваў медыямагнат Джозэф Пулітцэр у 1917 годзе. Грашовая ўзнагарода складае 10 000 даляраў у кожнай з намінацый. Лаўрэат гэтай катэгорыі атрымлівае залаты медаль.

### Ганкураўская прэмія



**5 траўня алжырскі пісьменнік Камель Дауд быў уганараваны прэстыжнай Ганкураўскай прэміяй у намінацыі «Першы раман» за сваю кнігу «Мерсо, контррасследаванне».**

У сваім творы К. Дауд выклаў уласныя разважанні пра сучасны Алжыр і яго грамадства. Расказаная ў кнізе гісторыя шмат у чым пераклікаецца з сюжэтам знакамітага рамана Альбера Камю «Чужаніца», дзеянне якога адбываецца ў Алжыры.

Раней твор К. Дауда ўжо быў узнагароджаны прэміямі імя Франсуа Марыяка (Prix Franois Mauriac 2014) і Пяці кантынентаў франкафоніі (Prix des Cinq Continents de la Francophonie 2014).

Журы Ганкураўскай прэміі ўручыла яе і ў іншых катэгорыях. 60-гадовы француз Патрыс Францэс атрымаў яе за зборнік апавесцяў «Першая асоба адзіночнага ліку», у катэгорыі «Паэзія» прэмія была прысуджана бельгійцу Вільяму Кліфу.

### «Руская прэмія»

**У гэтым годзе лаўрэатамі «Рускай прэміі» сталі аўтары з сямі краінаў: Украіны, Германіі, Канады, Даніі, Польшчы, Кіргізіі і Эстоніі.**

Нагадаем, яна была заснавана ў 2005 годзе з мэтай захавання і развіцця рускай мовы. Узнагарода ўручаецца пісьменнікам і паэтам, якія пішуць творы на рускай мове за мяжой.

У Намінацыі «Паэзія» лаўрэатам «Рускай прэміі» стаў эстонскі аўтар Ян Каплінскі На другім месцы — вядомы канадскі паэт Бахыт Кенжэеў, на трэцім — датчанін Яўген Клюеў.

Аповесць «Пражак» Юрыя Серабранскага з Польшчы была прызнана лепшай у намінацыі «Проза». Дыпломам за другое месца быў узнагароджаны Уладзімір Лідскі з Кіргізіі, за трэцяе — Андрэй Красняшчы з Украіны.

«Руская прэмія» ў намінацыі «Буйная проза» была ўручана пісьменніку з Германіі Аляксею Макушынскаму за раман «Параход у Аргенціну». На другім месцы — таксама жыхар Германіі Аляксандр Мільштэйн з раманам «Паралельная акцыя», на трэцім — Максім Маткоўскі з Украіны з раманам «Папугай у мядзведжай бярлозе».

### Прэмія Рыгора Скаварады

**Сёлетнімі лаўрэатамі прэміі сталі Галіна Чэрніенка (пераклад кнігі «ІндиҐо» Жэрара дэ Кортанза, «Выдавецтва Жупанскага») і Алег Хома (пераклад кнігі «Медытацыі Дэкарта ў люстэрку сучасных тлумачэнняў Жан-Мары Бейсад, Жан-Люк Марʼён, Кім Сан Он-Ван-Кун», «Дух і літера»).**



За лепшы ўкраінскі пераклад з французскай мовы ў межах Праграмы садзейнічання выдавецкай справе Пасольства Францыі і Французскага інстытута ва Украіне спецыяльную ўзнагароду журы атрымала Сафія Рабчук за пераклад кнігі "Як размаўляць з дзецьмі пра мастацтва", якая выйшла ў «Выдавецтве Старога Лева».

Спецыяльнай госцяй мерапрыемства стала французскі мастацтвазнаўца і пісьменніца Францыаза Барб-Галь.

# Тоны кніг для Данбасу

**У Львове адбылася акцыя «1000 кг кніг для Усходу», падчас якой львавяне адправілі жыхарам вызваленых ад акупацыі гарадоў Данеччыны і Луганшчыны ўкраінскія кнігі.**




Як распавёў каардынатар праекта Раман Брэзіцкі, акцыя ажыццяўлялася ў межах валанцёрскага праекта «Адкрый украінскае».

За час дзеяння праекта абноўлены бібліятэчныя фонды ў Дзімітраве, Славянску, Дружкіўцы, Краматорску, Марыупалі, Даброполлі.

Кнігі збіралі ў школах Львова, крамах і бібліятэках пачынаючы з ліпеня мінулага года.

Арганізатары просяць прыносіць новую літаратуру, выдадзеную пасля 1991 года.

Сярод адпраўленых кніг — зборнікі вершаў украінскіх паэтаў, навучальныя і культуралагічныя тэксты, мастацкая і навуковая літаратура.

Акцэнт робіцца на пазнавальную дзіцячую літаратуру і гісторыка-публіцыстычныя выданні пра станаўленне ўкраінскай дзяржаўнасці.

Наступныя гарады, якія атрымаюць новую ўкраінскую літаратуру, — Лісічанск, Славянасербск і Старабельск.

# Фестываль «Shakespeare Lives-2016»

**У 2016 годзе па ўсім свеце пройдзе фестываль «Shakespeare Lives», прысвечаны жыццю і творчасці Ульяма Шэкспіра. Ён будзе прымеркаваны да 400-й гадавіны смерці паэта.**



Фестываль арганізуе Брытанскі савет у супрацоўніцтве з брытанскімі тэатрамі, музеямі і навучальнымі ўстановамі. У межах яго праграмы тэатры па ўсім свеце падрыхтуюць новыя пастаноўкі паводле Шэкспіра, некаторыя з п'есаў будуць экранізаваны, пройдуць публічныя чытанні вершаў Шэкспіра і з'явяцца новыя адукацыйныя рэсурсы для тых, хто вывучае ангельскую мову. Адной з самых яркіх падзей фестывалю стане праект «Увесь свет – тэатр», новы чытацкі марафон у інтэрнэце. Усе жадаючыя змогуць прачытаць уcлых урыўкі з п'есаў Шэкспіра перад камерай, якія потым злучаць у адзіную анлайн-пастаноўку.

«Shakespeare Lives» стартуе гэтай восенню і будзе доўжыцца ўвесь 2016 год, у яго праграме прымуць удзел больш за 500 мільёнаў чалавек па ўсім свеце.

# 82% расіян — за цэнзуру кніг

**Паводле даследаванняў фонда «Грамадская думка», большасць жыхароў Расіі называюць культурную палітыку дзяржавы пытаннем першаснай значнасці.**

Пры гэтым 82% апытаных упэўненыя, што дзяржава павінна кантраляваць змест мастацкіх твораў, «інакш будзе хаос». Прымаць канчатковае рашэнне аб забароне тэатральных пастановак, кінафільмаў, выстаў, кніг павінны прафесійныя аб'яднанні дзеячаў культуры, лічаць 19% апытаных, а 16% перакананыя, што гэта справа Міністэрства культуры.

Больш за палову апытаных сказалі, што дзяржава, тым не менш, не павінна забараняць падвергнутыя карэкцыі або іншыя выставы, фільмы і тэатральныя пастаноўкі.

Мабільнае тэлефоннае апытанне сярод 1 тысячы грамадзянаў Расіі ад 18 гадоў і старэй праводзілася 26 красавіка 2015 года ў 320 гарадах і 160 вёсках...






# Харпер Лі і новая кніга

**Пасля ананімнай заявы, у якой сцвярджалася, што 88-гадовую пісьменніцу прымушаюць падманам апублікаваць сваю новую кнігу, кіраўніцтва штата Алабама правяло экспертызу псіхалагічнага стану Харпер Лі, аўтара рамана «Забіць перасмешніка».**

Харпер Лі ў апошнія гады пражывае ў доме састарэлых. Правы на публікацыю сваёй другой кнігі «Устанавіце назіральніка», якая з'яўляецца сіквелам «Забіць перасмешніка» і напісаная да легендарнага рамана, яна прадала выдавецтву «HarperCollins» у лютым 2015 года.

Раман «Устанавіце назіральніка» выйдзе ў ліпені. Дарэчы, сваякі і знаёмыя Лі ў яе адэкватнасці таксама сумняваліся, адзначаючы, што пісьменніца практычна ўсё жыццё не хацела публікаваць гэтую кнігу. Акрамя таго, яна дрэнна чуе і практычна не бачыць, таму магла быць уведзена ў зман.

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў The Bookseller, Associated Press, vsiknygy.net, prostoknіga.com.ua, Українська правда, novostiliteratury.ru і The Guardian.**



Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

TV

## 7 ЧЭРВЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.10** Меладрама «У ракі два берагі».
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** Камедыя «Кухня» (Расія).
**10.45** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.20** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**17.10** Нашы.
**17.25** Мастацкі фільм «Спадчынніца».
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Дыялогі аб цывілізацыі.
**22.50** Мастацкі фільм «Улетку я аддаю перавагу вяселлю».



**00.30** Мастацкі фільм «Кухня» (Расія).

### НТ

**06.05** Серыял «Студэнты International».
**07.15** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.35** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.20** Фільм «Апошні байскаўт».
**10.15** Чысты праца.
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** Серыял «Салдаты-2».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** Фільм «Укол парасонам».
**15.25** Дарагая передача.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**17.20** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.25** «Іствікскія ведзьмы». Мастацкі фільм.
**22.35** Канцэрт «Вялікія песні вялікага народа».
**01.50** Фільм «Укол парасонам».

### СТВ

**06.00** «Студэнты International». Серыял. Заключныя серыі.
**07.25** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.45** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.10** Фільм «Міс Кангеніяльнасць-2: цудоўная і небяспечная» (ЗША - Аўстралія, 2005 г.).



**10.15** «Чыстая праца».
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** «На 10 гадоў маладзейшы».
**12.10** Фільм «Трое ў лодцы, не лічачы сабакі» (СССР, 1979). 1-я серыя.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Добры дзень, доктар».
**14.15** Фільм «Трое ў лодцы, не лічачы сабакі» (СССР, 1979). 2-я серыя.
**15.35** «Далёкія сваякі».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**17.30** Фільм «Паненка-сялянка» (Расія, 1995).
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Анжаліка, маркіза анёлаў» (Францыя, 2013).
**22.40** «Дакументальны праект».
**00.25** Фільм «Трое ў лодцы, не лічачы сабакі» (СССР, 1979).



### Беларусь 2

**06.55** Школа чараўніц.
**08.10** Серыял «Шчаслівыя разам».
**09.45** Турыст.
**10.00** Я хачу гэта ўбачыць!
**10.35** Тэлебарометр.
**10.40** Fitnews.
**11.20** Ваша лато.
**11.50** Латарэя «Пяцёрачка».
**12.05** Хочу в тэлевізар!
**13.10** Зразумець і абясшкодзіць.
**12.45** Серыял «Мая цудоўная няня».
**14.50** Мастацкі фільм. «Джулі і Джулія. Гатуем шчасце па рэцэпце».
**17.05** Comedy Woman.
**18.35** Ікра.
**19.15** Суперлато.
**20.05** Тэлебарометр.
**20.40** Кіпень.
**21.00** Футбол.
**21.35** Спортлато 6 з 49, КЕНО.
**21.40** Серыял «Шчаслівыя разам».
**23.40** Мастацкі фільм «Я, робат».

### Беларусь 3

**07.50** Калейдаскоп.
**08.00** «Іван Грозны». Гістарычная драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1944 г.).
**11.00** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Дзмітрый Смольскі.
**11.40** «Наперад у мінулае».
**12.05** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**12.55** Калейдаскоп.
**13.05** «Пацалунак Сакрата». Фільм першы «Смяротны водар». 1-я і 2-я серыі (Беларусь).
**14.45** «Музеі Беларусі». Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж».
**15.40** Калейдаскоп.
**15.50** «Павуцінне хлусні». Крымінальная драма (ЗША, 1999 г.).
**18.00** «Культпрасвет».
**18.35** «Зайздрасць багоў». Драма (Расія).
**20.45** Калыханка.
**21.05** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**21.55** «Пацалунак Сакрата». Фільм першы «Смяротны водар». 1-я і 2-я серыі (Беларусь).
**23.30** «Культпрасвет».
**00.10** Калейдаскоп.

### Беларусь 5

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Дзюдо. Этап Кубка Еўропы.
**09.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Фінал. «Ювентус» (Італія) - «Барселона» (Іспанія).
**12.35** Формула-Е. Гран-пры Масквы.
**13.45** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. «Дынама» (Брэст) - «Дынама» (Мінск).
**15.30** Хакей. Чэмпіянат свету. Матч за трэцяе месца. ЗША - Чэхія.
**17.55** Футбол. Таварыскі матч. Расія - Беларусь. Прамая трансляцыя.
**20.00** Дзюдо. Этап Кубка Еўропы.
**22.35** Хакей. Чэмпіянат свету. Фінал. Канада - Расія.
**01.00** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.15** Фітнес-шмітнес.
**07.40** Беларусы ў Польшчы.
**07.55** Два на два (тэледыскусія): Аляксандр Класкоўскі і Уладзімір Падгол.
**08.30** «Прыгоды і паходы», спазнаваўчы мультсерыял: «Прывіды».
**08.40** «Казкі з-за акна», мультсерыял.
**08.55** «Чароўнае дрэва», серыял.
**09.25** Мова нанова: «Музыка».
**09.40** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.10** 54 %: Мы не інкубатары!
**10.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.55** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Творчая сям'я: выклікі і адказы.
**11.25** «Час гонару», тэлесерыял.
**12.15** «Шызафрэнія», д/ф, 2004 г., Канада.
**12.30** «Эпоха Барадуліна», д/ф.
**13.25** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**14.10** «Новенькая», дэтэктыўны серыял.
**14.55** «Чачэнія: адваротны бок фасаду», д/ф.
**15.30** «Прадвесне», д/ф.
**16.00** «Апошнія дні СССР», д/ф.
**17.00** «Цырульніца», м/ф.
**18.50** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**19.00** «Каханне па-беларуску», д/ф.
**19.30** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**19.50** «Лебэнсборн: Гадавальнікі Трэцяга Райху», д/ф, 2013 г., Францыя.
**20.45** Загадкі беларускай гісторыі: Падземнае Берасце.
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма): Уладзімір Колас.
**21.15** «Школа плоці», м/ф.
**22.55** «Mad Men. Утрапёныя II», серыял.
**23.45** «Мент», дэтэктыўны серыял.
**00.40** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Уладзімір Цэслер і творчая свабода.
**01.10** «Троіца», фільм-канцэрт.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афоpміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя: 3012741108019 Лицевой счет: Код 739
УНП*: 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня ______
Всего ______
Кассир

# Некаторыя палітыкі не жадаюць злаваць Расію

Аксана КОЛБ

**Экс-міністр замежных спраў Эстоніі, еўрадэпутат Урамас Паэт патлумачыў НЧ, чаму на саміце Усходняга партнёрства Украіна не атрымала чаканага выніку. А беларусы пакуль пачакаюць палёгкі візавага рэжыму.**

— У Еўрапейскім саюзе ніколі не было кансенсусу паміж усімі чальцамі наконт магчымасці Украіны стаць кандыдатам на ўступленне ў ЕС. Таму Рыжскі саміт для ўкраінцаў і не мог скончыцца чымсьці канкрэтным. Але менавіта зараз для Украіны было вельмі важна атрымаць бязвізавы рэжым і надзею на магчымае ўступленне ў ЕС у будучым. Я на мінулым тыдні быў ва Украіне, у тым ліку ў Марыупалі, Шырокіна, і бачыў, які там эканамічны, палітычны і эмацыйны стан. Украіна зараз у вельмі складанай сітуацыі. Эмацыйны стан людзей па ўсёй Украіне, не толькі на ўсходзе, вельмі няпросты. І калі б ЕС прыняў рашэнне аб бязвізавым рэжыме, гэта было б вельмі моцным імпульсам для ўкраінскага грамадства. Можа быць, большасць украінцаў гэтым бы ніколі і не скарысталася, але сама такая магчымасць была б вельмі важнай. ЕС павінен рабіць усё, каб падтрымліваць Украіну.





**Даведка:**

Урмас Паэт, экс-міністр замежных спраў, дэпутат Еўрапейскага парламента з 2014 года, сябра эстонскай Партыі рэформаў.

Нарадзіўся 20 красавіка 1974 года ў Таліне. Скончыў Тартускі ўніверсітэт у 1996 годзе, атрымаўшы ступень бакалаўра па спецыяльнасці «паліталогія», у тым жа годзе прайшоў курс магістратуры па спецыяльнасці «Міжнародныя адносіны» ва ўніверсітэце ў Осла.

У 1991–1994 гадах працаваў на Эстонскім радыё, спачатку ў якасці рэдактара ў галоўнай рэдакцыі замежнай інфармацыі, а затым і рэдактарам навін.

У 1994–1999 гадах працаваў рэдактарам навін газеты «Postimees», а пазней старшым рэдактарам і палітычным аглядальнікам.

У 1999–2003 гадах займаў пасаду старэйшыны часткі горада Нымме ў Таліне.

У 2003–2005 гадах з'яўляўся міністрам культуры Эстонскай Рэспублікі.

12 красавіка 2005-га — 17 лістапада 2014-га — міністр замежных спраў Эстоніі.

Жанаты і мае дваіх дзяцей. Валодае эстонскай, англійскай, рускай, нямецкай і фінскай мовамі.

Дыскусія па пытанні еўрапейскай будучыні Украіны ідзе ўжо не першы год. Для мяне гэтая дыскусія наогул нонсенс. ЕС сам вырашыў, што ўсе краіны Еўропы, якія выконваюць Капенгагенскія ўмовы, калі яны гатовыя да гэтага кроку, могуць атрымаць статус кандыдата. Аднак рэал-палітыка зараз такая, што пакуль кансенсусу няма. А вось чаму немагчыма прыйсці да кансенсусу, гэта ўжо іншае пытанне...

Па-першае, зараз перад Еўропай вельмі востра стаіць пытанне бежанцаў. Для многіх краін — гэта праблема нумар адзін. І многія вайну ва Украіне і пытанне бежанцаў ставяць у адзін шэраг. Гэта няправільна, таму што ўцекачы і так прыязджаюць у Еўропу без віз. Але гэты страх перад наплывам бежанцаў адыгрывае сваю ролю, таму што Украіна — гэта 50 мільёнаў чалавек, і ўжо больш за мільён унутраных бежанцаў. І многія думаюць, што гэта можа стаць праблемай для ЕС.

Другі чыннік — гэта Расія. Не сакрэт, што ў Еўропе хапае палітыкаў, якія не хочуць рабіць ніякіх крокаў, што не падабаюцца Расіі. Ёсць тыя палітыкі, хто думае, што бязвізавы рэжым для Украіны можа пакрыўдзіць Расію, для якой пытанне бязвізавага ўезду ў ЕС было адкладзена з-за яе агрэсіўнай палітыкі.

Па-трэцяе, у ЕС хапае палітыкаў, якія вельмі крытычна глядзяць на тое, што адбываецца ва Украіне: карупцыя, жудасная эканамічная сітуацыя, вельмі павольнае рэфармаванне. Яны лічаць, што пры такім раскладзе Украіне занадта рана думаць пра ЕС.

Ну, і нарэшце, у Еўропе шмат палітыкаў, якія проста лічаць, што ЕС і так занадта вялікі, што 28 дзяржаў ужо дастаткова, і больш нікога прымаць не трэба.

Я вельмі ўсцешаны тым, што Эстонія стаіць на пазіцыі таго, што прынцып, які быў закладзены ў Капенгагене, павінен выконвацца, што ўсе краіны Еўропы, якія адпавядаюць крытэрам, могуць стаць кандыдатам на ўступленне ў ЕС. Мы гэтак жа падтрымліваем жаданне Украіны атрымаць магчымасць бязвізавага ўезду ў ЕС.

Грамадзяне Малдовы могуць без візаў вандраваць па ЕС ужо год. За гэты час 75 тысяч жыхароў Прыднястроўя атрымалі малдоўскі пашпарт. Такім чынам, гэта мае не толькі практычнае, але і палітычнае значэнне.

Што тычыцца Беларусі, то ваша краіна цяпер адзіная ва Усходнім партнёрстве, якая не мае на сваёй тэрыторыі замарожанага канфлікту. Таму ўсе ў ЕС хочуць, каб гэтак і засталося. І таму шмат хто не хоча яўна ісці насуперак жаданням Расіі. А Расія выразна дэманструе амбіцыі атрымаць больш і больш краін пад свой кантроль (гэта тычыцца ўсіх былых рэспублік СССР, але Беларусі ў большай ступені).

На маю думку, цяпер ЕС вельмі адкрыты для таго, каб развіваць адносіны з Беларуссю. Саспела атмасфера для развіцця гэтых адносін. Але ў ЕС складана атрымаць кансенсус, каб нешта рабіць. Тое, што я казаў пра Украіну, шмат у чым тычыцца і Беларусі.

У гэтым плане скептыкам больш шчыльных адносін з Беларуссю вельмі лёгка апраўдваць сваю пазіцыю. Яны кажуць, што ў Беларусі няма ніякіх дэмакратычных зменаў, таму трэба яшчэ пачакаць. Мяркую, калі мы зараз пойдзем ёй насустрач, то там і не будзе ніякіх зменаў.

Мая пазіцыя ў тым, што ўжо сёння вельмі важна, каб беларускае грамадства за кошт палёгкі візавага рэжыму магло атрымаць больш магчымасцяў пабачыць знутры, як жыве ЕС. І, магчыма, гэта паўплывае на змены ў самой Беларусі і дасць неабходны імпульс для дэмакратызацыі.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

На самай справе, ён (Лукашэнка) — вельмі цікавы палітык. Ён жа гуляе ў вельмі тонкую гульню. Ён увесь час робіць фінты паміж Захадам і намі. Ён увесь час заігрывае з Захадам, але пры гэтым ён не хоча губляць кантакты з Расіяй і, у прыватнасці, з прэзідэнтам Пуціным. У яго вельмі сур'ёзная, спелая і хітрая гульня, па сапраўднаму, па вялікаму, даросламу рахунку хітрая.

**«Эхо Москвы» (Расія)**

У Мінска найбольшыя шанцы апынуцца наступнай ахвярай расійскага імперскага сіндрому. Пры гэтым многія адзначаюць, што шлях да асацыяцыі з ЕС для Беларусі як мінімум вельмі цяжкі, а як максімум — зачынены, перш за ўсё па меркаваннях эканамічнай і інфраструктурнай кан'юнктуры. На гэтым фоне надзеі беларусаў на развіццё супрацоўніцтва з Кітаем вельмі вялікія. Мінск задаволіўся б роляй палітычнага пасярэдніка і эканамічнага транзіцёра, свайго роду цэнтра ў трыкутніку Масква – Кіеў – Брусэль. Адсюль і ўзнікаюць надзеі Мінска на зближэнне з Кітаем, Індыяй і г.д. Гэта азначае, што Беларусь не пойдзе ні на якую дэмакратызацыю і будзе захоўваць нявызначаны час з рэжымам, які, як і ў Расіі, не падлягае рэфармаванню і развіццю. Прыклад Украіны хутчэй палохае, а не натхняе беларусаў, а кіруючы рэжым не выяўляе гатоўнасці да дыялогу з апазіцыяй.

**«Главный регион» (Украіна)**

Беларусь і не збіралася нічога падпісваць, Усходняе партнёрства было неабходна Аляксандру Лукашэнку для таго, каб прадэманстраваць адсутнасць поўнай ізаляцыі яго рэжыму.

**«Обозреватель» (Украіна)**

Яшчэ адзін прыклад — Беларусь. Так званы «апошні дыктатар Еўропы» — зараз запатрабаваны чалавек... Беларусь цяпер атрымлівае выгаду ад канфлікту ЕС з Расіяй: палітычна — таму што Захад больш не можа прымушаць яе да ізаляцыі, і эканамічна — таму што з-за эмбарга Масквы на сельскагаспадарчую прадукцыю з ЕС яна стала адным з найважнейшых гандлёвых партнёраў Расіі. Аднак у Расіі ў моду зноў уваходзіць «вялікадзяржаўнае мысленне», першым вынікам якога стала анексія Крыма. Наступны мэтай «расійскага імперыялізму» становяцца былыя савецкія рэспублікі — Беларусь, Малдова і Арменія, якія для Расіі важныя, як частка цела.

**«Das Erste» (Германія)**

Варта таксама адзначыць, што многім экспертам у чарговы раз кінулася ў вочы супярэчлівасць выказванняў беларускага прэзідэнта. Справа ў тым, што, з аднаго боку, ён практычна патрабуе захаваць вытворчасць, у той час, як з другога – сцвярджае, што неэфектыўныя прадпрыемствы трэба ліквідаваць або перапрафіляваць. Пры гэтым ён сцвярджае, што на беларускі рынак варта перакрыць дарогу імпартным таварам, за выключэннем тых, аналагаў якім няма ў самой краіне, у той час як збіраецца «штурхаць» беларускія тавары краінам Захаду.

**«Биржевой лидер» (Украіна)**

Пасля таго, як у Расіі пачаўся эканамічны крызіс, які падарваў беларускі экспарт на расійскі рынак, Аляксандр Лукашэнка стаў пасылаць недвухсэнсоўныя сігналы ў Брусэль, зладзіў годны прыём удзельнікам перамоваў у «нармандскім фармаце». Кажуць, ён таксама хацеў бы прыехаць на саміт у Рыгу. Але беларускі прэзідэнт — па-ранейшаму ў чорным візавым спісе ЕС. Запрашэнне яму магло быць накіравана толькі ў тым выпадку, калі б у Беларусі вызвалілі ўсіх палітвязняў. Берлін, праўда, рэгіструе пэўныя зрухі ў Беларусі. Але ў тым, што тычыцца ўнутрыпалітычнай сітуацыі, развіцця грамадзянскай супольнасці і вызвалення палітвязняў, пазітыўныя перамены, кажуць ва ўрадзе ФРГ, «адбываюцца з хуткасцю слімака».

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Што да Беларусі, то незразумела, які падыход будзе распрацаваны ў дачыненні да гэтай краіны. Беларусь у апошні час адпраўляе ЕС імпульсы праўдзення больш адкрытай палітыкі і адначасова вельмі баіцца, як адрэагуе на гэтыя імпульсы Расія. Як у вузкіх колах заявіў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, Масква для Беларусі — старэйшы брат, які ніколі не ведае, што на самай справе на розуме малодшай сястры.

**«Wirtschaftsblatt» (Аўстрыя)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КЫРГЫЗСТАН. Ушанаванне памяці ахвяр расійскага каланіялізму

У Бішкеку будзе ўсталяваны помнік загінулым падчас трагічных падзей 1916 года, а ў месцах, звязаных з гэтымі пахаваннямі, з'явяцца памятныя абелiскі. Пра гэта прыняты адпаведны ўказ прэзідэнта, дзе гаворыцца, што нацыянальна-вызваленчае паўстанне народа Кыргызстана і трагедыя 1916 года захаваліся ў памяці народа як «Вялікі зыход, і павінны займаць адмысловае месца ў гісторыі Кыргызстана». Нагадаем, у жніўні 1916 года адбылося нацыянальна-вызваленчае паўстанне кіргізаў, якое было жорстка падаўленае царскімі ўладамі. На падаўленне паўстання былі кінуты велізарныя сілы. Не вытрымаўшы карных аперацый царскага войска, большасць кіргізаў рынулася ў Кітай. У выніку на горных перавалах загінуў кожны трэці кіргіз. Дзіўным чынам рукі да стварэння мемарыялу ахвярам трагедыі 1916 года дайшлі ў кіргізскіх палітыкаў толькі зараз. На ўстаноўку помнікаў з дзяржаўнага бюджэту Кыргызстана выдзелена 86 тысяч долараў.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### ГРУЗІЯ. Тбілісі вяртае грузін з-за мяжы

Грузія знаходзіцца ў стане дэмаграфічнай катастрофы, заявіў прэм'ер-міністр Іраклій Гарыбашвілі, выступаючы на форуме з нагоды Дня грузінскай дыяспары. Як растлумачыў прэм'ер, афіцыйна ў Грузіі засталося толькі 3,7 мільёна грамадзян, пры гэтым рэальны лік эмігрантаў ужо дасягае 2 мільёнаў чалавек. Выходзіць з гэтай сітуацыі грузінскі ўрад вырашыў за кошт вяртання суайчыннікаў. Праўда, чаму грузіны павінны вяртацца на радзіму, чыноўнік не ведае, і прапанаваў усім падумаць над пытаннем, як вярнуць людзей. Грамадства жвава адклікнулася на заклік прэм'ера. Паколькі эканамічных рэзонаў вяртацца ў Грузію няшмат, прапануецца сканцэнтраваць рэсурсы на тым, каб для пачатку прыпыніць паток эмігрантаў. Тут, на думку шмат каго, можа дапамагчы стварэнне якаснай сістэмы вышэйшай адукацыі, каб маладыя грузіны не ехалі вучыцца за мяжу. Другая прапанова — стварыць умовы для кар'ернага росту маладых чыноўнікаў і льготныя ўмовы для бізнесу.

**Паводле грузінскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Лібералы вяртаюцца ў вялікую палітыку

Упершыню за 5 гадоў у Германіі назіраецца рост папулярнасці ліберальнай Партыі свабодных дэмакратаў (FDP), якая на апошніх выбарах упершыню за ўсю гісторыю ФРГ не трапіла ў бундэстаг. Калі б заўтра ў краіне адбыліся выбары, FDP магла разлічваць на сем працэнтаў падтрымкі. Застаецца дадаць, што найбольш папулярнай партыяй застаюцца кансерватары Ангелы Меркель. Яе партыю Саюз хрысціянскіх дэмакратаў падтрымліваюць 38 працэнтаў. Калі тэндэнцыя захаваецца, то пасля наступных выбараў да ўлады ў краіне можа прыйсці кааліцыя лібералаў і кансерватараў як гэта было да 2013 года. Сацыял-дэмакраты хаця апошнім часам і палепшылі ўзровень падтрымкі да 27 працэнтаў, маюць сфармаваць урад выключна ў фармаце шырокай кааліцыі з іншымі левымі партыямі («Левыя» і «Зялёныя»), аднак паміж патэнцыйнымі кааліцыянтамі хапае супярэчнасцяў.

**Паводле нямецкай прэсы**

### АЛБАНІЯ. Гістарычны візіт сербскага прэм'ера



Сербскі прэм'ер Аляксандр Вучыч наведаў 27 мая албанскую сталіцу з афіцыйным візітам. З улікам таго, што албанска-сербскі канфлікт вакол Косава цягнецца з часоў сацыялістычнай Югаславіі, падзею можна лічыць гістарычнай. Усе адзначаюць вельмі пазітыўны настрой лідараў абодвух урадаў, якія мяркуюць, што прыйшоў час перазагрузкі адносінаў. На іх думку, Белград і Тырана здольныя паўтарыць тое, што зрабілі Парыж і Берлін, якія нягледзячы на дзве вайны ў XX стагоддзі, здолелі ў выніку памірыцца. Усе таксама адзначаюць, што візіт адбыўся на фоне хваляванняў албанскай этнічнай меншасці ў Македоніі — краіне, якая мае цесныя сувязі з Сербіяй. Ужо сам факт прыёму Вучыча ў разгар пратэстаў значыць, што македонскія албанцы не атрымаюць адкрытай падтрымкі з боку Тыраны. У прынцыпе, усе згодныя, што албанска-сербскі дыялог праходзіць пад эгідай Еўрасаюзу, які зацікаўлены ў інтэграцыі абедзвюх краін у склад ЕС. Такі сцэнар мог бы дазволіць зняць напружанасць вакол пытання Косава, незалежнасць якога Сербія не прызнае.

**Паводле французскай прэсы**

# Бывай, Салідарнасць!

Алег НОВІКАЎ



**Вынікі прэзідэнцкіх выбараў у Польшчы сімвалізуюць заканчэнне дамінавання ў польскай палітыцы пакалення, што ідэйна сфармавалася ў часы «Салідарнасці». Арыенціры новай хвалі пакуль малазразумелыя.**

Прадстаўнікі «Салідарнасці» прайгравалі на выбарах у Польшчы і раней — дастаткова ўзгадаць канфуз Леха Валенсы, які па выніках сваёй вельмі слабай прэзідэнцкай кадэнцыі фактычна даў зялёнае святло для вяртання ва ўладу экс-камуністаў. Аднак правал Браніслава Камароўскага — абсалютна з іншай оперы. Той жа Валенса прайграваў тым, з кім быў у адным палітычным дыскурсе, які паўстаў па выніках Круглага стала — нефармальнай кампраміснай дамовы ўлады і апазіцыі ў 1989 годзе.

Што тычыцца Камароўскага, то яго раскаталі таксама як фронтмена ідэалагічнай плыні, носьбіта ідэалогіі таго самага Круглага стала. Хаця фармальна яго крыўдзіцель — Анджэй Дуда — прадстаўляе адну з фракцый «Салідарнасці», перамогай апошні абавязаны не сваёй выбарчай праграме. Відавочна, што галасаванне 24 мая набыло ў электаральных масах падтэкст антысістэмнага пратэсту, асабліва для моладзі. Менавіта сацыяльная група 19–24 гады зрабіла кандыдата ад партыі «Права і справядлівасць» новым прэзідэнтам. Колькасць тых, хто галасаваў за Дуду ў гэтай сацыяльнай групе выбаршчыкаў, складае каля 66–70 працэнтаў.

Часткова ў гэтым вінаваты сам Камароўскі, які на кожным кроку нават без асаблівай нагоды падкрэсліваў сваю прыналежнасць да пакалення камбатантаў «Салідарнасці». Пры гэтым культ герояў антыкамуністычнага супраціву 1980-х гадоў у прамовах экс-гаранта трансфармаваўся ў нейкую канцэпцыю канца гісторыі. Паводле Камароўскага атрымлівалася, што гісторыя Польшчы закончылася з падзеннем камуністаў, пасля чаго ў краіне надышлі часы сапраўднага Эдэму. Сама ідэя рэформы існуючай мадэлі міжволі падавалася крамольнай, паколькі ўтрымлівала элемент замаху на парадак рэчаў, што паўстаў у выніку мужнай барацьбы палякаў з камунізмам.

Прычым сам парадак рэчаў быў яўна не ідэальны, як, магчыма, падавалася Камароўскаму. Гэта цудоўна пракаментаваў адзін з публіцыстаў на радыё «Tok», які звярнуў увагу на лозунг Камароўскага — «Бліжэй да людзей». Па словах публіцыста, такі лозунг, які маглі прыдумаць толькі марсіяне, цудоўна ілюструе сітуацыю, калі эліта адарвалася ад людзей і адначасобна карыстаецца эканамічнымі дасягненнямі Польшчы за апошнія дзесяцігоддзі.

Не дзіўна, што былыя лідары таго антыкамуністычнага падполля сталі аб'ектамі жартаў і фотажаб. Выданне «Rationalista» звяртае ўвагу на правал акцыі напярэдадні выбараў, калі такія VIP, як той жа Адам Міхнік, заклікалі галасаваць за Камароўскага. Як піша выданне, «палітыкі, знакамітасці, каментатары, чые погляды павінны былі пераламаць сітуацыю на карысць Камароўскага, успрымаліся як рэлікты сістэмы, якую мае замяніць Дуда. Калі яны і аказвалі нейкі ўплыў на маладых, то цалкам супрацьлеглы — галасы «саланістаў» (так называюць у Польшчы эліту) яшчэ больш мабілізавалі выбаршчыкаў галасаваць супраць дзейнага прэзідэнта».

Так ці інакш, галасаванне супраць Камароўскага ўпісвалася не ў ідэю карэкцыі сістэмы, а ў лозунг яе поўнай перазагрузкі, што пасуе ваяўнічым тэзісам кандыдата-папуліста Павела Кукіза, які ў першым туры атрымаў трэцяе месца. Прэса пагаджаецца, што 24 мая за Бугам пачалася змена палітычнай эліты. Новая генерацыя будзе будавацца на новых каштоўнасцях і міфах.

Хаця наўрад ці цяперашні крызіс аўтарытэтаў Другой Рэчы Паспалітай прывядзе да татальнага падзення інтарэсу да эпасу «Салідарнасці». Хутчэй за ўсё, з'явяцца новыя трактоўкі сучаснай гісторыі Польшчы, на базе якіх будуць выбудоўвацца новыя дактрыны масавых рухаў. Напрыклад, могуць быць запатрабаваныя погляды таго ж Кукіза, які разглядае Круглы стол як здраду апазіцыйных лідараў інтарэсам народу.

Паўплывае на новы характар лідараў і змена фармату палітычнага руху, які ўсё больш сыходзіць у інтэрнэт. Сярод экспертаў папулярна думка, што новую генерацыю польскіх палітыкаў трэба шукаць у інтэрнэце. Сапраўды, выбары зрабілі некалькі блогераў публічнымі фігурамі нацыянальнага маштабу. Аднак самі тэхналогіі мабілізацыі аматараў сацыяльных сетак у оф-лайн рэжыме пакуль слаба распрацаваныя.

Таксама трэба прызнаць, што польскім інтэлектуалам не вельмі сімпатычныя новыя тэндэнцыі. Як адзначаюць эксперты, прадстаўнікі маладога пакалення, што выраслі пры дэмакратыі і не ведалі вайсковага становішча, слаба шануюць такую прававую катэгорыю, як дэмакратычныя свабоды. Значна больш важную ролю для іх адыгрывае тэма эканомікі і сацыяльныя льготы, ад якіх залежыць узровень спажывання, што прыняты ў моладзевым асяроддзі.

Абыякавасць да тэмы дэмакратычных свабодаў у перспектыве стварае глебу для выбуху папулізму, што давялі апошнія выбары. Той жа Дуда падчас кампаніі абяцаў выбаршчыкам рэформы, праводзіць якія прэзідэнт, паводле польскай Канстытуцыі, папросту не кампетэнтны. Шмат кажуць пра ролю харызмы для цяперашніх палітычных рухаў. Так, лічыцца, што Дональд Туск мог перамагчы Дуду, калі б балатаваўся ў прэзідэнты, а не надаў перавагу працы ў Еўракамісіі.

Большасць заходніх СМІ пабачылі ў выніках прэзідэнцкіх выбараў відавочны дрэйф Польшчы ў бок Венгрыі. На старонках італьянскай прэсы гуляе думка пра тое, што выбары 24 мая былі плебісцытам наконт стаўлення палякаў да цяперашняга вельмі ліберальнага Папы Францыска. Журналісты таксама прагназуюць удзел Польшчы ў вайсковым канфлікце ва Украіне як следства перамогі кансерватараў на парламенцкіх выбарах у кастрычніку.

З іншага боку, польскія палітычныя трэнды аказаліся моцна ўпісаныя ў агульнаеўрапейскія працэсы. Прызнаецца, што выбух антысістэмных пратэстаў у Польшчы быў бы больш сціплы без нядаўняй перамогі грэчаскай партыі «СІРЫЗА» або добрых паказнікаў іспанскага руху «Падэмас». Такім чынам, наўрад ці Польшча зможа быць ізаляванай ад Заходняй Еўропы, дзе дэмакратычныя інстытуты гістарычна больш моцныя. Хапае і ўнутраных фактараў, якія могуць заблакаваць трансфармацыю краіны ў другую Венгрыю. Таму, думаецца, новая генерацыя польскіх палітыкаў так ці інакш усё роўна будзе дзейнічаць, абапіраючыся на спадчыну Круглага стала.

# Амазонскі БАМ

**Яшчэ не скончыўшы альтэрнатыўны Панамскаму канал у Нікарагуа, Кітай анансаваў новы мегапраект — будаўніцтва чыгункі праз джунглі Амазоніі, што дазволіць звязаць Ціхі і Атлантычны акіяны.**





План будаўніцтва амазонскай чыгункі быў агучаны кітайскім прэм'ерам Лі Кэцянам 25 мая, у першы дзень яго 8-дзённага туру па Лацінскай Амерыцы. Прыбыўшы ў Бразілію, кітайскі лідар сустрэўся з бразільскім прэзідэнтам Дзілмай Русэф, па выніках размовы з якой і з'явілася тэма трансамазонскай лініі.

Адначасова сталі вядомыя таксама некаторыя дэталі праекту — даўжыня лініі, якая звяжа Рыа-дэ-Жанейра і адзін з партоў Перу, складзе каля 5 300 кіламетраў. Кошт праекту — сто мільярдаў долараў. Галоўным інвестарам выступіць Кітай, які зацікаўлены ў зніжэнні коштаў на транспартныя пастаўкі бразільскіх карысных выкапняў. Галоўны ўчастак трансамазонскай звышхуткай трасы пройдзе праз трапічныя джунглі Амазоніі.

Апошні момант адразу выклікаў шырокую дыскусію ў экалагічных колах. Амазонія лічыцца ледзь не апошнім не кранутым цывілізацыяй месцам на планеце, дзе цалкам захавалася разнастайнасць біявідаў. Акрамя таго, чыгунка пройдзе праз тэрыторыі, дзе жывуць індзейскія плямёны, знаёмства з дасягненнямі цывілізацыі можа закончыцца для іх як мінімум культурнай асіміляцыяй. Нарэшце, эколагі разглядаюць ідэю трансамазонскага экспрэсу як асабісты выклік на свой адрас. Зараз яны вельмі крытыкуюць будаўніцтва самай вялікай у свеце гідраэлектрастанцыі каля гораду Альтміра ў Амазоніі. Аднак, як бачым, чыноўнікам адной электрастанцыі аказалася мала, і яны ў дадатак плануюць яшчэ цягнуць чыгунку.

У сваіх першых каментарах эксперты пагаджаюцца, што адміністрацыя Русэф будзе ўпарта манкіраваць незадаволенасцю экаграмадскасці і індзейскіх актывістаў. Прапанова з Пекіна была агучаная па слядах буйнога карупцыйнага скандалу вакол дзяржаўнага энергетычнага канцэрну «Petrobras», які моцна ўдарыў па рэйтынгу прэзідэнта. У дадатак карупцыянераў вывелі на чыстую ваду на фоне самай глыбокай за 25 гадоў эканамічнай рэцэсіі. 30 кантрактаў, якія Пекін і Бразілія збіраюцца падпісаць у рамках падрыхтоўкі рэалізацыі будаўніцтва чыгункі, ужо зараз прынясуць бразільскаму бюджэту 14 мільярдаў долараў і, відавочна, палепшаць імідж кіраўніка дзяржавы.

«Бразільская дзяржава ў гэтыя дні літаральна задыхаецца ад бюджэтнага дэфіцыту. «Дзяржава не ў стане рабіць шмат важных інвестыцый, і таму грошы з Кітаю — проста выратаванне», — цытуе брытанскі «Guardian» аднаго з эканамістаў Бразіліі. Цікава, што кітайскія дзяржаўныя медыя нават не хаваюць таго, што іх урад скарыстаўся выгадным момантам, каб зрабіць бразільцам прапанову, ад якой яны не здольныя будуць адмовіцца.

За турам кітайскага прэм'ера сочаць не толькі ў кітайскай прэсе. Відавочна, актывізацыяй Кітая занепакоеныя ў Вашынгтоне, дзе вельмі доўга, адпаведна Дактрыне Манро, глядзелі на Лацінскую Амерыку як на свае задворкі. Хаця кітайскі афіцыёз напярэдадні вояжу абвясціў, што «Кітай не мае ніякіх намераў спаборнічаць за Лацінскую Амерыку, а яго дзейнасць у рэгіёне не накіраваная супраць нейкай трэцяй сілы», амерыканскія медыя ў гэта не вераць. Амерыканскія журналісты разглядаюць Трансамазонскую чыгунку як частку інтэграцыі рэгіёна ў кітайскія глабальныя планы. З іншага боку, цяжка ўявіць, што ЗША могуць супрацьпаставіць кітайскім камуністам. Індустрыяльны бум у КНР патрабуе прыродных рэсурсаў, якія краіна актыўна імпартуе з краін Лацінскай Амерыкі, укладаючы ў мясцовыя эканомікі грошы. У 2012-м гандлёвы абарот паміж КНР і рэгіёнам складаў каля 250 мільярдаў долараў і рос штогод на 8 працэнтаў.

Напрыканцы трэба ўзгадаць, што гэта не першая спроба працягнуць праз Амазонію транспартную артэрыю. Першымі, хто загарэўся ідэяй чыгункі ў амазонскіх джунглях, былі амерыканскія бізнесмены. Роўна сто гадоў таму яны дабіліся ад бразільскага ўраду канцэсіі на будаўніцтва чыгункі з глыбіні Амазоніі ў Балівію, каб экспартаваць запатрабаваны на рынках каўчук. У джунглях быў высаджаны дэсант з 20 тысяч рабочых. Вынікі аказаліся трагічнымі: 6 тысяч чалавек памерлі ад ліхаманкі, у сутычках з індзейцамі або ад укусаў насякомых. Праект, які атрымаў у народзе назву «Шлях д'ябла», тым не менш не замарозілі, а рэйкі ў выніку дацягнулі да аднаго з балівійскіх партоў. Аднак атрымаць прыбытак бізнесмены не здолелі. Нечакана прыйшла навіна, што каучук можна больш танна здабываць на плантацыях Паўднёвай Азіі. Пра чыгунку ў Амазоніі адразу ўсе забыліся. Цікава, што фрагментарна яна захавалася дасюль і зараз з'яўляецца турыстычным аб'ектам.

Пасля путчу ў 1968 годзе вайсковы рэжым вырашыў таксама палепшыць свой імідж за кошт засваення Амазоніі. У джунглях пачалі пракладаць аўтабан даўжынёй 2500 кіламетраў. Будаўніцтва трасы, якую назвалі Rodovia Transamazonica, цягнулася чатыры гады, аднак вынікі будаўніцтва супярэчлівыя. Падчас сезону дажджоў траса, якая звязвае амазонскую глыбінку і атлантычны бераг, проста не праходная для аўтамабіляў.

Варта ўзгадаць, што ў дадатак мясцовыя індзейскія плямёны вельмі варожа ставяцца да чужынцаў, як, дарэчы, і наркамафія, якая выкарыстоўвае непадкантрольную цэнтральным уладам тэрыторыю ў сваіх мэтах. Менавіта з-за цяжкай крымінагеннай абстаноўкі ў свой час перуанскія ўлады адмовіліся цягнуць чыгунку на перуанскія амазонскія землі.

Бразільскія апазіцыянеры сцвярджаюць, што кітайцы ведаюць, наколькі тэхнічна цяжка класці рэйкі і забіваць кастылі ў тропіках. Аднак гэта ім не трэба. Галоўная задача Пекіну — пад соусам праекту падпарадкаваць бразільскіх палітыкаў, зрабіць іх залежнымі ад кітайскіх крэдытаў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Пётр Парашэнка



Прэзідэнт Украіны адзначыў гадавіну — 25 мая 2014 года ён з 55 працэнтамі галасоў падтрымкі быў абраны на пасаду, паабяцаўшы ўкраінцам «жыць па-новаму». Вынікі аднаго года «жыцця па-новаму» ва Украіне ацэньваюць па-рознаму. Большасць, паводле ўсіх апытанняў, не задаволеныя курсам Парашэнкі. Перш за ўсё, яго лічаць адказным за эскалацыю вайны, адсутнасць рэформаў, рост тарыфаў, коштаў і карупцыю ва ўладзе. Некаторыя эксперты нават лічаць, што Парашэнка, якога зараз падтрымліваюць каля 10 працэнтаў выбаршчыкаў, у выніку сваёй кадэнцыі адбярэ ў Юшчанкі тытул самага кепскага прэзідэнта ў гісторыі Украіны. Не дарма апазіцыя ўжо кінулася рабіць сабе піяр за кошт крытыкі непапулярнага гаранта. Напрыклад, вядомы папуліст Алег Ляшко заявіў, што абранне Парашэнкі было «вялікай памылкай». З іншага боку, нават крытыкі прэзідэнта прызнаюць, што яму ўдалося шмат чаго дабіцца на знешнім фронце — Украіна падпісала асацыяцыю з ЕС і стварыла сабе сталае лобі на Захадзе. Аднак тое, што абяцаны год таму бязвізавы рэжым застаўся на паперы, перакрэслівае гэтыя дасягненні ў вачах абывацеля. Дакладна дасягненнем Парашэнкі можна лічыць толькі мінімізацыю рызыкі вялікай вайны з Расіяй і намаганні па стварэнні баяздольнай арміі. Яго палітычныя перспектывы ў святле працягу крызісу эксперты каментуюць неахвотна.

### Ада Колау



Новы мэр Барселоны — самы яскравы прадстаўнік новай хвалі іспанскай левай, што практычна першы раз паспрабавала сябе на выбарах. Новыя іспанскія левыя выступаюць на выбарах у форме шырокіх асацыяцый, што будуюцца на базе нізавых сацыяльных ініцыятыў. Так, Ада з'яўляецца лідарам Платформы за дапамогу ахвярам іпатэкі, што падтрымлівае пацярпелых ад банкаўскага крызісу 2008 года. Вакол гэтай платформы паўстала Barcelona en Comu — ініцыятыва па выбарах мэра і парламента каталонскай сталіцы, якія прайшлі 24 мая. Асноўныя патрабаванні Barcelona en Comu — бясплатная ўніверсальная медыцына і адукацыя, праграма будаўніцтва таннага жылля, танны экалагічны транспарт. Па выніках галасавання Barcelona en Comu атрымала 11 месцаў у гарсавеце, а за Аду непасрэдна прагаласавала каля 25 працэнтаў гараджан — самы лепшы вынік сярод іншых кандыдатаў. Паводле мясцовых законаў, адноснай большасці дастаткова, каб стаць мэрам Барселоны.

### Карым Масімаў



Прэм'ер-міністр казахскага ўраду паставіў перад сабой фантастычную задачу — за 10 гадоў апранаць усіх жыхароў краіны ў адзенне мясцовай вытворчасці. План рэформы лёгкай прамысловасці быў прадстаўлены на разгляд парламенту 25 мая. Прадстаўнік ураду заявіў, што за аснову рэформы будзе ўзяты вопыт Турцыі, дзе ў свой час была прынятая падобная праграма. «Гэта турэцкая праграма, якую ініцыявалі як падтрымку турэцкіх адзежных брэндаў, але пасля яна стала не толькі праграмай для лёгкай прамысловасці, а праграмай генерацыі айчынных брэндаў, якія сталі сусветнымі гульцамі», — распавёў прэм'ер парламентарыям і ўзгадаў, што зараз са ста самых папулярных брэндаў у свеце 22 — турэцкія. Для пачатку ў Казахстане вырашана стварыць за 10 гадоў 10 сусветных брэндаў, аднак гэтага будзе не дастаткова, каб усе казахі хадзілі ў адзенні з лейблам «Made in Kazahstan». Асноўныя інструменты для папулярызацыі казахскага адзення — субсідаванне часткі кошту арэнды ў гандлёвых цэнтрах, пакрыццё часткі інвестыцый у абсталяванне, адмена часткі імпартных пошлін на сыравіну, якая не вырабляецца ў краіне. Можна дакладна сказаць, што першымі ахвярамі новай кампаніі стануць чыноўнікі. Не так даўно адзін з міністраў патрабаваў, каб усе супрацоўнікі яго ведамства таксама, як і ён, насілі выключна казахскае, у тым ліку нават шкарпэткі.

# Генадзь Бураўкін: «Калі жыццё

Сяргей ШАПРАН

**Год таму, 30 мая 2014 года, не стала Генадзя Бураўкіна. Самабытнага паэта са сваім непаўторным словам і стылем, аднаго з найяскравейшых прадстаўнікоў славутага «філалагічнага пакалення», вядомага дзяржаўнага і грамадскага дзеяча, чый аўтарытэт быў бясспрэчны, нарэшце добрага і светлага чалавека, якога проста немагчыма было не любіць. Не будучы афіцыйна народным паэтам, Бураўкін быў народным па сваёй сутнасці. Нездарма нават і пасля смерці ў друку яго і дасюль называюць народным паэтам, бо такім ён быў у нашай свядомасці пры жыцці, такім і застаўся.**

Мы бачыліся з Генадзем Мікалаевічам апошнія два тыдні яго жыцця практычна штодзённа. Патэлефанаваўшы, ён сам папрасіў прыходзіць да яго як мага часцей з тым, каб мы гутарылі пад запіс, дадаў: «Я табе даю права ў любы час прыходзіць і задаваць любыя пытанні». Ён хацеў паспець сказаць тое, што не паспеў напісаць. Генадзь Мікалаевіч не проста здагадваўся — ён дакладна ведаў, што ідзе адлік апошніх яго дзён. Ён нават дакладны тэрмін тады назваў — два тыдні. І не памыліўся ні на адзін дзень.

Жыццё раптоўна і імкліва заканчвалася, Бураўкін жа не паспеў напісаць мемуары і цяпер, мусіць, хацеў хоць у такім выглядзе пакінуць успаміны. Раней даўнія яго сябры — Рыгор Барадулін і Уладзімір Някляеў, а разам з імі Аляксандр Фядута ды аўтар гэтых радкоў таксама — не раз спрабавалі пераканаць Бураўкіна ўзяцца за мемуары, але ён не спяшаўся. Зрэшты, прычыну адмовы кожнага разу называў адну і тую ж: найбліжэйшыя яго сябры Васіль Быкаў і Валянцін Болтач (і не толькі яны), напісаўшы ўспаміны, у хуткім часе пайшлі з гэтага свету. У гэтым Генадзь Мікалаевіч бачыў бясспрэчную заканамернасць і наканаванасць. Некалі так і сказаў мне: ён хоча завяршыць працу над паэтычнай кнігай «Лісты да запатрабавання», якую бачыў тады апошняй сваёй кнігай паэзіі, а пасля, спадзяваўся, Бог падорыць яму яшчэ гадоў пяць, каб паспець напісаць успаміны. Адкладаючы не адзін год гэтую працу, ён, мусіць, хацеў абыграць лёс. І гэта яму сапраўды ледзь не ўдалося: «Лісты да запатрабавання» выйшлі ў 2010-м, у запасе ў Бураўкіна заставалася яшчэ амаль чатыры гады. Аднак праблема была ў тым, што за мемуары ён так і не ўзяўся. І вось цяпер мы, спяшаючыся, штодзённа гутарылі па гадзіне-паўтары, але Генадзь Мікалаевіч хутка стамляўся, і мы развітваліся да наступнага дня...

Ніжэй упершыню падаюцца фрагменты тых размоў.

### Што такое жыццё?

***— Генадзь Мікалаевіч, прабачце, але, можа, буду нязручныя пытанні задаваць.***

— Я разумею. Я табе дазваляю.

***— Пра што вы думаеце ў гэтыя, мабыць, самыя цяжкія для вас месяцы?***

— У гэтыя месяцы я думаю, калі гаварыць агульнымі словамі, пра жыццё. А калі казаць канкрэтней, дык думаю: вось што такое жыццё, ужо пражытае? Разумееш, пакуль жыццё не пражытае, зусім інакш думаеш і пра яго, і пра магчымасці, і пра нейкія рэчы, якія хацеў бы зрабіць. А вось калі яно ўжо практычна пражытае, зусім інакш думаеш. І я не ведаю нават, дзе тут больш справядлівы пункт гледжання...

Першае, пра што думаецца, гэта гонар за сваё пакаленне. Гонар за тое, што мы рабілі для Беларушчыны, што мы рабілі для беларускай літаратуры. Гэта ж, Божа мой, і Васіль Быкаў, і Уладзімір Караткевіч, і Міхась Стральцоў, і Рыгор Барадулін. І ўсё гэта адбывалася, як кажуць, на маіх вачах, а часам, можа, і з маім нейкім удзелам. І, канешне, я ганаруся гэтым. Хоць ёсць адно горкае адчуванне, што я мог бы зрабіць больш і цікавей. Справа ў тым, што ўвесь час я адкладваў — трохі пазней, трохі пазней, вось пачакаем... А бачыш, як атрымліваецца ў жыцці: прыходзіць час, калі ўжо няма чаго чакаць, калі няма ўжо куды адкладваць...

***— Вы сказалі, што зрабілі б цікавей — вы кажаце пра сваю паэзію?***

— Так, перш за ўсё, перш за ўсё.

***— Вы пра гэта найбольш шкадуеце цяпер?***

— І пра гэта. А яшчэ пра тое, што ў свой час я, можа быць, быў не надта актыўны і не надта адкрыты.

***— Актыўны ў чым?***

— У жыцці, у рэагаванні на падзеі жыцця. Актыўны ў рэакцыях на тое, што адбывалася... Ну, што такое літаратура? Гэта суразмоўца з усім светам. Субяседнік, ва ўсялякім разе, з вельмі вялікай колькасцю людзей. Вось я так сабе ўяўляю. І, можа быць, гэта залішне смела, але я так сабе ўяўляю і сваю пазіцыю, і свае магчымасці.

***— А вам шкада, што вы столькі высілкаў і часу аддалі дзяржаўнай і грамадскай працы?***

— Ты ведаеш, і шкада, і не. Шкада, канешне, бо — я ўжо некалі, па-мойму, гаварыў, — што мая работа на Дзяржтэлерадыё скрала ў мяне, як мінімум, тры зборнікі вершаў... Канешне, шкада. А ў той жа час як падумаю: я ж тое-сёе зрабіў, што іншыя не зрабілі б, калі б там былі, на гэтай пасадзе...

***— Можа, нават не падумалі б зрабіць.***

— Можа, нават і не падумалі б, так. Таму не проста адказаць... І шкада, і не.

***— Між тым, Рыгор Барадулін, кажучы пра вас незадоўга да свайго сыходу, найперш прыгадваў тое, што вы зрабілі для Беларусі, у тым ліку на пасадзе старшыні Дзяржтэлерадыё. Ён са скрухай гаварыў, што сённяшнія чыноўнікі гэтага не памятаюць, але, казаў, затое памятае гэта Беларусь.***

— Дай Бог... Дай Бог, каб так было. Баюся, што ў нечым усё гэта забываецца, вытаптваецца. Так што, дай Бог, каб так было.

***— Што тычыцца кніг паэзіі, якія ў вас скрала, па вашых словах, гэтая пасада, — як гэта адбывалася: вершы да вас прыходзілі, але не было часу сесці ды запісаць іх?***

— Так-так-так... Ты вось калі будзеш разбіраць мае завалы папер, дык убачыш, колькі там, як той казаў, зярнят, з якіх нешта магло быць. Магло быць і не адбылося. І я ж кажу, што, канешне, шкадую, шкадую...

***— Але якія вашы вершы самыя дарагія для вас?***

— Для мяне самыя дарагія вершы апошняга, як кажуць, жураўлінага часу. Але чаго яны мне самыя дарагія? — там мой настрой. Таму і «Жураўлiная пара» — гэта дарагая для мяне кніжка.

***— Мусіць, і «Лісты да запатрабавання»?***

— Так, але «Лісты да запатрабавання» — больш роздумная, спакойная кніга, а «Жураўлiная пара» дарагая тым, што там настрой, які быў са мной у тыя дні, у тую пару.



Фота Сяргея Шапрана

***— Між іншым, вельмі ўдалыя назвы — «Жураўлiная пара» і асабліва «Лісты да запатрабавання» — вы нібыта пісалі лісты ў вечнасць з думкай, што, можа, калі-небудзь, калі вас ужо не будзе, іх некаму і спатрэбяцца.***

— Ну, тут не ў вечнасць, бо ў вечнасць — гэта дужа высока і далёка. А гэта спадзяванні, што ў будучым унукі, сябры...

***— Унукі сяброў.***

— Так, я не супраць, калі яны звернуцца да маіх вершаў, якія сёння яны, можа, не заўважылі, прайшлі міма, але заўтра прыйдуць да іх. Вось такое спадзяванне ў мяне было...

**Да тых, хто застанецца, у мяне адна вялікая просьба: берагчы Беларусь, прадаўжаць тое, што зрабілі і не дарабілі яе сыны лепшыя**

### Абарона Быкава

***— Вы, Генадзь Мікалаевіч, і самі, мусіць, ведаеце, што не дарэмна жыццё пражылі, бо шмат чаго зрабілі...***

— Не, не дарэмна. Гэта я смела скажу, таму што тры рэчы, якія я зрабіў, робяць мне гонар. Гэта тое, што я зрабіў нацыянальнае беларускае тэлебачанне; тое, што ўдзельнічаў у абароне Быкава; трэцяе — Кангрэс за незалежнасць. Так што, вось запішы. (Пад Кангрэсам за незалежнасць Генадзь Мікалаевіч меў на ўвазе Усебеларускі з'езд 2000 года, на якім прысутнічала амаль паўтары тысячы дэлегатаў з усёй краіны і на якім быў прыняты Акт незалежнасці Беларусі; Бураўкін быў сустаршынёй з'езда — разам з Р. Барадуліным, Р. Гарэцкім і А. Грыцкевічам. — С. Ш.)

***— Калі ў 1966 годзе вы разам з Анатолем Вярцінскім пісалі ліст у ЦК КПБ у абарону Васіля Быкава, якога ў той час пачалі шальмаваць за аповесць «Мёртвым не баліць», вы былі зусім маладыя. Як вы адважыліся на гэта? Няўжо не было страшна? Вы ж вы разумелі, што рызыкуеце?***

— Абсалютна... Я табе скажу, што рызыка была абумоўлена маладосцю. І ў той жа час яна была выклікана разуменнем абавязку. Я разумею — і, думаю, што Толя таксама, — што калі мы прапусцім і на гэты раз, дык іншым разам нас ужо і за людзей не палічаць. Таму мы і зрабілі гэта. Зрабілі свядома... Таму што тут сказаць?.. Ну, канешне, было страшнавата, бо я рызыкаваў далейшай перспектывай. Было ж зразумела, што гэта не спадабаецца, што гэта будзе мець адпаведныя вынікі, але ў мяне былі свае прынцыпы, якія былі для мяне важней. Тое ж, я думаю, было і з Толем Вярцінскім. Тое ж, думаю, было і з іншымі, хто падпісаў гэты ліст.

***— Але ж былі і такія, хто адмовіўся падпісаць.***

— Такіх амаль не было. Чаму? — таму што з прапановай падпісаць мы падыходзілі да канкрэтных людзей. І мы ўжо ведалі, што гэты чалавек такіх вось настрояў, гэты — такіх, і прытым у адносінах да Васіля Быкава. Не проста дэмакратычных настрояў, а менавіта ў адносінах да Быкава. Таму нейкіх вялікіх адмоў не было. Здараліся некаторыя замінкі. Напрыклад, першы раз не падпісаў Навуменка — толькі з другога разу. Са старэйшых жа адмовіўся падпісаць Ілья Гурскі. Калі мы да яго падышлі з прапановай падпісаць, ён не толькі адмовіўся, але сказаў: «Ой, хлопчыкі, будзе вам за гэта! Партыя не любіць калектыўных лістоў. Таму падумайце». Вось гэта было. Гэта Ілья Данілавіч Гурскі, паважаны даволі пісьменнік. А так не было праблем, бо я ж кажу, што мы не абы да каго падыходзілі, большасць гэтых людзей мы добра ведалі.

### Чалавек Машэрава

***— Што тычыцца вашага старшынства ў Дзяржтэлерадыё: гэта ж Пётр Машэраў даў вам карт-бланш, каб беларускае тэлебачанне стала беларускім?***

— У пэўным сэнсе.

***— Але чаму ўсё гэта цяпер прыгадваю — Генадзь Мікалаевіч, што скажаце: трэба ўсёткі часам рызыкаваць?***

— Так.

***— А ці глыбока вы раздумвалі, робячы той ці іншы падобны ўчынак?***

— Ты знаеш, не заўсёды. Часам было чыста імпульсіўнае рашэнне, а часам глыбіннае, як той казаў... Так, доля рызыкі, доля нейкай смеласці, бясспрэчна, была. Але была і негалосная абарона Машэрава. Усе ведалі, што Бураўкін — гэта чалавек Машэрава, і не надта кідаліся на мяне з прэтэнзіямі.

***— Сёння вы з якім пачуццём прыгадваеце Машэрава?***

— Машэрава прыгадваю як цікавую гістарычную асобу, як чалавека складанага, але вельмі інтэлігентнага. І чалавека, скажам так, супярэчлівага, чалавека свайго часу, чалавека сваёй эпохі. І чалавека, з якім я хацеў бы сустракацца і гаварыць.

# ўжо пражытае...»

***— Гэта не роўня сённяшняму кіраўніку?***

— Што вы! Божачкі!

***— Прыгадваецца такі запіс Алеся Адамовіча ў нататніку: «...А кто-то, возможно, будет смотреть на фотогр[афию] твоего времени или читать вот это... Ну, а вы? Вы как?.. Неужели вы всё ещё позволяете фюрерам дурачить вас?» Напісана гэта было ў 1989 годзе, а як прароча сёння гучыць.***

— Я думаю, што і сёння гэтая фраза вельмі надзённая.

***— Прычым з ёй можна звяртацца не толькі ў наш сённяшні час, але і ў будучыню таксама...***

— Так-так.

***— Бо на жаль, гісторыя без фюрэраў не абыходзіцца.***

— Так. І фюрэры ўсё драбнеюць і падлеюць.

## Старэйшыя

***— Генадзь Мікалаевіч, калі гаварыць пра старэйшае пакаленне, прасіў бы вас даць некалькі характарыстык. Напрыклад, што гэта была за асоба — Пімен Панчанка?***

— Гэта была для мяне дарагая і вельмі высокая асоба. Гэта быў і паэт выдатны, і чалавек шчыры і светлы, чалавек дзіцячай душы. У яго сініх беларускіх вачах адбівалася, можа быць, самае галоўнае ў ягонай душы. Ён сачыў за маладой паэзіяй, ён любіў Рыгора (Р. Барадуліна. — С. Ш.) і падтрымліваў нас. Ён увогуле быў трапяткі і малады. І для мяне Пімен быў узорам і вельмі блізкім чалавекам.

***— А Пятрусь Броўка?***

— На мой погляд, гэта была складаная асоба. Ён вельмі многа зрабіў для беларускай справы — гэта і тое, што арганізаваў і ўзначаліў «Энцыклапедыю», і тое, што быў на чале розных ініцыятыў. А як паэт... як паэт, канешне, быў слабаваты. Ну, але, як той казаў, каму Бог колькі даў. Аднак паэт быў шчыры, «непритязательный», па-руску кажучы. У яго ёсць некалькі даволі прыстойных вершаў, звязаных з прыродай, з маладосцю, — той жа «Пахне чабор», «Шумі, мой лес, шумі...». І гэта, лічу, павінна ў гісторыі не згубіцца.

***— Так разумею, што ў нечым супрацьлеглая Броўку асоба — Аркадзь Куляшоў.***

— Ну, не супрацьлеглая. Куляшоў — маўчун, чалавек у адзіноце. Але вельмі глыбокі, вельмі таленавіты. Гэта, канешне, майстар слова. Ён радок шліфаваў — чаго не рабіў Броўка. Наогул, Куляшоў выводзіў нашу паэзію на еўрапейскі ўзровень.

***— Яшчэ адно імя — Максім Танк.***

— А-а! Максім Танк — гэта геніяльны паэт. Ён, канешне, у нечым, на мой погляд, саступаў і Куляшову, і Панчанку — саступаў у рабоце над радком, але гэта паэт геніяльны. Яму столькі было дадзена, што ён нават, відаць, і не ўсведамляў таго, як многа яму дадзена. Ну, і потым, я чытаў летам ягоныя дзённікі ў 10-м томе — гэта споведзь чалавека нашага часу, чалавека як быццам бы паднявольнага. Споведзь шчырая, споведзь разумная, споведзь балючая.



**З Рыгорам Барадуліным.** Фота Уладзіміра Крука



**З Андрэем Макаёнкам і Васілём Быкавым. 1973 г.** Фота Уладзіміра Крука

***— А якія, на ваш погляд, асноўныя памылкі гэтага пакалення? Безумоўна, гэтыя пісьменнікі былі людзьмі свайго часу...***

— Гэта сапраўды знакі свайго часу. І ў Броўкі, і ў Танка, і ў іншых многа пустога, бяздумнага грамыхання. Але я не знаю, вініць іх за гэта ці не вініць. Быў такі час. Мы ў ім жылі. Мы ягоныя дзеці.

***— Пімен Панчанка неяк сказаў Рыгору Барадуліну нібыта жартам, але, відаць, не без сур'ёзнасці: «Я не здолеў стаць геніем, дык ты павінен стаць ім. А калі не станеш, дык збяромся ўсім кагалам і адлупцуем цябе».***

— Ну, удалы, але разумны жарт.

***— Аднак чаму цяпер прыгадаў яго: Барадулін, на ваш погляд, здолеў стаць геніем?***

— Канешне. Бясспрэчна.

***— Генадзь Мікалаевіч, прабачце за правакацыйнае пытанне, але ці ўсведамляеце, якой велічыні вы паэт?***

— Не зусім... Не зусім... Ведаю, што я паэт шчыры, я паэт, як кажуць, не бяздарны. А астатняга не знаю.

## Гістарычныя асобы

***— Каго яшчэ хацелася б прыгадаць — гэта Станіслава Шушкевіча. Якім ён застаецца ў вашай памяці як кіраўнік Беларусі?***

— Для мяне гэта гістарычная асоба, бясспрэчна нацыянальная, беларуская асоба. Але, мне здаецца, як палітык ён, на жаль, не самага высокага палёту.

***— Што вы маеце на ўвазе?***

— Яму не хапала вышыні мыслення. Яму не хапала глыбіні аналізу. Яму не хапала прадбачання. А ў прынцыпе, гэта выдатная асоба беларускай гісторыі.

***— На маю думку, Шушкевіч не ў час нарадзіўся — гэта, хутчэй, быў бы выдатны кіраўнік будучай Беларусі.***

— Ну, хто яго ведае, гэта ж не ўгадаеш. Але тое, што ён зрабіў добрую справу для гісторыі, гэта бясспрэчна.

***— І, безумоўна, павінен увайсці ў гісторыю са знакам плюс?***

— Безумоўна.

***— А як вы ставіцеся да Зянона Пазьняка?***

— Да Зянона Пазьняка я стаўлюся з глыбокай-глыбокай павагай. Тое, як ён мысліць пра гісторыю Беларусі, тое, як ён яе асэнсоўвае і фармулюе, мне вельмі і вельмі блізка. І я заўсёды стаўлюся да яго з увагай і з павагай. Адзінае, што на нейкіх этапах ён быў, як мне здаецца, залішне радыкальным, а з беларускім характарам трэба было быць мякчэйшым. А так, гэта таксама гістарычная асоба, якая адыграла важную ролю ў беларускай гісторыі.

## Сяброўства не прадаецца

***— Разам з тым не магу не ўзгадаць дзве гісторыі, прычым адна падобная на другую. Гэта калі вам у 1990-х гадах прапанавалі публічна адмовіцца ад сяброўства з Васілём Быкавым, і тады вы атрымаеце любую пасаду, якую толькі пажадаеце. Другая гісторыя — калі пасля прэзідэнцкай кампаніі 2010 года вам прапанавалі выступіць з публічным асуджэннем Уладзіміра Някляева. Узамен вам абяцалі ўсе магчымыя даброты. І ў абодвух выпадках вы адмовіліся ад здрадніцтва. На мой погляд, гэта таксама ўчынкі, якімі можна ганарыцца. Далёка не кожны зрабіў бы так на вашым месцы.***

— А я ганаруся. Так, былі такія неафіцыйныя прапановы: выступі, асудзі Някляева — і будуць выходзіць твае кніжкі, і ты будзеш, як кажуць, у пашане. Я адмовіўся, таму што для мяне сяброўства, тым больш сяброўства з выдатным паэтам Някляевым, даражэй. Тым больш што Някляеў, на маю думку, гэта асоба ў нечым новая для беларускай літаратуры, для беларускай паэзіі. Відавочна, што гэта не толькі яркі самабытны паэт — гэта і грамадскі дзеяч з адкрыта выяўленай пазіцыяй, які рвецца ў бой і, на мой погляд, разумна і цікава абараняе свае пазіцыі, пазіцыі дэмакратычныя, пазіцыі нацыянальныя. Думаю, што па яркасці і па актыўнасці такога ў нас апошнім часам не было.



**Ва ўніверсітэцкім скверыку. Стаяць (злева направа): Рыгор Барадулін, Анатоль Клышка, Васіль Зуёнак, Анатоль Вярцінскі, Генадзь Бураўкін. Сядзяць: Юрась Свірка, Мікола Арочка, Кастусь Цвірка**

***— А як паэт?***

— Ну, паэт першакласны. Недарма Рыгор Барадулін, калі пачынаў гаворку пра сучасную паэзію, звычайна пачынаў з Някляева. Яго апошнія паэмы, вершы ягоныя — гэта проста цуд па майстэрстве, а, па-другое, яго паэзія — вельмі мудрая і разумная. Гэта сапраўдны паэт, сапраўдны, на гады.

***— Аднак што тычыцца Някляева-палітыка: вы ж адзін час хацелі пераканаць яго, каб ён сышоў з палітыкі і засяродзіўся выключна на творчасці, каб не марнаваў час на палітычную дзейнасць.***

— Ну, дарагі мой, я сапраўды спрабаваў гэта зрабіць у свой час — мне гэта не ўдалося. Але я давяраю Някляеву — раз ён зрабіў так, значыць, для гэтага былі вельмі важкія прычыны. А тое, што ён зрабіў, — гэта яго рашэнне, гэта яго лёс. Я веру яму. І таму прымаю яго рашэнне.

***— А ці магу папрасіць вас сказаць колькі слоў асабіста Някляеву?***

— Валодзя, з тваім тэмпераментам, з тваім талентам, з тваёй мужнасцю я чакаю ад цябе вельмі-вельмі многага. Дай Бог, каб ты ўсё гэта змог ажыццявіць. Я вельмі веру, што Бог дасць табе доўгія гады, і ты паспееш рэалізаваць свой выдатны талент. Дай Бог, Валодзечка, каб ты спраўдзіў усё тое, на што спадзяюцца чытачы, сябры, урэшце, ты сам. Шчасця табе, Валодзечка, і доўгіх гадоў жыцця.

## Просьба да тых, хто застаецца

***— Мусіць, у гэтыя цяжкія дні вы, Генадзь Мікалаевіч, думаеце і пра тое, што пакідаеце гэтую краіну зусім не такой, пра якую ўсе мы марылі і дасюль яшчэ марым?***

— Я мару, імкнуся да беларускай Беларусі. Гэта пакуль што не адбылося.

***— Але, на вашу думку, гэтая беларуская Беларусь некалі ўсё ж будзе?***

— Хачу, каб была. Хачу. Але ты знаеш, вера гэтая слабая.

***— А які лёс, на ваш погляд, чакае беларускую мову?***

— Я ўсё болей разумею месца мовы ў жыцці народа і ў маім асабістым жыцці. Я ўсё болей разумею значэнне мовы для яднання народа. Канешне, я думаю пра мову і магу пацвердзіць у канцы свайго жыцця: калі не будзе мовы, дык не будзе беларускай нацыі, не будзе беларускага народа.

***— Генадзь Мікалаевіч, магу яшчэ папрасіць вас сказаць нешта тым, хто застаецца?***

— Да тых, хто застанецца, у мяне адна вялікая просьба: берагчы Беларусь, прадаўжаць тое, што зрабілі і не дарабілі яе сыны лепшыя. І спадзявацца, што ўсе мы — і тыя, што былі, і тыя, што будуць, і тыя, што ёсць, — усе мы вечныя. Вечныя ў нашай мове, вечныя ў нашай гісторыі, вечныя ў беларускай зямлі, у беларускім слове.

**Цалкам гутарка будзе надрукаваная ў бліжэйшых нумарах часопіса «Дзеяслоў».**

# Венецыя. Чаўны і людзі

Алесь КІРКЕВІЧ

**З Падуі да Венецыі цягнік ідзе хвілін дваццаць пяць. Цікава, мабыць, жыць і ведаць, што ад пярліны сусветнай архітэктуры цябе аддзяляе 25 хвілінаў. Сеў ды паехаў. Так мы і зрабілі з самай раніцы.**

Цалкам выпадкова трапіла, што прыехалі мы ў дзень св. Марка — патрона Венецыі. Але зранку ўсё яшчэ ціха — горад прачынаецца ад сну. Птушкі ў гэтым сэнсе больш растаропныя за людзей: агромністыя габіяны, большыя за чаек, расцярушваюць пакеты са смеццем на вузенькіх вулачках ды ганяюць галубоў.

У горадзе, збудаваным на палях, няма не толькі машын, але і раслiннасці. Пра гэта неяк не задумваешся, пакуль не трапіш. Сапраўды, а дзе ж тут чаму расці? Куды ездзіць?.. Увесь рух — толькі па вадзе альбо на сваіх дваіх: праз безліч мастоў ды вулачак.

Разрэкламаваныя чорныя з пазалотай гандолы зараз — транспарт для турыстаў. Звычайныя жыхары горада карыстаюцца воднымі трамвайчыкамі альбо асабістымі чаўнамі. Чаўны тут развозяць тавар па крамах, чаўны вывозяць смецце, усё на вадзе ды праз ваду. Таму і пах ад каналаў часам цалкам адпаведны — жывы.

«Вы из России?» — пытаецца на вуліцы жанчына. Украінка. Тут іх шмат. Праца за мяжой часта разбурае сем'і альбо вядзе да «люстэркавага жыцця». Дзве сям'і, дзве рэальнасці, грошы праз «вэстэрн юніян»... Размаўляем пра вайну, пра заробкі, тутэйшыя рэаліі. У яе і ў нас — розная Венецыя. Для нас — казка, акварэльны жывапіс, для яе — праца, хлеб штодзённы...

Цікава, што Венецыя не стварае ўражанне горада-музея альбо галівудскага павільёна. Жыццё не спынілася ў часе, калі Венецыя была эканамічнай імперыяй, уладальніцай мораў, апошняй надзеяй Усходняй Рымскай Імперыі. За раманскімі парталамі вокнаў сярэднявечных камяніцаў людзі сушаць бялізну, выстаўляюць вазоны з кветкамі, вешаюць сцягі горада ці ЗША — каму як падабаецца.

А гандолы — гэта для турыстаў. Хочаш пакатацца? Калі ласка, 80 еўра. За 5 цэбе наўпрост перавязуць на іншы бок канала — можа сэлфі паспееш зрабіць. Прафесія гандальера тут, зразумела, элітная. Усе вакансіі даўно размеркаваныя. Цікава назіраць з мосту, як у якім-небудзь вузкім месцы ледзьве раз'язджаюцца некалькі чаўноў, поўныя турыстаў, а з аднаго гандальер яшчэ абавязкова зацягне арыю — на радасць японскім парачкам. Поўны сэрвіс, нічога не скажаш.





Фота аўтара



Па асноўных артэрыях горада абедам сапраўды цяжка прайсці — жывое мора турыстаў. Аднак варта на першым жа павароце збочыць — і ты апынешся сам на сам з сярэднявечнай казкай. Згубіцца ў Венецыі вельмі проста, і нават неабходна, каб адчуць горад: убачыць самотную дзяўчыну на беразе канала альбо зайсці на кніжны развал з сумуючым прадаўцом, дзе ніхто табе не будзе нічога навязваць.

Сапраўдная праблема, як апынулася, прыдбаць у Венецыі хоць нешта італьянскае. Ад рознакаляровых кітайскіх магнітаў, талерак і маек хутка пачынае мільгацець у вачах. Прадаюць іх, прычым, пакістанцы альбо філіпінцы. Такое ўражанне, што ўвесь працэс працы з турыстамі можа адбывацца без удзелу італьянцаў. Вось горад, вось сувеніры, вось прадаўцы, а вось — турысты. Навошта італьянцы?

Можа некалі так і будзе, але лепш ужо хай горад пойдзе пад ваду, чым захлынецца ў мультыкультуралізме. Тых жа самых з выгляду прадаўцоў з тым жа самым таварам з хуткім часе давядзецца ўбачыць у Рыме...

І ўсё ж такі Венецыя не Дыснэйлэнд і не здымачная пляцоўка для кліпаў. Горад жыве з турыстаў, але не пампэ без іх. Бо захаваў свой твар і самапавагу. Самазахаваўся. А калі б тысячы латкоў з кітайскімі сувенірамі ды натоўпы японскіх турыстаў у адзін дзень зніклі нейкім цудам, венецыянцы, як і сотні год таму, пайшлі б лавіць рыбу, гандляваць соллю ды рыхтавацца да якога-небудзь крыжовага паходу.

# Культурніцкі дыялог: «Спяваючыя пісьмёны»

Новы ЧАС

**VII Міжнародны фестываль славянскай паэзіі «Поющие письмена» («Спяваючыя пісьмёны»), які штогод збірае паэтаў і перакладчыкаў з Беларусі, Балгарыі, Македоніі, Польшчы, Сербіі, Славакіі, Славеніі, Украіны, Харватыі, Чарнагорыі і Расіі, адбыўся ў Цвяры.**




У рамках мерапрыемства сваё майстэрства паказалі найлепшыя фальклорныя калектывы, гурты інструментальнай музыкі і сольныя выканаўцы, фестываль дазволіў пашырыць рамкі культурнага супрацоўніцтва паміж славянскімі краінамі і пісьменнікамі.

Праграма форуму гэтага года была насычана паэтычнымі вечарынамі, кніжнымі прэзентацыямі, майстар-класамі па паэтычным мастацкім перакладзе. Сярод ганаровых гасцей сёлетняга фестывалю — Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Сербія ў Расіі Славенка Тэрзіч.

Фестываль «Спяваючыя пісьмёны» — яркі прыклад абмену дасягненнямі мастацтва. За гады свайго існавання ён паспеў аб'яднаць таленты з многіх краін і набыў статус міжнароднага форуму славянскай культуры.

Беларуская дэлегацыю гэтым разам прадставілі маладыя — літаратарка Валярына Кустава з Саюза беларускіх пісьменнікаў і паэтка-пачаткоўца Людміла Клачко з Саюза пісьменнікаў Беларусі. Трэба адзначыць, што летась лаўрэатам Фэсту за шматгадовы ўнёсак у літаратуру стаў акурат беларускі паэт Алесь Разанаў, а лаўрэатам аднаго з першых фэстаў у адпаведнай намінацыі быў адзначаны Уладзімір Някляеў.

— Штогадовы фестываль «Спяваючыя пісьмёны» прымеркаваны да вялікага свята — Дня славянскага пісьменства і культуры і Года літаратуры ў краіне, — адзначыў у вітальным слове кіраўнік рэгіёну Андрэй Шавялёў. Губернатар казаў пра важнасць захавання духоўнага і культурнага сваяцтва: «Няхай сёмы Міжнародны фестываль «Спяваючыя пісьмёны» стане яшчэ адным важным крокам у справе захавання міру, умацавання адзінства і дружбы нашых народаў, умацавання ў грамадстве традыцыйных духоўна-маральных каштоўнасцяў».

Мастацкі кіраўнік фестывалю Сяргей Главюк перафразаваў знанае выказванне і адзначыў: «Калі гавораць Музы — зброя маўчыць. Дык няхай лепей на нашай культурніцкай пляцоўцы дыскутуюць паэты і словы, чымсьці гавораць гарматы».

Таксама ў гала-канцэрце прынялі ўдзел Губернатарскі камерны аркестр «Расійская Камерата» і Губернатарскі камерны хор Цвярской абласной акадэмічнай філармоніі «Рускі партэс».

Уладальнікам дыплома ў намінацыі «За шматгадовую выбітную паэтычную творчасць» стаў паэт і бард Аляксей Вітакоў з Масквы, «За папулярызацыю рускай класічнай і сучаснай літаратуры за мяжой» дыплом уручаны перакладчыцы з Балгарыі Надзеі Паповай. У намінацыі «За пераклад твораў славянскіх паэтаў на рускую мову» адзначана Ала Шэшкен, якая цяпер жыве ў Маскве, але, да слова, сама паходзіць з Полацка.

> **Даведка:**
>
> І Міжнародны фестываль славянскай паэзіі «Спяваючыя пісьмёны» адбыўся ў Цвяры ў 2009 годзе і стаў працягам расійскага Дня славянскага пісьменства і культуры, сталіцай правядзення якога была ў 2008 годзе Цвер.

Дыплом «Творчасць маладых» традыцыйна застаўся ў маладога цвярскога аўтара — гэтым разам публіка дазналася пра імя Тацяны Вінакуравай.

Уражаннямі ад Фестывалю падзялілася і беларуская ўдзельніца — літаратарка Валярына Кустава: «На выступе, апроч чытання вершаў, я падзялілася са слухачамі тым, што маю прыватную мару — пабачыць шырокі разліў Волгі, адкуль паходзіць мой дзядуля Іван. І арганізатары фэсту ажыццявілі гэта. Таксама было прыемна, што мая беларуская паэзія па-беларуску была сустрэтая з прыязнасцю і цікавасцю... Што яна была зразуметая».

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 713

Падпісана да друку 29. 05.2015. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.